# Анатоль Вялюгін

# З белага камення — сіняе падаменне

КНІГА ПАЭЗІІ

*Мінск*
*«Мастацкая літаратура»*
*1993*

## СПРОБА ТЭСТАМЕНТА

*Перабыты час — цяжэнная аграмадзіна над крохкім дрэвам жыцця. У засені навіслага цяжару азірнецца белагаловы вечар: адшасцела нешомасна лістота, адпунсавела пад вятрамі, у незваротны вырай адлятае.*

*Які ж ён караценькі, чалавечы век!*

*Толькі памяць, лютая памяць жывымі каранямі арэ сабе каменную глыбу на зварот адшумелага часу: у баразёнках-расколінах, можа, на познюю радасць зарунее пламенне вёсен і дарог?*

*Гэтак, «з агідаю чытаючы жыццё маё», перабіраю ўсё па каліву, жахаюся: столькі непатрэбшчыны ў падарожным набытку!*

*Згасні, усё лацьвавернае, барабанна-бараць-бітнае. Спапяліся, марнае ды варажнечае!*

*Толькі яно застаецца — крэмень аб крэмень! — запаветнае сіняе пламенне.*



# ВЕРШЫ

## *Пуня*

Стагоў дванаццаць цішыні
і зоранькі праз дах.
Гербарый лета...
                    Не крані!
Паваліць хмельны пах.

І толькі ластаўкі: віць-віць...
За бэльку —
                    тур-трава,
дзе можа поначы ўдавіць
гарачая ўдава.

1938

* * *

Завеі снегам неба засцяць.
Сядзяць шпакі,
                    нібыта ў сне,
і распінаюцца ад шчасця
на зацярушанай сасне.

Іх тут шпакоўня толькі сніла.
Бары па пояс замяло.
Яны ляцелі рана з Ніла
у багушэўскае сяло.

Пад танкамі гула пустыня,
вада займалася агнём.
І толькі тут,
у белай стыні,
сустрэў спакойна родны дом.

Дармо, што веі неба засцяць.
Сядзяць яны,
нібыта ў сне,
і распінаюцца ад шчасця
на зацярушанай сасне.

1941

* * *

Я знаём з тваім воблікам.
Бежанцы едуць... Зірні! Там
папялістыя воблакі
ці дымкі ад зенітак?
Пазнаёміўся ў верасні.
(Рыжая Вільня... І панны...)
У сталіцах цяперашніх
нарасхоп чамаданы.
Хмарай пыл —
за салдатамі,
нема плачуць салдаткі.
Пад зялёнымі шатамі
лазарэта палаткі.
Хмара пылу ці прысаку?..
Дымам пахнуць зярняты...
На сцягах нашых
высака
прыгавор табе ўзняты,
вайна.

1941

## *Лемантар вайны*

*Мама мыла раму* —
там, на ўроку рана.
Вісне ў небе «рама»,
што забіла маму.

1941

## *Ноч у смаленскім лесе*

У агні захлынулася Лёзна.
Гул нябёс.
І дым над палянамі.
Счырванілі пажары грозна
на веях гарачыя слёзы —
Беларусь лягла
за курганамі.

І памерці не страшна мне будзе,
гулам бою закалыханаму.
Мае раны ў разорах астудзіш,
абапрэшся з думай на грудзі
сівымі — да сонца — курганамі,
Беларусь...
Беларусь мая...

1941

## *Бежанцы*

Рудня, лясы Духаўшчыны,
пад бомбамі
Дарагабуж...
Са скарбам брыдуць жанчыны —
тысячы бежанскіх душ.
Попел руін на айчыне,
легла трава на парог...

Смерць
сінягубая
стыне
ў пыльнай пятлі дарог.
Злосным фугасным жалезам
скошаны продкаў крыжы.
«Фокер» гарбаты
над лесам,
як марсіянін,
кружыў.
Махалі стрэчным танкістам...
Ды слёз я не бачыў тады.
Быццам у Суздаль лясісты
продкі ішлі
ад арды.

1941

## *Сланечнік з прабітай галавой*

Пад гудкі, трывожныя сірэны,
як на моры ў бітве караблі,
паміралі дымныя мартэны.
...а вакол
сланечнікі цвілі.
Блаславіўшы буру аманала,
у яры заплакаў сталявар,
калі хмара выбухаў забрала
неба,
стэп
і цвету росны жар.
Жоўты стэп...
Мартэны...
Краю любы,
ты гарыш у памяці жывой,
як сланечнік
па-над стромай згубы
з сонечнай прабітай галавой.

1942

## *Хлопчык з Ленінграда*

Заехаўшы з пазіцый
да сям'і сваёй,
маўчыць палкоўнік
у цямніцы
над Нявой.

Сняжок ляціць з разбітага акна.
Забрала жонку доўгая труна.
Адзін сынок...
Ён ад блакады, ад вайны,
нібыта парастак у склепе бульбяны.

— Вось хлеб (сляза на партупею —
кап ды кап)...
жывога фрыца пакажу... прывёз у штаб...

А сын ускінуў воч блакітныя нажы:
— Не трэба! Лепш забітага мне пакажы!..

1942

## *На маршы*

Кароткім сном я пераб'юся
пад зорамі
у халады,
са стога выскачу, смяюся,
няголены і малады.

Сябе і тут не перайначу,
дзе песня падае ў раллю.
Усё, да краю свету, бачу
і знаю, знаю, што раблю.

За Донам гул стамлёна-будні.
Бальшак, сасмяглы, зарыпіць,
ваду з атручанае студні
аддаўшы кулямётам піць.

1942

## *Прывал*

Закурыліся за Донам
у сухмень шляхі вайны,
дзе наліты сінім звонам
на баштанах кавуны.

На прывале:
— Рай пяхоце!.. —
гасіць смагу весялун.
Растае ў гарачым роце
чырвань-холадам кавун.

1942

## *Віры нябёс*

Дасвецця інь
з прысад рашуча
на першазімак
гром атрос.
У стылай глыбіні нябёс
расцвіў рамонак парашута.

Крыж-накрыж
вогненныя трасы —
машына ў небе ці касцёр?
Сваё адракаталі шкасы,
адгаманіў сваё матор.

Жыццё, адвага і пакута
на скрыжаванні лютых трас.
Рамонак белы парашута...
І ён, пасечаны, пагас.
Віры нябёс,
спаліўшы крылы,
цябе, саколе, узялі.

І праўда,
лётчыкаў магілы
спаткаеш рэдка на зямлі.

1942

## *Васількі*

У мінных разорах за Лугай-ракой,
з-пад горкага попелу Гжацка
расцвіў васілёк Беларусі маёй
на сумнай магіле салдацкай.

Сінеюць магілы пад сонцам здалёк.
Гаруе бацькоўская хата.
На брацкіх курганах цвіце васілёк —
вясёлае вока салдата.

1942

## *Плач Яраслаўны*

(Вершаваны пераказ)

Пачарнела спелае калоссе,
хмары цяжка ходзяць над зямлёй.
У Пуціўлі на сцяне галосіць
Яраслаўна досвітнай парой.

— Заламаны ручанькі маланак,
я адна, гаротная, адна.
Палячу зязюляй на паляны —
з мечам меч сустрэліся сцямна.
У журбе схілюся рана-рана
над рачным туманным серабром,
на магутным целе князя раны
абатру бабровым рукавом...

У Пуціўлі плача Яраслаўна
на драўлянай гарадской сцяне:

— Буйны вецер, ой, вятрыска слаўны!
Не карай, самотную, мяне.
На Каяле раніцай сівою
ты засеяў стрэламі дзірван.
Князь упаў, сваіх склікае вояў,
а дружыну, глянь, пасе груган.

Хіба мала для цябе прасторы?
Распагодзь нябёсны сіні плёс,
надзімай вятрылы шумна ў моры
ды змахні з павей расіны слёз...

Яраслаўна, тужачы па ладу,
заламала рукі на сцяне:

— Ой, Дняпро Славуціч! Са спагадай,
можа, ты паслухаеш мяне.
Прабівала скалы твая слава
да шатроў паганых палаўчан.
У чаўне люляў ты Святаслава,
пахаваў кабякаўскі калчан.
Я хачу, каб, ласкай змыўшы змору,
дарагога мужа мне прынёс,
бо высока закіпае мора
ад маіх салёна-горкіх слёз...

За крылом жалобным край палынны,
пад зарой чырвоная сцяна.
Яраслаўна плача безупынна,
як зязюля, на сцяне адна:

— Сонца, сонейка! Чаму так рана
падняло прасветлае чало,
у бязводным стэпе, за курганам,
лукі вояў смагаю звяло?
Заклінаю, валадар адзіны:
як паганец вытапча палі —
і мяне, і князя, і дружыну
лепш на попел полымна спалі!..

1942—1943

## *Няўзяты форт*

Гарэла ўся —
ў расцёках нафты —
Волга,
і кратэры руін
гулі кругом.

Сто сутак
у аблозе ворага
стаяў каменны
непрыступны дом.
Атакі
захлыналіся
крывёю,
хоць бралі —
для адвагі —
шнапс і ром.
Стаяў, як форт,
над вулкаю крывою
у дыме дом,
кінжалячы
агнём.
Тады
нямецкі генерал
са злосці
на крэпасць кінуў
самалётаў пяць,
і затрашчэлі
бэлькі,
быццам косці,
і не было чаго
агню глытаць.
Чарнелі толькі
груды цэглы бітай.
Маўчаў гарбаты
спалены квартал.
Варонкі абыходзячы,
са світай
сюды з'явіўся
іхні генерал.
Гіда і пыха
з хмурным генералам
спыніліся
ля кратэра руін —
раскінуў рукі ціха
пад абвалам
у цёмнай рытвіне
баец.
— Адзін?!.—
Схіліўся Паўлюс
са сваім эскортам

разгледзець твар,
асыпаны зямлёй...
На дымным друзе
адвярнуўся мёртвы,
жывых спалохаўшы
па-над сабой.

1943

* * *

Жыцця майго і смерці пераправы
і Сталінград дагэтуль сняцца мне...
Зваліўся я, падкошаны жалезам,
абняў рукамі мёрзлую зямлю.
Яна прапахла дымам, палыновай
слязой гаротных матак і дзяцей.
Калі я моцна сціснуў яе ў жменьцы —
праз пальцы пырснула густая кроў!..
Не помню, як мяне на самалёце
вязлі ў шпіталь, далёка на Урал,
дзе па імшарах шэрых журавіны
цвітуць і спеюць позна, як і ў нас.
Я толькі ўбачыў стол аперацыйнай,
у вокнах — чарналапую тайгу.
Спакой навокал... Гэтак бела-бела,
нібы калыша воблака мяне...
Мае здранцвелыя разнялі пальцы —
пасыпалася на паркет зямля.
І жвір маўкліва, доўга разглядалі,
пасля сабраў у жменьку санітар.
Сівенькі, на майго падобны дзеда,
нячутна ён падаўся да дзвярэй.
У сне паранены крычаў: — Ратуйце!..
За вокнамі агні
і чорны снег...

1943

## *Чарамша*

На таежных вырубах Урала,
дзе лабатых валуноў спачынак,
лета рана чарамшу збірала
у прыполы гаманкіх дзяўчынак.

Ляды чэзлі ў мроіве ліловым —
росны квецень на прагалы рушыў.
Над кустом шыпшыны спеўным словам
расцвіла русявенькая:
— Ружа!..

Быццам з Віслы я пачуў усплёскі,
старажытныя пабачыў вежы,—
прада мною ручаёчкам польскім
пражурчэла слова гэтак свежа!

На таежных вырубах Урала,
як звінеў званок на перапынак,
школа рана чарамшу збірала
у прыполы гаманкіх дзяўчынак.

Саладзей мядзведжае цыбулі
не здабыць ласунку сёння ў свеце.
У гарах знайшлі сабе прытулле
разам з намі і палякаў дзеці.

Па такой зямлі ніколі, дружа,
ты не пройдзеш сумна, як выгнаннік,—
дасць і хлеб, і вернае аружжа,
месца дасць для бою ў ратным стане.

Дзе над краем слёзна хмары віслі,
задыхалася ў агні Варшава,—
скажам шчыра віратлівай Вісле:
— З воляй, панна,
пенься новай славай!

1943

## *Уральская восень*

*А. Агафонаву*

Аскомай на зубе трашчыць
рубін кіславатай брусніцы.
Харыус бліснe ў карчы
з водмелі быстрай крыніцы.

І полаз-вужака ля скал
апошняю ласкай сагрэта,
Толькі паспелая сталь
бушуе, як вечнае лета.

Здымай са сцяны карабін!
І там, дзе паўстанак двухсоты,
запырскае кіслы рубін
патронаў халодныя соты.

1944

## *Смаленск*

Сасновы малахіт,
бруснічная зара.
Славян чырвоны шчыт
на беразе Дняпра.

Прыняў ён ратны звон
не раз і не другі:
тут бег Напалеон
праз сінія снягі.

Узняўся над ракой,
як брама
у сцяне,
за вежамі якой
шумець Беразіне!

1943

## *Балада аб уральскім танку*

На скалах Урала —
за хмарамі кедры.
Ішлі рудакопы
у цёмныя нетры.

І думалі людзі
начамі ў забоях
пра верную зброю
для грознага бою.

Зямля залатая
руду аддавала,
каб домны кіпелі
патопам метала.

Разумныя рукі
і ўвішныя краны
па частках машыну
збіралі старанна.

І выліты гневам
з уральскай пароды,
стаяў ён, гатовы
у бой і паходы.

Маленькі рамеснік
на змене бяссоннай
пакрыў яго фарбай,
як травы, зялёнай.

Сядзеў на гармаце
ў тумане махоркі,
на вежах малюючы
ясныя зоркі.

На важнай рабоце
не спаў ён дзве ночы —
зліпаюцца вочы,
суровыя вочы.

Ды сон разагнаўшы
ля новай гарматы,

прыходзяць на памяць
матуля і хаты,

якія пакінуў
у горкае лета,
якія ў палоне
цяпер за паўсвета...

І хлопчык з надзеяй
пісаў над байніцай:
*«Вярні маю родную
вёску Суніцы!»*

У закліку літар,
магутны, зялёны,
танк выбег у грукат
гармат палігона.

А потым цягнулі
яго паравозы
па горнай, смалістай
таежнай дарозе.

Яго з эшалонам
глыталі тунелі.
Над Волгай раздольнай
масты прашумелі.

За дымным Смаленскам
на цёмным паўстанку
машыну зґрузілі
байцы на палянку.

На бронь накідаўшы
вясёлых ялінак,
танкісты паілі
маторы бензінам.

Чытаў генерал
над магутнай байніцай:
*«Вярні маю родную
вёску Суніцы!»*

Па закліку літар,
узняты загадам,

танк выбег на поле,
ударыў снарадам.

Багата на полі
для помсты работы —
крышыў кулямёты,
бетонныя доты.

Хоць білі гарматы
па сыну Урала,
ды бронь баявую
снарадам не брала!

І танк наляцеў
на парадкі пяхоты;
крычалі ад жаху
зялёныя роты.

На траках счарнелі
мундзіраў палоскі.
. . . . . . . . . . . . .

Ён першым спыніўся
на вуліцы вёскі.

Спацелы танкіст
паказаўся над люкам.
Жалобная вёска.
Без вокан. Без гукаў.

І хрысціцца бабка
на зоркі, байніцы...
— Як вёска завецца?
— Сыночак, Суніцы...

1944

## *Пакутніца*

Над прахам цэглы абгарэлай
сляпыя тоўпяцца муры.
Ступіўшы на балкон замшэлы,
шуміць бярэзінка ўгары.

На камені крамяных сокаў
улетку не хапае ёй,
расце, быліначка, высока,
трымціць трывожна над зямлёй.

У камяніцах сон савіны
і лапушыцца лебяда.
Жывое зерне на руінах
бяда пасеяла, бяда.

Хаця, нібы вачніцы смерці,
чарнеюць вокны камяніц,—
ляпеча лісцейка, смяецца
сярод руін у цішыні.

Услявіла зялёнай песняй
жыцця адвечны дужы крок,
чакае, смаглая з прадвесня,
гаючай літасці аблок.

Кладуць чырвоныя цагліны
ў праломы дома дзень пры дні,
рукамі, мокрымі ад гліны,
бярозку знімуць з вышыні.

Малой пакутніцы здаецца,
што стане на зямлі яна
і белым станам адаб'ецца
у сіняй завадзі акна.

1945

## *На брані ліповы цвет*

Жалеза крышачы,
гуляў бяссонны гром.
Шуміць легендамі
кудлаты лес.
Усыпаў крупаўскі
іржавы лом
чыгуначных адхонаў
жаўтапес.

Прыкурвалі байцы
гвардзейскіх рот,
мясцовы моцны
хвалячы мультан.
Рыпеў лясны абоз.
Каля падвод
ішоў хлапчук,
пушчанскі партызан.

Зачараваны,
ён глядзеў на шлях.
Слупамі пылу
шлях разбегся ўдаль.
Іскрыста
на расхрыстаных грудзях
свяціўся,
промні ловячы,
медаль.

Пад сонцам
парыжэлі каласкі
узнятых у здзіўленні броў.
А можа, іх
кранулі языкі
зацепленых у цемрадзі
кастроў?..

Выбоіны.
І цяжка пад гарой.
Малы
каню дапамагаў плячом.
Шыракагруды,

з грываю рудой,
буланы конь
пазначаны таўром.

Цягнуў трафейны
потны жарабок
амаль паўзгона
цёплае сасны.
З машыны крыкнулі:
— Куды, сынок?..
— Вязу матулі хату
я з вайны,—
сказаў паважна
хлопчык-партызан.
І пасвятлелі вочы
у салдат,
нібы з сівых
пажарышчаў палян
святліста глянулі
акенцы хат.

* * *

Узняўся пыл слупамі
шэрымі да хмар.
«Кацюшы» пад чахламі,
з кухняй кашавар.

Пантоны на трохтонках,
сунуцца штыкі.
Гудуць, як восы, тонка
у небе ястрабкі.

На танках,
як на печах,
расселіся байцы,
а ім
з лясоў настрэчу —
і жнеі,
і касцы.

Пра кавуны,
пра Янку
тутэйшы неразвон —

трафейны італьянскі
пяе акардэон.

І конь шпарчэй ступае,
пазначаны таўром,
і цэлы фронт жадае
хлапцу адгрукаць дом,
яшчэ сустрэч з дзяўчынай
жадае ад душы.

Паўзе, гудзе машына
штабная па шашы.

— З паходу, ваявода?..
Да маткі на прывал? —
Спыніўся ля падводы,
жартуе генерал.

— Як зваць цябе? —
Ласкава
глядзіць на мальца ён.

Раптоўна ў запявалы
замоўк акардэон.

І з кожнае падводы
тады пачуўся крык:
— Кандрат...
— Кандрат Прыгода!..
— Адважны падрыўнік!..

— Па бацьку — не Ягорыч? —
здзівіўся генерал.

— Ягораў я, з-пад Горак,
з Ажынавых прагал.
Мой бацька ў вас? — пытае
стрывожаны Кандрат.
А генерал чакае,
ён з кіцеля знімае
медаль за Сталінград.

Сказаць ён штосьці хоча,
на погарбы магіл

зірнуў і выцер вочы:
дарожны душны пыл...

Успомніў ён салдата,
забітага ў снягах —
цяжкі да Сталінграда,
ад Волгі доўгі шлях.

— Дзе бацька? —
ў непакоі
спытаў яшчэ Кандрат.

— Вось памяць аб герої,
медаль за Сталінград
насі, сынок...

Машына
штабная загула.
Слязою ў каляіны
цячэ з бярвён смала.

Маўчаць сябры Кандрата.
Маўчыць малы Кандрат,
гарачым горам сцяты,
сціскае аўтамат.

Ідзе ён за падводай
у засені ялін.
Дарогай фронт з усходу
грукоча на Берлін.

1944

## *Цяжкія снапы*

Чарнее белы вол ад зморы.
Рубцамі ў памяці — калі
з гразі бульбянішча шайморы
у хату дзеці валаклі.

Няма мужчын.
З двароў забралі
германцы коней у абоз.

Сябе запрэглі ды аралі
жанкі без ляманту і слёз.

З баковак вынеслі сявенькі
ужо забытыя, бадай.
Падмёўшы клець, скупыя жменькі
ў разоры кінула бяда.

Не згасіць лютай сцюжы подых
надзей вясновае святло:
пад снегам, прагнучы свабоды,
зярнятка руннае жыло.

Сястрыцца ніва з перамогай
адборным зернем, як свінец.
Глядзіце, людзі:
                    над дарогай
цалуе колас наш баец.

Ідзе з Берліна ён дахаты,
мінае Брэст, мінае Мір.
У ранцы выцвілым салдата
ляжыць крывёй здабыты мір.

Яшчэ не моўкне гром салюта
на плошчах зорнае Масквы.
Дунай, Амур, Дняпро-Славута
шумяць, што кубак кругавы.

А тут, дзе слуцкія дарогі,
на Мінск разбегліся слупы,—
ужо рукою Перамогі
цяжкія звязаны снапы.

1945

## *Палын*

Сумна пахне палын
на зарослых
                гарбатых руінах.
І кавалкі цаглін
пад нагамі...

Ідзеш, як па мінах.
Сэрца сцюжна ляціць
у прадонне ўспамінаў,
трывогі.
Ледзь ліхтарык блішчыць,
хтось у цемры
шукае дарогі.
Пехацінец
ідзе,
бесхацінец
брыдзе
ад вакзала
ў паўночным спакоі.
Ветру,
хмарам,
бядзе
адчынены ў доме пакоі.
Там
усходцы вядуць
праз паверхі пустыя
да зорак.
Каля ганка цвітуць
палыны
у глыбокіх разорах.
У разбітых мурах
з плошчы Волі
кугакаюць совы...

. . . . . . . . . . .

У глухіх палынах
мы спаткаліся,
горад,
сурова.
Папялішчаў прастор
і агеньчык гаркавай карбідкі...
Вочы ясныя зор
над табой
пагасілі зенiткі.
Як цяплушка,
трамвай
нас вязе
да пярэдняга
краю.
Катлаваны капай!..

Зноў
гудкамі
дасвецце заграе.
Сонцам ззяе пралом.
Скінь шынель!..

Йржавы лом
абатры над руінамі пакляй,
каб сівым палыном
рукі,
хлеб
і каханне
не пахлі.

1945

## *Грымотная цішыня*

Цішыня на Ціхім акіяне,
у Берліне прыцемкі руін.
Толькі цьмяна на лясной паляне
дагараюць вогнішчы рабін.

Цішыня грымотней ад віхуры,
што трацілам плавіць небакрай.
Сам сабе на крэйсеры «Місуры»
падпісаў пракляцце самурай.

І зняла цяжкі шалом Расія
пад журбой стамлёных журавоў.
Чуеш плач іх —
з Крыма ў ясні сіняй
да грады Курыльскіх астравоў?..

1945

## *Снегіры*

Заснулі белыя палеткі.
Мароз загрукаў па двары.
Зірнеш з акна:
нібыта кветкі,
на сініх вербах снегіры.

Надзьмуты важна птушак воллі...
У шуме строгай сумятні
ані забудуцца ніколі
маленства снежаньскія дні.

Сіло стаяла ля дубровы.
Бяжы... узрушаны, бяры
трапёткі, вогненна-пуховы,
жывы кавалачак зары!

1945

## *Паводка*

Каля дняпроўскіх стром
будуе дом
брыгада.
Грукоча крыгалом,
няйначай, кананада.

Плыве здалёку крыг
халодны гулкі скрогат, —
ад страху на Дняпры
счарнела ўраз дарога.

У цесны наш барак
вяла яна з туману:
вазілі напрасцяк
бярвенне шляхам санным...

З сякерамі ля стром
прыціхла ўся брыгада —
грукоча крыгалом,
як тая кананада.

І хтосьці з талакі
згадаў бaі ля Волгі...
А вецер дзьме з ракі
і пахне поўднем, волкі.

На сэрцы —
непакой,
і радасць, і трывога.
Над шумнаю вадой
ламаецца дарога.

З-пад жоўтых стром удаль
плывуць яе кавалкі.
Кругом бурліць вада...
Крычаць у небе каўкі...

Шуміць рака ў лазе
на пожнях, на палянах,
здаецца, й нас нясе
удаль, ад шчасця п'яных.

1946

## *Застава над Бугам*

Жывіцаю сасны каравай
і медуніцаю хмялей.
Без візы гоніць над заставай
хмурынку сіні ветравей.
За Бугам вузкія загоны —
у цвеце бульба ды гарох.
Здавён каменныя мадонны
маўкліва плачуць ля дарог.
Зямля суседкі...
У адведкі
за бель-хмурынкай не бяжы —
дзяржаўны слуп.
І герб савецкі.
І ты —
салдат на рубяжы.

Пад голлем пудкім не галёкай:
аўчаркі струняць павадкі,
хаця над Эльбаю далёкай
пасталі брэсцкія палкі.

1946

## *Гармата ў музеі*

У строгай засені музея
блішчыць, як лёд, навошчаны паркет.
Людской крывёю іржавее
пасечаны асколкамі лафет.

То партызанская гармата:
замок, здабыты ў завадзі рачной,
і ствол,
дзе прозвішча салдата,
забітага ля Брэста раніцой.

Яе сабралі земляробы,
і ў студзені зайгралі перуны.
Прачнуўся Слуцак і Старобін:
з Масквы —
здалося ім —
прыйшлі сыны!..

Цяпер у цішыні музея
гармата сніць
Казлова санны рэйд.
Ды неба ад ракет святлее,
грыміць салют армейскіх батарэй.

І гільзы падбіраюць дзеці,
на вуліцах шчабечуць,
як стрыжы.
Асветленая на паркеце,
ад зайздрасці гармата задрыжыць.

Разбітыя стальныя грудзі,
здаецца, раптам уздыхнуць ізноў,

і гром яе
сяброў разбудзіць,
што непрабудна спяць сярод лясоў.

1946

## *Дождж*

На нівы, рыжыя папары,
дзе смаліць спёкай сухавей,
сівы пярун са злоснай хмары
навёў сто дваццаць батарэй.

Варочаўся пад самым сонцам
гультаявата грозны гром.
Трывожна крумкаў на сасонцы
крумкач, махаючы крылом.

І, прагнучы хутчэй напіцца,
пад ветрам падала на дол
даўно засмаглая пшаніца.
Гулі ў садах калоды пчол.

Дажджу прасіла ўсё пад небам:
густое голле вішняка,
бары, патрэсканая глеба
і абмялелая рака,

дзе дыхаць цяжка перакатам
з чырванапёраю платвой...
Не варухне каржакаваты
алешнік вялаю ліствой.

Прыціх натоўп на веравозе:
шафёры, цеслі, рыбакі
і перасмаглыя ў дарозе
з-пад Ельні спаленай жанкі.

Стары паромшчык на пароме
жагнаўся на харомы хмар.
Каля барометра ў райкоме
стаяў маўклівы сакратар.

І вось!.. агонь!.. агонь!.. удары,
пачаўся бой, жаданы бой!
Нібы з вядра лінулі хмары
сцюдзёнай шумнаю вадой.

Паромшчык крыкнуў на пароме,
і паўтарыў лясны абрыў,
і земляроб у кожным доме,
на кожнай ніве паўтарыў:

— Хвала дажджу!..
Чаканы, спорны,
ён булькатаў, як вадаспад.
І чуўся шум, з якім у жорны
пад восень хлыне дождж зярнят.

1946

## *Зязюля ў бары пракувала*

На ціхай Бярозе гудзе параход —
я чую твой голас, Купала!
Хоць з даты расстайнае сёння не год
зязюля ў бары пракувала.

Знямелі акопы ў высокай траве,
зрудзела рагатая каска,
бліндаж скажаніўся...
А песня жыве,
і стаўся ты вечнаю казкай.

Па казку імчаў я
пад вартай бяроз,
каб толькі к пасадцы патрапіць.
І дыхае сустрач
успенены плёс,
гайдаючы радасць на трапе.

Стрывожаны, усхваляваны ішоў,
а хваля на борце люляла
зраднелы світанак
рунеючых слоў
*«Янка Купала»*.

Знімаў
у камяшцы пілотку рыбак,
чытаючы літары гэтыя.
Вітаў
на абрыве з дзяўчынай юнак
не наш параход,
а паэта.

Спяваў «Бандароўну» на вахце матрос
то з радасцю хмельнай, то з жалем.
Плылі мы
пад косамі плачак-бяроз
у ціхую зорную далеч.

Па дрэвах, па зорах ішоў параход.
Я слухаў твой голас, Купала,
хоць з даты расстайнае сёння не год
зязюля ў бары пракувала.

1947

* * *

Калі запылены цягнік
падыдзе да Берліна,
сірэны прывітальны крык
разбудзіць успаміны.

Разбіты шлях...
Страшэнны год...
Мажайска папялішча...
Над каскамі стамлёных рот
халодны вецер свішча.

Ляжалі ў восеньскай дрыгве
асмалкамі бярозы,
і неслі чорны крыж Маскве
над намі бамбавозы.

Трасло прыціхлы шар зямлі
крутое рэха бою.

Ды не сябе мы бераглі,
а гнеўныя набоі.

На ўвесь тады ўзняліся рост
і, разграміўшы орды,
мы цяжка рушылі наўпрост
за незнаёмы Одэр.

Імчыць з Масквы, імчыць экспрэс,
і вецярок цывільны,
лістаючы берлінскі бэз,
бяжыць па наспе пыльнай.

1947

## *Горная дарога*

Даліну, таполі, дувалы
шызая хмара закрыла.
Ударылі ў твар з перавалу
ветру халодныя крылы.

Вяршыні
пакрыты
снягамі.
Машыны
спавіты
вятрамі.

Такога
не выдумаць,
здэцца.
Дарога
спіраллю віецца.
Масівы граніту.
Пячэры
клыкі сталактытаў
ашчэрацць.

То раптам
тунелі у мроку,

то прорва
двухвёрсная збоку.

Вяршыні
пакрыты
снягамі.
Машыны
спавіты
вятрамі.

А ветры чытаюць трывожна
надпіс старое грабніцы:
*«Падарожны,*
*будзь асцярожны,*
*ты — як сляза на расніцы».*

1947

## *Калыханка*

Спі, засні, маё дзіцятка,
позні ў лесе час.
Белакрылая палатка
прытуліла нас.

Хвоі скардзяцца шумліва
на сцюдзёны дождж.
Скача ў лесе палахлівы
зайка басанож.

Тыгры блізка ад палаткі
мокнуць пад даждком.
Тыгры ў нас,
                    маё дзіцятка,
растапталі дом.

Не палохайся іх, любы,
быў вялікі бой.
Біў жалезных душагубаў
смела бацька твой.

Іх браню іржа паела,
мёртвыя яны.
На гарматах заржавелых
дрэмлюць кажаны.

Спі, не плач, маё дзіцятка,
у шчаслівы час
не крыўдуй ты — хай палатка
прытуліла нас,

непагода хай лютуе...
Чуеш?..
Зноўку гром...
Гэта бацька твой будуе
цёплы светлы дом.

1947

## *Манцёр*

У выбоінах гразкай дарогі
утапіўся месяц сляпы.
Нібы рэўматычныя ногі,
гудуць і гудуць слупы.
За палямі далёка ў тумане
агнёў гарадскіх не відно.
На мокрай маркотнай паляне
манцёр праклінае ноч.

Пад слупамі электраліній
спыніўся, стаіць на гары.
Іскрамі, іскрамі сінімі
пырскае зырка «абрыў»:
навальнічнага ветру сіла,
паламаўшы макушкі вольх,
абарвала драты,
спыніла
плынь несупынную вольт.

«Аднаму не ўправіцца ноччу»,—
пазірае ў неба манцёр.
А да горада трэба крочыць

да зябкіх світальных зор.
За пагоркамі на небакраі
агнёў гарадскіх не відно —
заводы, млыны і трамваі
спыніла цёмная ноч.
І дачушка маўклівая дома
з падручнікам каля стала
сядзіць і чакае, вядома,
ад бацькі свайго
святла.

«Што ж ты думаеш доўга»,—
гамоніць
над мокрай палянаю лес.

І плюнуў манцёр у далоні,
слуп абхапіўшы, палез.
Засвяціліся хоць бы з-за хмары
высокія лямпачкі зор!
Толькі чуючы сэрца ўдары,
у цемры працуе манцёр...
Асляпіўшы полымем вочы,
занылі драты каля вольх.

Расплюскаліся ў цемры ночы
сонцы іскрыстыя вольт.
На заводах аглухлі ад грому,
і на вуліцах расцвіло.
Дачушка шчаслівая дома
крыкнула звонка:
— Святло!..

1947

* * *

Гарыць зямля. Гарыць, няйначай, порах.
Сціскае моцна цёплы карабін рука.
Не могуць грэкі жыць у родных горах,
не адчуваючы
пад пальцамі
курка.

Ляціць над рэйдамі брытанскі вымпел.
Сем год
на пляжах
вее смерцю
сіні брыз.
Замежны госць віно ў падвалах выпіў
і горлы горных рэк, са смагі, перагрыз.
Пачуўшы песні птушак на прылессях,
кладзіся ніцма, думаць пра вясну пакінь:
нат перанялі посвіст куль у песнях,
у весніх песнях бесклапотныя шпакі.

1948

## *Лета*

Паглядзі з гары, дзе ў поўдзень ясны
ад спякоты млеюць сасннякі —
бліснуць цёплыя пяскі,
як дзясны
абмялелае ракі.

Перакаты плыткія іскрацца
вогненнымі дыскамі святла.
Жоўты рай, дрымотны рай акацый
паланіла рупная пчала.

І бальшак, і лес — усё спавіта
душнаю зялёнаю смугой:
гэтак хараша красуе жыта,
сонца засланяючы сабой.

Астравок шыпшыны ў ціхім полі
пахавалі хвалі збажыны.
Крыламі махаючы паволі,
над зямлёй павіслі каршуны.

Адвячоркам падае барометр.
Наплываюць хвалі спакваля.
У вятрах,

у клубах пылу,
ў громе
страпянецца чэрствая зямля.

Скокам-бокам — кінецца, як заяц,
застукоча ў шыбы спорны дождж.
І адрэжа хмар цяжкі акраец
кожнай ніве
блiскавiцы нож.

Падстаўляй далоні вадаспаду,
слова цёплае сябрам скажы:
— Хай для нас
па нашаму нараду
смаліць сонца і шумяць дажджы!..

1948

## *Палац піянераў*

Дзіцячыя горны,
далёкія горны
звіняць у азёрнай
лясной старане.
У Мінску пачую —
трывогай агорне
і смутнай сумотаю
сэрца кране.
Трывога —
не вернецца к горнам дарога;
сумота —
мае адзвінелі даўно.
І горад —
двайнік маёй сталасці —
строга
вачамі салдата
глядзіць у вакно.
Узрушаны,
выйду на вуліцу ўранку.
(Мой горад адрозніш ад іншых сталіц.)
Палац піянераў.
Дзяўчынка на ганку

з горнам каменным
маўкліва стаіць.
Маленства застыла!
Маё.
Залатое...
— Дзяўчынка,— крычу я,—
хутчэй затрубі!
Мо рэха адкажа
з паляны лясное,
з глыбокіх гадоў
і далёкіх рабін,—
маленства прачнецца
над хваляй азёрнай
і прыйдзе ў палац піянерскі
на збор.

Ты чуеш,
як горны,
далёкія горны
звіняць ля палатак
і славяць прастор?..
Дзяўчынка каменная ў майцы каменнай
застылыя вусны адкрыла:
— Мой брат,
я з горнам разбітым,
разбураны сцены,
дзе — помніш?—
збіраўся вясёлы атрад.
Стагнаў тут
расшчэплены бомбамі камень
і градам звінела
шкло светлых вітрын.
Над горам,
над п'янымі штурмавікамі
я гнеўна трубіла.
Трубілі вятры.
Ляжалі пад цэглаю бітай мадэлі,
якія рабілі калісьці з табой,
сябры на сапраўдных машынах ляцелі,
далёка адгэтуль ляцелі
у бой.
Палац бінтавалісувеямі зімы.
Я доўга трубіла
ў трывожны прастор.

...Гарніст дарагі мой!
Прыйшлі мы,
прыйшлі мы
з франтоў і прастораў радзімы
на збор.
Ты чуеш:
грымяць у пакоях сякеры
і фарбаю пахне і цёсам сырым.
Як цяжка пазнаць нас,
сябры-піянеры!
Палац уздымаем.
Мы.
Дзецям сваім.
Прабач мне, маленства.
Цяпер я дарослы.
На варце маленства,
бяссонны, стаю.
І прыйдуць у гальштуках вогненных
вёсны
глядзець, як на цуд,
на работу маю.
Зноў смехам палац
заіскрыцца пrasторны.
Дзяўчынка на ганку,
затрубіш ты зноў.
І новыя горны,
шчаслівыя горны
праслаўяць жыццё
працавітых бацькоў.

1948

## *Мы сонца будзім*

Дубы,
што рана падпілованы,
вячыстымі галовамі
ударадць у зямныя грудзі,—
мы сонца будзім.

Раку,
дзе моцна ў згоны звязаны
дубы і сосны з вязамі,

плаціну ставячы, запрудзім,—
мы сонца будзім.

Плугі,
што выйшлі ў поле золакам,
барозны карануюць золатам:
як гай, шумець пшаніца будзе,—
мы сонца будзім.

Сады,
як воблакі, дасвеццямі
стаяць бялютка ў квецені;
не вынішча іх сцюжны студзень,—
мы сонца будзім.

Яно
ўзыходзіць, аглядаючы
асмужаныя далечы:
дасветак разгукалі людзі,
што сонца будзяць.

1949



Пялёсткі падаюць на падваконнік,
на кнігі сыплюцца, на твар дзявочы.
Зялёным ключыкам заводзіць конік
за вокнамі гадзіннік зорнай ночы.

На ўскраіне агніцца кветня замець,
гарачым паравозам вецер сніцца.
Рыхтуеш ты апошні свой экзамен,
на час і сон забыўшы,
выпускніца.

Гудкі, гудкі — як розгалас зязюлі,
пра леты-зімы шчодры напамінак
у сінім змроку залінейных вуліц
з трывожным пахам белага язміну.

1949

## *Неба маіх птушак*

Святаспеў

Ад клённіку густога
ў суцэнні кожны дом
на вуліцы Талстога,
дзе лётна мы жывём.

У шкле зялёных вокан
дрыжыць танютка звон —
гудзе,
        дыміць навокал
чыгуначны раён.

На Брэст,
            Маскву,
                        на Гомель
ляскочуць цягнікі.
Чутны
        у кожным доме,
як родныя,
            гудкі:
то бацькі
            голас сіплы,
то сына
            ранні бас...

Віхура
        іскры сыпле
на рэйкі —
            ў добры час!

Гарачы ляск і клопат.
Дэпо ў агні грымот.
А тут
        расяным кропам
прапах,
            як рай, гарод.

Чарга да квасных бочак.
Пяе на ўвесь раён
пра «синенький платочек»
старэнькі патэфон.

Чырвоны мак
                    у шыбах
адлюстравала шкло.
І чысціць голуб шызы
на коміне крыло.

Замроены,
                надзьмецца
і,
 веерам хваста
сваё падмёўшы месца,
буркуе —
              любата!

Пачуўшы буркаванне,
у мроку пад страхой
застогне цар-валжанін
з галубкай маладой.

А на гары,
                дзе пухам
завеян хатні лом,
адкажа турман пухлы
з вясёлкавым валлём.

Падвешаны там кошыкі
пад вільчык акурат,
каб не дасталі кошкі
малеч-галубянят.

Вузенькае аконца
зашклёна сінявой.
З аконца
              промень сонца
лёг пыльнай паласой.

Ад лётачкі адкінеш
драцяны барабан —
і выйдзе бій-бакінец,
за ім
       на волю
                    рыне
пярэсты
            ураган.

— Вуль, вулечкі...—
ля хаты
варожыць Касачок,
і з лёту
бій лахматы
садзіцца на плячо.

Пагладзіць птаха Коля
ды возьме пальцы ў рот.
Прыстойны
ў наваколлі
супыніцца народ.

Ашпараная свістам,
суцішыцца дзятва.
Над вуліцаю
чыстая,
без хмарак,
сінява.

Узніме пудка голаў
і лёгка,
як дымок,
закружыць шызы голуб,
пакінуўшы дамок.

За ім —
манах і турман,
а потым —
не злічыць:
здаецца,
вея-бура
сняжыста зашуміць.

У неба паглядзіце —
бялюткай чарадой
купаюцца ў блакіце
высока над зямлёй.

Вясёлая,
крылатая,
заўзятая любоў —
над вуліцай
узнятыя
аблокі галубоў!

* * *

Афішамі ў сталіцы
заклеен кожны плот.
Трамвай хутчэй імчыцца,
спяшаецца народ.

З заводскага раёна
і прыгарадных хат
ідуць
        да стадыёна,
як святам на парад.

І на афішах слова
чырвоніцца:
«ФУТБОЛ».
Пра матч
            усе размовы
і спрэчкі навакол.

Трывожнае пытанне
чуваць з усіх бакоў:
— Ці выйграюць мінчане
сягоння ў масквічоў?..

Пытаемся таксама
мы ў Колі Касачка:
— Ці выйграе «Дынама»
сягоння ў «Спартака»?

— Я пэвен, возьме наша...—
Мікола Касачок,
задыхаўшыся, кажа: —
Шырэй, славяне, крок!

Лянтач і белы турман
за пазухай у нас.

Бяруць білеты
                    штурмам
з вузенькіх вокан кас.

Каб толькі не спазніцца,
да вокан дзецюкі
стараюцца прабіцца,
штурхаючы ў бакі.

А мы ў чаргу пастанем,
хоць дробненькія,
нас
прыкмецяць грамадзяне,
і сцішыцца ля кас.

Законна
мы з білетам
ідзём на стадыён.
Прасторай,
сілай,
летам
дыхне насустрач ён.

На полі дзве каманды
навыцяжку стаяць,
чакаючы каманды
гарачы бой пачаць.

Яшчэ да іх падлеткі
бягуць па мураве —
ў ахапках кветкі,
кветкі
і Мінску,
і Маскве.

Ды вось усе пачулі
свісток.
Пара, пара!
Балельшчыкі ўздыхнулі:
— Ні пуха ні пяра...

Надзеі жар і болю
у прымаўцы чуцён.
На гулкім полі бою
мяча тугога звон.

Ну, рыхтык птахі-чайкі
над кіпеннай вадой —
мільгаюць хутка майкі.
Кіпіць упарты бой!

Удары. Развароты.
Віхураю атак

на мінскія вароты
вінтом
пайшоў «Спартак».

Хвалююцца мінчане,
і сэрцаў стук чуцён —
аж затаіў дыханне
трывожна стадыён.

Прамовіў хтось:
— Не выйграць...
Ужо гучыць удар,
ды скочыў
пругкім тыграм
насустрач варатар.

Надзеі жар і болю
у цішыні чуцён.
На гулкім полі бою
мяча тугога звон.

Дынамаўцы з разгону
ламаюць дружна фронт,
прарваўшы
абарону,
імчацца
да варот.

А мяч вядзе Назараў,
да мэты блізка ён,
і —
пушачнага ўдару
чакае стадыён.

— Хутчэй! —
крычаць падлеткі.
Як стрэл,
гучыць удар.
Ляціць
з мячом у сетку
маскоўскі варатар.

Хвілінай урачыстай
дрыжаць блакіт і дол.

Сцяжкамі,
крыкам,
свістам
вітаюць першы гол.

Павіншаваць нам трэба
знаёмых і сяброў —
пускаем мы
у неба
пярэстых галубоў.

Ляці,
кружыся,
турман,
скажы сябрам,
лянтач:
забілі нашы штурмам
у сетку першы мяч!

Вясёлая,
крылатая,
заўзятая любоў —
над горадам
узнятыя
аблокі галубоў!

* * *

Вакзальны тлум і гоман.
Сустрэч, разлук гудкі.
На Вільнюс,
Брэст,
на Гомель
сплываюць цягнікі.

Багата ў нас зялёных
прыгожых гарадоў,
і ў кожным —
стадыёны
пад крыллем галубоў!

Ды горад ёсць адзіны,
як маці,
у людзей —

Масква,
        краса радзімы,
крыніца дум і дзей.

Туды мы ўсе гатовы
паслаць сваю любоў —
бялюсенькіх паштовых
адборных галубоў.
Бяруць іх футбалісты
на свой маскоўскі матч.

Калі прывецяць
                свістам
і крыкам
            першы мяч,
іх пусцяць,
            самавітых,
каб перадалі нам,
мінчанам,
землякам:
— Законна гол забіты!..

І птахі адвячоркам
пакружаць,
            а ўначы
на вежы з чырвань-зоркай
прысядуць адпачыць.

Масквы агні і рокат.
З вячыстага Крамля
адкрылася шырока
уся як ёсць зямля:
палі...
        лясы...
                І ў Мінску
пад жоўтай дранкай дом
на вуліцы нябліскай,
дзе лётна мы жывём,
дзе воч не зводзіць сёння
Мікола Касачок,
чакаючы ў бяссонні
ганцоў сваіх здалёк.

На золку ўскіне голаў
і, ззяючы крылом,

закружыць белы голуб
высока над Крамлём.

Любові нашай ветразь
у сіняве шуміць —
з хвастом,
раздзьмутым ветрам,
паштар дамоў ляціць.

Крылаты голуб міру!
Па-над Масквою ён
з Парыжа і Каіра
усім сябрам відзён.

Там поступ дэманстрацый
і воклічы чутны —
ганьбуюць людзі працы
падпальшчыкаў вайны.

— За мір! —
гудзе паводкай
з далёкіх гарадоў,
дзе нашы аднагодкі
пускаюць галубоў.

Над Рымам
голуб міру
заблісакціць крылом
у згодзе самай шчырай
з бялюткім над Крамлём.

За ім —
лянтач і турман,
а потым —
не злічыць:
здаецца,
вея-бура
сняжыста зашуміць.

Вясёлая, крылатая,
заўзятая любоў —
па-над зямлёй
узнятыя
аблокі галубоў!

1949

## *Вяршыня на Алтаі*

Згадаю ўсё...
Гарáць над Волгай кручы.
Дрыжыць зямлёй засыпаны бліндаж.
Далёка Прага,
дзе таемна Фучык
у камеры свой піша «Рэпартаж».
Ламаецца карандаша агрызак.
Звініць ключамі за дзвярыма кат.
Яшчэ хвіліна —
і —
на допыт...
Прысак
халодных зор у павучынні крат.
А над Расіяй
зарыва мяцеліц.
Хрыпіць у рукапашнай батальён,
і валіцца на снег
зялёны немец,
кляймёны кат з Панкраца.
Гэта — ён!
Тэрмітам абглыданы Волгі кручы.
Снарадамі расшчэплены бліндаж.
Далёка Прага,
дзе бяссонны Фучык
у камеры ламае карандаш.
Ключамі смерць звініць.
Паперы мала.
Лісток апошні, бы апошні дзень.
І мрояцца ў снягах далёкіх скалы,
на вочы падае арліны цень.
Успомніў Фучык зыркі снег Алтая,
дзе гасцяваў шчасліваю парой
(палае там вяршыня залатая)...
І шэпча ў цёмнай камеры герой:
«Сюды б вяршыню! Я на снежнай белі
паклаў бы промні простыя радкоў,
каб заўсягды, высокія, гарэлі
над выспамі сівых мацерыкоў.
Настане час — закратныя каморы
вы, людзі, не пабачыце і ў сне.
Мае ж на свеце нéжытныя горы
ніколі не акрые першаснег...»

Чытала гвардыя
                у Празе брацкай
дапісаны крывёю «Рэпартаж».
Грымеў ад Волгі наш
                грымотны марш —
не справіліся ў часе мы дабрацца:
загінуў Фучык...
Грознаю хвілінай
яго імя, таварыш, прыгадай.
Названа ім вяршыня.
Снег арліны
акрыў яе,
        дзе высіцца Алтай.
Вось так нам жыць! І несці сцяг чырвоны,
спакой і смерць пракляўшы, з бою ў бой,
каб нашыя звычайныя імёны
вяршынямі зіялі над зямлёй.

1949

## *Магілы чырвоных коннікаў*

*Піліпу Пестраку*

Даўно, яшчэ на той вайне,
яны ляглі на полі бою,
у нарачанскай старане
навек абняўшыся з зямлёю.

Не разбудзіць іх...
Цішыня
па-над сіўцом глухой аблогі,
дзе асядлаў груган каня
каля прасёлачнай дарогі.

Ды хоць на ўсходзе па лясах
пралегла панская граніца,
зямля, прыняўшы гэткі прах,
ніколі не магла скарыцца.

Укрыла хвойнікам яна
магілы ад вачэй варожых.

Сцяжынка бегла не адна
ад сёл да гэтай агароджы.

На вечарынках парабкі
употай песні іх спявалі.
Рыбачкі досвіткам вянкі
на погарбы магіл паклалі.

Вянкі не вянуць колькі год.
Шуміць зялёны хвойнік борам.
Імёны коннікаў народ
аддаў пасёлкам і азёрам.

1949

## *Дзіва*

Казка

Спіць за барамі
ў калысцы пясчанай
сіняя Нарач —
дзіцё акіяна.

Коцяцца ўдаль,
набіраючы сілу,
хвалі лагодныя
да небасхілу.

За небасхілам
запырсканы пенай
хат прыбярэжных
смалістыя сцены.

Мірна на тонях,
нібыта лілея,
ветразь рыбацкі
далёка бялее.

З песняю цягне
арцель падвалокі.

З рыбай трапечуць
у сецях аблокі.

Пеніцца Нарач,
рыбацкае мора.
З берага — варта
стагодняга бору.

Сеці ўздымаеш —
над шумнай вадою
свеціцца казка
луской залатою!

* * *

Казка даўно
пачынаецца явай:
едуць з Варшавы
купцы па сяляву.

Над валунамі,
над верасам сонным
сосен зялёных
стаяць парасоны.

Дрэмлюць у соснах,
як белыя яхты,
вілы вяльможных
і дачнае шляхты.

Хваляй абмыты
бальшак камяністы,
дзе шпацыруюць,
як чаплі, турысты.

Пыл на дарозе
узняўся слупамі,
быццам дарогу
малоцяць цапамі.

Ґончыя брэшуць:
зялёнае жыта
топча на збочынах
князева світа.

Шляхта з купцамі,
паненкі з панамі
ветла знімаюць
насустрач панамы.

На паляванне
прыехаўшы нанач,
князь аглядае
нявольніцу Нарач;

толькі на чоўнах,
што хваля гайдае,
лапленай шапкі
ніхто не знімае.

Сцялі сяляне
на вёслах далоні,
вёсламі мора
ўзараўшы, як гоні.

Князем забраны
іх мора і вёслы
і растаптаны
іх душы і вёсны.

З чоўнаў
багацця
глыбіннага глыбы
бліскаюць срэбрам
і золатам рыбы.

Князь найцяжкога
вугра выбірае,
хваліцца цудам
азёрнага краю:

«Будзе заморская
закусь, панове...»

* * *

Шумная світа
знікае ў дуброве.

Гончыя енчаць.
Як дзікія ветры,
крышаць хмызняк,
уцякаючы, вепры...

Раптам, адчуўшы
смяротную стому,
князь павярнуў
з палявання дадому.

Шыю каня
абхапіў ён рукамі:
цягне да долу
ягдташ, нібы камень.

Аж спатыкнуўся,
захропшы, стаеннік.
Цёмнай сцяною
навокала ельнік.

Выпаў з сядла князь
у мроку зялёным,
дыхае цяжка,
нібы перад сконам.

Слізкі, халодны
вугор, як наліха,
шуснуў са спрата
на папараць ціха.

Чорнай вужакай
віецца ды кажа:
«Смерць — я.
Прыйшла
па цябе я, мой княжа...»

Ледзь варухнуўшы
знямелае цела,
праражагнаўся
князь спалатнелы:

«Смерці служу я,
як пані шаноўнай.
Ходзіш хіба ты ў мяне
беспрацоўнай?

Глянь на дарогі
ад места да места,—
голад, астрогі
і шыбеніц лес там.

Пільна абходзіш ты
хлопскія хаты,
рупна махаеш
касою шчарбатай.

Там, дзе я сёння
ля сініх азёр быў,
колькі ты душ
назбірала
у торбы!

Толькі не руш мяне,
шчыра прашу я;
хто ж цябе службай
уцешыць, старую?

Свет не пакіну я
без запавету,
покуль нашчадак
не зменіць мяне тут...»

Смерць, як вужака
скруціўшыся, кажа:
«Добра.
Нашчадка
чакай сабе, княжа.

Потым вазьму цябе,
верны, з сабою...»

* * *

Росамі мкнецца
вугор да прыбою.

Спудзіўшы ў завадзях
чаек і качак,
князь на стаенніку
берагам скача.

Стыне ў вачах яго
скарга нямая;
ён, пасівелы,
нашчадка не мае.

Доўга лячыла
яго заграніца,
толькі нашчадак
не змог нарадзіцца.

Чуе ён склепа
сцюдзёнага подых.
Хто заўладарыць
на землях,
на водах?

Чайка
над хваляй сівой
закрычала.
Чоўны паціху
ідуць да прычала.

Едуць на чоўнах
плячыстыя людзі;
сонцу і ветру
расхрыстаны грудзі.

Глянуць здалёку
на постаці люба,
быццам іх высеклі
з дужага дуба.

Ім навальніца,
што ў моры спаткала,
хваль ручнікамі
чало выцірала.

Глянь, пад брывамі
не веку сутонне —
сіне люструюцца
Нарачы тоні.

Сцялі сяляне
на вёслах далоні,

вёсламі мора
ўзараўшы, як гоні.

Юшку ім варыць
хлапчук на абрыве.
Сцелецца
дым ядлаўцовы
па ніве.

Вогнішча корміць,
капае акопчык
быстры, як іскра,
гарэзлівы хлопчык.

Тут яго школа:
пад крыламі чаек
мора вяслярству
яго навучае.

Вецер прад ім,
быццам кнігу,
гартае
мора,
што пеніцца
да небакраю.

Хлопчык чытае
хвалі-старонкі:
чоўны на хвалях
як літар калонкі.

Знікла раптоўна
усё прад вачыма...

* * *

Страшна стаеннік
захроп над хлапчынай.

Пеніцца хваля,
адчуўшы трывогу,
і да малога
бяжыць на дарогу.

Стогнуць пад хмарай
бары і даліны:
«Вось ён —
абшараў
нашчадак адзіны...»

Зрэбнай кашуляю
нос уцірае
босы нашчадак
азёрнага краю.

Хмарай пахмурыцца
князь раззлаваны:
«Скіне няўжо ён
шарак даматканы?

Выедзе горда
з сябрамі на кручы,
Нарач забраўшы —
мой келіх шыпучы?

Гэтак ніколі
на свеце не будзе!
Смерць мне плітою
не ляжа на грудзі.

Маю ж багата,
як рыбы ў азёрах,
золата, срэбра
ў заморскіх канторах...»

Князь на сядло
падымае малога.
І —
   застагнала
ў галопе дарога.

Кінулі хвалі
тады на падмогу
з пенных прадонняў
вугра на дарогу.

Шлях пераняўшы
хутка і ціха,

прывідам смерці
варушыцца ліха.

Князь да вугра,
спалатнеўшы, гавора:
«Вось табе дар мой —
бяры яго ў мора».

Хлопчык, як чайка
з рук, вырвацца хоча.
Сэрца,
пад зрэбнай кашуляй,
стукоча.

Смерць, што вужака
скруціўшыся, кажа:
«Сілы не маю
забраць яго, княжа.

Гэткіх мільёны
навокал у вёсках —
як жа скашу я
мільённае войска?

Хлопака, княжа,
бяры сабе —
лепей
хай ён марнее
пад замкам у склепе.

Там ён не страшны,
закуты ў кайданы,
сілай ад мора свайго
адарваны...»

* * *

Замка каменнага
шэрая вежа
неба зубцамі
замшэлымі рэжа.

Брама жалезная
бразнула строга,

хвалі і сосны
забраўшы ў малога.

Промні пагаслі
ў сырым падзямеллі.
Хлопчык заснуў
у каменнай пасцелі.

Жнівень згінае
стан спелага сада;
гасне
у лужынах
жар лістапада;

снежань прадзе ўжо
сувеі мяцеліц,—
дрэмле нябога
ў каменнай пасцелі.

Князь нахіліўся:
«Жывы ён, здаецца...»

Лічачы годы,
ледзь тахкае сэрца.

Быццам чакаючы
сонца і волі,
рэчка пад лёдам
бруіцца паволі...

Спіць ён.
А ў хмарах
не спіцца маланкам.
Годы, як хмары,
праходзяць над замкам.

Гонячы хвалі
грывастыя ўдалеч,
сына будзіла
рыбацкая Нарач;

гнеўная Нарач,
што брала на вілы
княжацкі замак
ды панскія вілы.

Хвалі не скрышаць,
не скрышаць праклёны
мур,
дзе ляжыць
непрабудна палонны.

Восень у зарыве
з купін нізіны
цягне пад хмарамі
шнур жураўліны.

Б'е не гадзіннік
у замку хрыпаты —
смерць ужо звоніць
касою шчарбатай.

Князь палыселы
не знойдзе спакою,
грукае стэкам
у сумных пакоях:

«Цела маё
паламала знямога.
Слугі! Хутчэй
пахавайце малога!»

Ды заблішчэла
над вежай маланка,
крышачы сцены
замшэлага замка.

Хто гэта крочыць,
як волат у казцы?
Зорка світальная
ззяе на касцы.

Вось ён спявае,
выходзячы з бору.
Пеніцца Нарач —
рыбацкае мора;

раптам шалёную
хвалю спыніла,
пыльныя боты
армейцу абмыла.

Шэпча, калышучы
ціха туманы:
«Выпі блакітнай
лагоды, чаканы,

ды пагасіўшы
пякучую смагу,
шчыра напоўні
вадою біклагу.

Там, дзе сатлелая
легла цямніца,
брату змарнеламу
дай ты напіцца».

* * *

Волат да брата
на замчышча крочa.
Сіняя Нарач
у пляшцы плюскоча.

Толькі
упала на вусны малому
кропля —
ускочыў ён:
«Пойдзем дадому!..» —
Вязень на сонцы
ажыў, малайчына.
Замка руіны
ляжаць прад вачыма.

Песня
вітае
братоў
на дарозе.
Маці страчае
сыноў
на парозе.

Волату слёзная
маці гавора:
«Родны, развеяў ты
матчына гора.

Вырас ты дужым
на вольнай радзіме.
Брат жа маленькі
вясла не падыме...»

* * *

Жвава ступіў тады
вязень з парога.
І —
    не пазнала
матуля малога.

Толькі ён выйшаў
на бераг,
а ветры
раптам кашулю
надзьмулі,
як ветразь.

З песняю цягне
юнак падвалокі.
Спяць
на плячах,
як на горах,
аблокі.

Поруч — барамі
на румы, на згоны
гаспадарамі
ідуць плытагоны.

Піша араты
для шчасця законы
плугам на ўзятых
у князя загонах.

З чоўна
        багацця
глыбіннага глыбы
бліскаюць срэбрам
і золатам рыбы.

Сеці ўздымаеш
над сіняй вадою,
свеціцца казка
луской залатою.

З сеткі вугра
брыгадзір выбірае,
хваліцца цудам
азёрнага краю.

Гэта не казка ўжо:
землі і воды
сёння належаць
яму назаўсёды.

Чайка
над хваляй сівой
закрычала.
Чоўны паціху
ідуць да прычала.

Едуць на чоўнах
плячыстыя людзі.
Сонцу і ветру
расхрыстаны грудзі.

Глянуць здалёку
на постаці люба:
быццам іх высеклі
з дужага дуба.

Ім навальніца,
што ў моры спаткала,
хваль ручнікамі
чало ўцірала.

Дзень надыходзіць,
як свята, жаданы —
крышаць браты нашы
ўсюды кайданы.

Чуючы поступ
і гул над прасторам,
слугі князёвы
знямелі за морам.

Твар іх змяніўся
ад страшных здагадак:
прыйдзе Зямлі ўсёй,
па праву, Нашчадак!

1949

## *Дзяўчына і сонца*

Паводле народнага

Выпіўшы крыніцы
і збаны да донца,
стомлена садзіцца
за пагорак сонца.

Перапёлка ў полі
кліча на спачынак.
Лён у полі поле
з песняю дзяўчына:

«Хочу паспрачацца,
сонейка, з табою
я нястомнай працай
і сваёй красою.

Рана закрываеш
ты над полем вочы
і красы не маеш,
сонейка, дзявочай...»

Сонца — у здзіўленні —
ціха з-за таполі
жоўты сноп прамення
кінула на поле:

«Апрані вясельныя,
дзеўчына, уборы,
выйдзі,
як, пякельнае,
стану я над борам.

Шчыра, шчыра ў вочы мне
паглядзі ты ўранні,
і краса дзявочая,
пацямнеўшы, звяне...»

Разбудзіўшы хаты,
птушак і сцяжыны,
выйшла,
як на свята,
у поле дзяўчына.

Лён дзяўчына поле.
Сонца палымнее.
У сінечы поля
хто з іх пацямнее?

Перасохлі ў сонных
лазняках крыніцы.
Бор заціх зялёны.
Рэчка ледзь бруіцца.

Дзеўчына ж, паверце,
прыгажэйшай стала.
Толькі ў хлопца сэрца
ад смутку завяла.

1951

## *Пагарэльцы*

Вярнуліся з пячораў горных
на папялішча пагарэльцы.
Маўкліва на счарнелых бёрнах
сядзяць маленькія карэйцы.

Захмарыла ўжо восень неба
і распранае лес барвовы.
Над першай кніжкай, як і трэба,
схілілі хлопчыкі галовы.

Ружовыя ад ветру твары,
пагляд цікаўны і вясёлы,

нібы над галавой не хмары —
высокі дах
утульнай школы.

На мыліцах юнак-настаўнік
расказвае, нібыта казку,
што неўзабаве дзень настане
і кожны бацька зніме каску.

Спакой штыком здабыўшы вострым,
дадому прыйдзе бацька з бою,
і акрываўлены паўвостраў
закаласіцца пад зарою.

Забудуць мрок пячораў горных,
збудуюць школы пагарэльцы...
Маўкліва на счарнелых бёрнах
сядзяць маленькія карэйцы.

Не страшны гул матора ў хмарах
і выбухі на жоўтым полі,—
у іх вачах яснее мара,
якую не забіць ніколі.

1951

## *Белы голуб*

Штоночы голуб сніцца белы
у чыстым небе над сялом.
Маленства з ім з-пад стрэх ляцела,
вятры ламаючы крылом.

Кружыў ён над ракой, над борам
і зваў у далечы мяне,
як ветразь,
                    што ў блакітным моры
за грабянямі хваль тане.

Заўсёды ззяючы высока
недасягальнай чысцінёй,

трывожыў сэрца, вабіў вока
чубаты голуб, сябра мой.

Калі, бывала, грому ўдары
аглушаць ціхае сяло,
на фоне цёмна-сіняй хмары
мільгае белае крыло.

Ужо маланка слепіць вочы,
а дзед спакойна кажа мне:
— Гасподу, дзе лятун туркоча,
пярун ніколі не кране.

1951

## *Сіняя заціш палян*

Рыжай вавёркаю
верасень
выскачыў,
хмаркам не верачы,
з лета
ў глыбокі туман.
Полымна
весніцца верасам
сіняя заціш палян.
Сокам напоўнены конаўкі,
мёдам дрымотным — збаны.
Бамбардзіруюць
антонаўкі
ў сонных садах
буданы.
Іх не ўратуеш падпорамі —
з трэскам
звісаюць
сукі.
Ноччу
вуркочуць маторамі
стомлена грузавікі.
Біты бальшак у калдобінах,

быццам
        ступалі
                франты:
з ветрынскай пушчы
                        да Жлобіна
раскалыханы масты.
Толькі не чуў анідзе я
злых нараканняў і скарг:
шчасце,
        багацце,
                надзея —
сёлетні сонечны скарб.
Сочыш, хмурынкам не верачы:
скочыў вавёркаю верасень
з лета
        ў глыбокі туман;
полымна
        весніцца верасам
сіняя заціш палян.
Леглі сумёты лісцвяныя,
ў лісцях
        заснула
                зара.
Гэта не смутак,
                каханая —
брацца за песню пара!

1952

## *Бярозка*

Снягі і зоры за акном,
заснулі ў хаце ўсе даўно.
Бярозка з холаду галлём
пагрэцца стукае ў акно.

А ты плывеш у белы свет.
Смуга замроеных вачэй.
І найдалейшая з планет
сяла суседняга бліжэй.

Не ціхне ветлы шум лясоў.
Шляхі ў маленства замяло.
Сасніцца сон з найлепшых сноў —
на смутнай ростані сяло,

дзе белакорая, адна,
як ветразь ранніх зім і лет,
стаіць бярозка ля акна,
з якога мне адкрыўся свет.

1954

## *Вада і вуда*

(Рыбны алфавіт)

> У рыбака спрадвечныя сёстры —
> Вада і Вуда.
>
> *Народная прымаўка*

### А

Над вірамі плачкі-вербы.
Там, у глыбіні,
паласатыя, як зебры,
ходзяць АКУНІ.

### Б

З ранніх зор да позніх зор
б'е на перакатах
БЕЛІЗНА, ці БЕЛАСПЁР,
у сінявых латах.

### В

Не патрэбны спрыт і лодка
для цябе, малеча:
толькі кінеш —
ВЕРХАВОДКА
на кручку трапеча.

* * *

Як пачнецца нераст,
не стрымае нерат;
з Нарачанкі і Дняпра
лугам рушыць, непакора.
Шлях вандроўніка ВУГРА
у Саргасава сінь-мора.

## Г

Патапіўшы паплавок,
ірване пад лозы ў цень
сіняхвосты ГАЛАВЕНЬ —
зацугляны жарабок.

* * *

Ён маленькі, без лускі.
Цэняць толькі рыбакі
шасцівусага ГАЛЬЦА
як найлепшага жыўца.

## Ё

Вірлавок ты, ЁРШ-насар,
чорна на макушцы.
А які з цябе навар
у духмянай юшцы!

## К

Шнырацъ КАРПЫ-парсюкі,
рыюць глей і гразь,
дзе капейкамі лускі
бліскае КАРАСЬ.

## Л

Па Дзвіне пайшоў ЛАСОСЬ —
што яму парогі! —
для цябе, балтыйскі госць,
напрасцяк дарогі!

* * *

Пад шатром густых ляшчын
гушчарок чароту.
Чуеш?.. Чвякаюць ЛЯШЧЫ,
збіўшыся ў чароды.
Не знайсці мясціны лепш,
нам рыбаліць разам:
пад абрывам жоўты лешч
вывернецца тазам.

* * *

Дзень сядзі, а не пакінь
у трысці засаду —
асцярожна тлусты ЛІНЬ
нюхае прынаду.

## М

Ля млына закінеш донку —
схопіць, кінецца наўскач,
заглынуўшы верацёнку,
ямны князь
МІРОН-вусач.

* * *

Дастаюць яго рукамі
з-пад карчоў: — Папаўся, туз!..
Ледзь варушыць плаўнікамі
спёкай змораны МЯНТУЗ.

## П

Цётка ПЛОТКА
з краснапёркай
ладзяць гульні ў сітняках.
Ззяюць вочы іх, як зоркі,
у чырвоных абадках.

* * *

Добра бачна рыбаку:
ходзяць рыбкі па пяску,
хоць у прыгаршчы бяры.
Хто ж яны? Ды — ПЕЧКУРЫ!

## С

За Лукомлем гул не сціх
ад хады бульдозера.
Сігануў срабрысты СІГ
у глыбіні возера.

* * *

Не раскажа асака,
толькі ўсё ж, бывае,
СОМ сажнёвы гусака
на віры хапае.

* * *

Яшчэ на дамбе белы лёд
мароз вартуе строга,
а знізу кідаецца ў лёт
вясёлкавая СТРОНГА.

* * *

Хто ў люстранай тоні грае
за сцяною сітнякоў?
Б'е малька, палюе зграя
ненажэрных СУДАКОЎ.

* * *

Гэта казка, сон ці ява?
Чоўны ходзяць па аблоках.
Нарачанская СЯЛЯВА
б'ецца ў сецях-падвалоках.

## У

У глухмені, дзе балотных
ручаінак крывізна,
ловяць часта і ахвотна
жаўтапузага ЎЮНА.

## Ш

Пад вятрамі плёсаў сініх
пахадзі, рыбак,
і сагне дугою спінінг
ягамосць ШЧУПАК.

Кінеш хіжага на поплаў,
а вялік жа — страх!
Сонца гасне кропляй цёплай
у яго вачах.

## Я

Над вадой хлапчук-маўчун
у лазе схаваўся.
Ціха, сэрца: прыгажун
з глыбіні падняўся.

Паплаўка крануўся ЯЗЬ,
хітры, не бярэцца,
хоць са спрату не вылазь
і начуй на рэчцы.

Скрозь — ад вусцяў да выток —
ходзіш, яльча, малайцом.
Нават рускі гарадок
называецца ЯЛЬЦОМ.

1953

## *Песня пры вогнішчы*

Буланы,
як конь рассядланы,
пасецца туман на прывале,
дзе ў стэпе глухім тамерланы
ля зыркіх агнёў піравалі.

Раса плача без голасу.
Трава расце без коласа.

Арлам вымяраць гэта поле!
Згубілася ў травах дарожка.
Сумуе пры вогнішчы Поля,
каморніца Поля Дарошка:

— Раса плача без голасу,
трава расце без коласа...

Не трэба журыцца, навошта
благія здагадкі, Паліна.
Паўгода праклятая пошта
паўзе на раз'езд тапаліны.

Сюды ж травой да пояса
ісці, нібы да полюса!

Успомніць чаканы, далёкі,
напіша харошы, нясмелы.
Ты проста ў дарозе ад спёкі
стамілася, Поля, счарнела.

А толькі сонца босае
абдасца ў травах росамі —

як хлеб, наразай навасёлам
сяўбы залатыя гектары,
і пашы пад ветрам вясёлым,
і воблакаў белых атары!

Жыццё ідзе дарадчыкам
з табой,
зямлі ўпарадчыкам.

Да часу ляжаць у планшэце,
нібы ў кадубку чараўніцы,
сядзібы саўгасаў і шэсце
высокай, да сонца, пшаніцы.

Дзе ты прайшла на золаку —
звінець у стэпе золату.

Навошта ж —
                    як камень на сэрца —
пры вогнішчы песня старая?
З палыннай тугой заарэцца
і песня палыннага краю:
— Раса плача без голасу,
трава расце без коласа...

Цяпер сустракаюцца моры
і рэкі — шчаслівай парою
у хлебным арліным прасторы
сустрэнецца любы з табою.

1954

* * *

Белазорае бабіна лета
у гародчыку расцвіло.
Пчолы, ўпіўшыся ў зрэнкі кветак,
зноў адчулі зямлі цяпло.

Ля шпакоўніцы на арабіне,
звонка славячы родны дом,
шпак,
сярэбраны ад павуціння,
як вясной,
трапеча крылом.

Ён не ведае, апантаны,
што нясуць маразы ўначы
з Ледавітага акіяна
да расонскіх азёр ключы.

Як жа сівер замкне азёры,
распране густалісты лес?
Паглядзі:
запаліць свае зоры
зноў наважыўся белы бэз.

Золкай ноччу духмянае вецце
стукне ў шыбу — харошы госць!
Так жыве ў пасівелым леце
вёсен вогненных маладосць.

1954

## *На паклон Тарасу*

Ад сталоў гасціны шумнай,
сумятні ўрачыстай
мы, бадзягі, легкадумна
уцяклі на прыстань.

І панёс Дняпро нястомны —
без кают, без класаў —
трох сыноў Дзвіны і Нёмна
на паклон Тарасу.

Захмяліла нас дарога
ў вербах прыбярэжных
пахам сена маладога
і дымкоў начлежных.

Колькі песень вечарамі
на Ўкраіне мілай!
У дарозе за плячамі
мы адчулі крылы.

Набліжаючы спатканне,
вырас над вадою
у смузе ружовай Канеў
летняй раніцою.

Пер'е цёплае аблокаў
Кабзара акрыла:

у вянку лясным высока
стаў ён над магілай,

над вякамі страшнай крыўды,
над чумацкай доляй,
што рыпела ад Таўрыды
з соллю слёз у полі...

Бачны стэпу, чутны свету
бацька сівабровы.
Гэтак лёгка, гэтак светла!
Стэп. Дняпро. Дубровы.

Кожны з думкамі сам-насам
прад святой гарою.
Тут ідзеш, як да Парнаса,
лесвіцай крутою.

1955

## *Мора і неба*

Мора б'е ў гарбаты Карадаг —
батарэйны гром
ля шэрых стром.
Толькі, не зважаючы на гром,
ружавее ціха
неба сіні дах.

Пагранічны катэр — нібы птах.
Мора б'е ў гарбаты Карадаг.

Мора —
дзён пражытых глыбіня
і бунтоўнай памяці прыбой.

Неба —
просіць будучага дня,
сонца ласка.
Сонца над табой!

1955

## *Чаканне*

За акном,
дзе прыбоем распетрана ціш,
маладзік выбірае
для позняй прагулкі алею.

Ціха, мора!
Чаго ты шуміш?
Я і сам бушаваць умею.
Хіба табе працы
удзень было мала?
Зялёнага вала
ламаючы шкло,
як след працавала
і
піравала,
са звонам па гальцы гарачай цякло,
шпурляла
пад ногі з глыбінь падарункі,
шаптала:
— Вандроўнік,
і сэрца, і думкі
лячы ад спакою, пад брызам лячы.
Хай знакам пяшчоты мае пацалункі
гараць
на тваім непакорным плячы.

Чаго ж ты бунтуеш,
лагоднае мора?
Сцяжына срабрыстая легла ў прастор —
хоць зараз,
хістаючы месячны морак,
ідзі
на спатканне
ў туманы Тамані,
брыдзі —
да світання —
за дальні Басфор
да самай чароўнае з чэрвеньскіх зорак.

А можа, ты плачаш,
ад слёз ты салёна,
на поўдні ў самоце

грыміш праз вякі,
чакаючы рэчку,
што дзесьці пад клёнам
дрымотна люляе Купалля вянкі?..
Не чуеш?..
Вядома,
паўстала з праклёнам
кахаңцы далёкай у лузе зялёным...

Без любай спакойна і дня не пражыць.
Як вал твой дзевяты —
дзевятыя суткі чакання.
Я сам у трывозе:
таксама ў дарозе
згубілася дзесьці,
сюды не бяжыць,
не едзе здалёку
маё, у вяснушках, каханне.
У садзе,
дзе штормам распетрана ціш,
абраў сабе месяц для позняй прагулкі алею.

Біся, мора!
Я знаю, чаго ты шуміш.
Як брата, цяпер я цябе разумею.

1955

## *Лясное возера*

*Платону Вараньку*

— Глядзі, як дыхае зямля
каля
замшэлага камля!

— Што гэта?
— Вецер,
вецер лёг на кроны.
Разведку боем ён вядзе.
У чорнай смаляной вадзе
гайдаюцца
аблокі, як пантоны.

— Не пазірай вачмі вайны
у люстра плёсу, дзе відны
і хвой званы,
і мы,
і дзень крамяны.
Высока,
ззяючы крылом,
гуляе стрыж...

— Ударыць гром:
на дождж
занылі зноў старыя раны.

1955

* * *

Сады зацвілі,
не прыкмеціў — калі.
Выбег у май
павесялелы я:
на шэрай, як пер'е,
цёплай раллі
яблыня белая.

Стаіць гэта воблака раніцой
на ножцы, пабеленай вапнаю.
Зямлю асвятліўшы,
ззяе красой,
самай прывабнаю.

Як быццам свой першы дзень пачала
зямля, ўпершыню зялёная.
Сонца звініць — залатая пчала,
вісне над кронаю.

Ад радасці вочы мае расцвілі,
пагодныя, памаладзелыя:
на шэрай, як пер'е,
цёплай раллі
яблыня белая.

1956

## *Зямлячка*

Адна ты, як у чыстым полі,
стаіш, ялінка, у ільдах.
І падабрэў Паўночны полюс,
адчуўшы лесу смольны пах.

Зялёная, на белай крызе
плыві паволі ў белы свет.
Прадонне чорных вод
унізе
І Ламаносава хрыбет.

Пад Новы год,
хоць не прасілі,
прывёз чаканы верталёт
спакойны шум лясоў Расіі
на неспакойны змрочны лёд.

Ад навагодняй той сустрэчы
рунееш ты зіме на страх;
між лапак пуначка шчабеча —
вястун вясны, залётны птах.

Цяпер адсюль — гавораць жартам —
усё, па край зямлі, відно:
глядзіць у доміку стандартным
на поўдзень кожнае акно.

На дзікім поўдні снегавеі
шумяць над полюсам другім,
дзе грэе сэрцы і надзеі
апоўначы маскоўскі гімн.

І там — зялёны дар Валдая,—
разліўшы цёплых смол настой,
твая сястрыца маладая
рунее гліцаю густой.

Не дамся дзіву,
калі заўтра,
пакінуўшы лясную ціш,
ты на ракеце касманаўта
да зор, зямлячка, паляціш.

На голай, як скала, планеце,
што людзі штурмам узялі,
раскажаш ты аб вечным леце,
жыхарка юная Зямлі.

1956

## *Вечар*

Улёгся пыл на вуліцы.
Туман да рэчкі туліцца.
Не плач
у самоце,
дзяркач,
на балоце.
На прызбе зоркай блізкаю
цыгарка ў цемры бліскае.
Здалёк
нечакана —
хрусь! — крок
ля паркана.
— Куды ідзеш, Наталачка?
— У агарод, Міхалачка.
— Па што?
— Па цыбулю.
— Пастой,
пацалую...
Абняўшыся,
за весніцы
ідуць пад вартай месяца
ў расу
па ажыны,
дзе сум
дзеркачыны.

1956

## *Нядзеля*

Люблю, сябры, такую стому,
калі, з работы ідучы,
нясеш, як скарб, яе дадому,
цяжкую стому
на плячы.

Не стома — сіла
грае ў жылах:
то на плячо кадравіку
сама радзіма палажыла,
як на апірышча, руку.

Тады зімой цвітуць чарэшні,
удача — лепшая з удач.
Звініць зямля ўся пад падэшвай,
нібы тугі футбольны мяч.

Прагоніш ты не чаркай хмелю
будзённае турботы цень...
На тыдні кожны дзень —
нядзеля,
на тыдні — свята кожны дзень.

1956

## *Песня зялёнага дуба*

Падняў я сонца на галлі
пад посвіст салаўёў,
а нетры цёмныя зямлі
карэннем пераплёў.

Здаецца мне:
калі цяпер
пад бурай зашумлю,
не я трымаюся, павер,
за родную зямлю,

а на карэннях на маіх —
пябачаны цяжар! —

вісіць у кроплях дажджавых
зямлі зялёны шар.

Высокі, вечна малады,
у ззянні зор і рос,
свае гады,
як жалуды,
я на зямлю атрос.

Не помню, колькі мне гадоў.
Далёкі помню дзень:
у лесе сыты крык драздоў,
стагі ў лугах.
Сухмень...

Змарнеў ад болю і лістком
я варухнуць не мог.
Бывай, пад родным дубняком
зялёны мокры мох...

Мяне, маленькага, з лугоў,
дзе росы піў і рос,
хлапчук пад пахаю дамоў
з рыдлёўкай вострай нёс.

І на пясок упаў я з рук
пад шызым голлем сліў.
«Пасадзім тут»,—
сказаў хлапчук
на станцыі Разліў.

Ды выйшаў бацька хлапчука,
у мазалях рука,
мяне, гаротнага дубка,
падняў, нібы сынка.

Лісток завялы ён сарваў
і кінуў злосна ўбок:
«Такое дрэўца змарнаваў
дарэмна, галубок!

Не бачыў я, каб летні дуб
прыняўся ў сенакос,
няхай бы юны ветралюб
у родным лесе рос».

Хоць сок бруіўся па лістку,
падумаў я: канец...
Ужо не дуб я — на пяску
запылены дубец...

«Саджайце!.. Вырасце дубок!» —
пачулася здалёк,
не словы — кропелькі з аблок,
рашучы, шпаркі крок.

Схіліўся добры чалавек
з газетай нада мной:
«У вашым садзе з веку ў век
шумець яму ліствой!»

І я, маленькі і прамы,
зірнуўшы навакол,
ступіў, ад радасці нямы,
у свой халодны дол.

Хоць плавілася над зямлёй
нябёс паўдзённых шкло,
а боль нясцерпны як рукой
з карэньчыкаў зняло.

Пасля ўначы шчаслівы кліч
не раз я чуў здалёк:
«А праўда вашая, Ільіч,—
расце, расце дубок!»

Я чуў, захутаны ў туман,
ці, можа, толькі сніў:
усё гавораць пра будан
на возеры Разліў.

У змроку добры чалавек
схіліўся нада мной:
«Дужэеш, любы? З веку ў век
шумі сабе ліствой,

краніся кронаю аблок
на досвітку, дубок!»
І ён пайшоў,
                пайшоў у змрок,
рашучы,
          шпаркі крок...

Падняў я сонца на галлі
пад посвіст салаўёў,
а нетры цёмныя зямлі
карэннем пераплёў.

І жалудоў,
і лісцяў медзь
на ўсю зямлю атрос.
Мне сотні лет і зім шумець
у бляску зор і рос.

Паломнікі з далёкіх рэк
пад кронаю стаяць.
— А дзе той добры чалавек? —
хачу я запытаць.

Па сцежках ленінскіх штогод
ад станцыі Разліў
ідзе,
ідзе,
ідзе народ
з капальняў,
хат
і ніў.

Звіню, зялёны валадар,
дзяржаўнаю ліствой,
з нябёс крутых сумёты хмар
змятаю галавой.

Здаецца мне:
калі цяпер
пад бурай зашумлю,
не я трымаюся, павер,
за чэрствую зямлю,
а на карэннях на маіх —
нябачаны цяжар! —
вісіць у кроплях дажджавых
зямлі зялёны шар.

1956

## *Бярозавік*

*А. Паслядовіч*

Зялёны дым: услед узнятай слонцы
арэшнік пылу воблака атрос.
Нібы ў палац, сюды заходзіць сонца —
у мокрым лесе светла ад бяроз.

Вартуе глуш сарока-белабока,
і з непазбыўнай прагаю глядзіш:
шурпаты ствол надрэзаны глыбока,
са звонам кропля падае ў гладыш.

Да латака мурашкі і пралескі
з усіх прагалін збегліся на пах.
Бярозавікам пахнуць пералескі,
блакіт і пена на ружовых пнях.

Я задыхнуўся ў завадзі настою
з карэнняў, рос і весняга агню,
адчуўшы схаладнелаю шчакою
абветранай шчакі гарачыню.

Са мною поруч, так балюча-блізка,
маўчала ты, зірнуўшы незнарок
на ўжо гатовых шугануць да Мінска
старых пляткарак, лапатух-сарок.

Густая сінь прыжмуранага вока.
Усюды сінь — куды ні паглядзіш.
...шурпаты ствол надрэзаны глыбока,
са звонам кропля падае ў гладыш...

1957

## *Нёманская рута*

І чаму імкнецца Нёман, быццам утрапёны,
да бурштынных дзюн пад крыллі,
                                        чаек белых крыллі?..
Нашы хлопцы-плытагоны,

помню, гаварылі:
— У Літве на ўзлессях вясніх,
на крутых абрывах
зарунела рана рута каля кожнай хаты,
і прыгожыя — надзіва! —
у Літве дзяўчаты.

Там, дзе блішча ўсмешкай мора,
смех звініць дзявочы
і вянкі з духмянай руты, песні над вадою:
«Як дастанеш ты вяночак,
буду я тваёю...»

Каб злавіць вянок і сэрца, не адзін рыбачыў,
не адзін зямляк застаўся,
не дастаўся дому,
а ці меў ля мора ўдачу —
невядома...

Не плыты — сплаўляю песні.
Сталі поруч смела
пабрацімы-песнягоны. На прастор імкнуся.
Абняла Літва, сустрэла
песні Беларусі.

Толькі [illegible] вянкоў на хвалях штосьці не прыкмеціў.
Мусіць, хвалі пахавалі звычаі старыя.
Мусіць, восень. Мусіць, вецер.
І гады не тыя.

А вакол — на ўзлессях ясных, на крутых абрывах,
як вясной, рунее рута каля кожнай хаты,
і харошыя — надзіва! —
у Літве дзяўчаты.

Нейкі сум, трывога зноўку сэрца маё сцялі.
Палымнеюць воч блакіты, кожная — як рута:
ці Анэля, ці Насцяле,
Стасе ці Бірутэ.

Не адзін зямляк застаўся... Эх вы, леты-зімы!
Не ўтаплюся, дык згару я ў зваблівым блакіце.
Ды пра гэта, пабрацімы,
дома не кажыце.

1958

## *Здымак*

Я люблю залатое мастацтва
цымбалістаў і слуцкіх ткачых,
што ў Палессі павінна застацца
і ў легендах на землях чужых.

Толькі сённяшні воблік Радзімы
мае тысячы іншых акрас.
Паглядзіце, сябры... Фотаздымак
у мяне пад рукою якраз:
паланіўшы стары Капенгаген,
там, дзе выстаўкі мірны метал,
зіхаціць прад вачамі павагі
са славутым зубром самазвал.

Сорак тон, нібы сорак пушынак,
носіць з грукатам — толькі дазволь.
Як цыган, аглядае машыну
Генры Форд, знакаміты кароль.

Захапленне і зайздрасць на сэрцы.
То адыдзе, то зноў пастаіць,
паспрабуе, ці моцныя дзверцы,
ды не можа ніяк адчыніць.

Аб'ектыўны пагляд аб'ектыва.
Вось ён, воблік Радзімы маёй:
над заводамі дымныя грывы,
спадарожніка бляск над зямлёй,
партызанскія кладкі ў аеры
і над Бугам закураны форт...

Не для ўсіх адчыняюцца дзверы,
што вы пнецеся, містэр Форд!

1958

## *Трасцянец*

### Надпіс на помніку

Мы, тысячы ахвяр — жывы людскі касцёр,
надзей сатлелы цвет, асыпаны на жвір,—
звяртаемся да вас, братоў сваіх, сясцёр:
змагайцеся за мір, вартуйце пільна мір,
каб хіжых чорных крыл павек не распасцёр
над вамі войнаў новых жудасны касцёр.

1958

## *Снежань*

Снежак смех.
Санак след.
Снежна. Санна. Свежа.
Цінькае сініца
у асінніку.
Па-над плошчай,
дзе на варце часу — вежа,
заінелі стрэлкі
на гадзінніку.

1959

## *Новы год*

Гудзеў, мільгаў мяцеліцы прапелер,
да ранку снег вірыўся ля варот.
І вось, як чысты-чысты ліст паперы,
ляжыць перад вачамі Новы год.

Дарма, што лета рана дагарае
і позна сніцца сіні красавік,—
пачнём нанова сёння, дарагая,
свайго жыцця суровы чыставік.

1959

## *Дзвіна выходзіць з берагоў*

Сасніліся досвета
сінія рэйкі,
сірэны ў тумане,
вятрыстыя высі.
Сягоння, радзіма,
усе твае рэкі
у сэрца ўліліся,
у сэрцы зліліся.
На румах, на згонах,
у пошуме гаю
жыве прадчуванне
трывожнай дарогі.
Чуваць пажаданне
тваё, дарагая:
— Далёкай дарогі,
шчаслівай трывогі...
У школе іспыты
паздаўшы калісьці,
я выбег на ганак
з дзвярэй сямігодкі,
стрывожаны пахам
кляістага лісця
і сонечным шумам
буянай паводкі.
Ляту і сягоння
да круч у тумане,
дзе б'юць на Дзвіне
перад сконам парогі.
Я чую, радзіма,
тваё пажаданне:
— Далёкай дарогі,
шчаслівай трывогі!

1959

## *Зямны паклон*

Ты першая з маіх газет,
і я згадаць той час ахвочы,
калі ў Машканскі сельсавет
прыходзіў «Віцебскі рабочы».
Дыміў махоркай твой актыў
на тлумным сходзе апаўночы,
і старшынёй калгаса быў
абраны віцебскі рабочы.
Я, сціплы хлопец і селькор,
ішоў з табой, нідзе не збочыў.
Набраў тады мой першы твор
наборшчык — віцебскі рабочы.
Звіні, гарачых слоў свінец!
Глядзі заўсёды праўдзе ў вочы,
працоўнай гвардыі баец,
газета «Віцебскі рабочы».
Прабач сягоння мне, прашу
(зямляк ва ўсім прызнацца хоча),—
я рэдка ўсё ж табе пішу,
таварыш «Віцебскі рабочы».

1959

## *Пойдзем па грыбы*

Лугам сцяжынка
бяжыць за дубы.
Пойдзем, Ірынка,
у лес па грыбы.

Змейкамі косак
зіхціш:
　　　— Палажы
ножык у кошык
з чырвонай лазы!..

Весела шустрай
ад паху смалы:
выбег насустрач
падлесак малы.

Лісце густою
іскрыцца расой
над залатою
тваёй галавой.

Глянь: пад асінамі
леташні ліст,
там падасінавік
хітры, як ліс.

Бач, над галоўкай
трымае грыбок
для маскіроўкі
пажухлы лісток.

Белая ножка,
барвовы берэт...
Першы без ножыка
возьмем як след.

Побач, пад клёнам,
суседа не руш,
хоць і чырвоны
яго капялюш.

Гэта атрутны
стары мухамор.
Пойдзем...
Ад руты
хмялее чабор.

Верас духмяны,
як мёд-брадавік.
Вось і паляна,
і сам баравік!

Трапна названы
*палкоўнікам* ён.
Вокал — крамяны
грыбны гарнізон.

Кожны, як жолуд,
праз гліцу і мох
вылезці з долу
на досвітку змог.

Кружым па лесе,
а стомы няма.
Порхаўка лезе
у кошык сама.

Порхаўкі пухлай,
глядзі,
        не кранi —
бомбачкай бухне
яна ў цішыні.

Густа на травы,
на верас ды мох
сядзе гаркавы
з паганкі дымок.

Хораша б ранак
смяяўся, калі б
счэз між паганак
атрутнейшы грыб.

Выпіць ён хоча
расу на лістах,
сінія вочы
азёр у лясах.

Раптам пажоўкнуць,
счарнеюць лясы,
любыя змоўкнуць
дзяцей галасы.

Нішчыць,
        смяротны,
і птушак і рыб
грыб вадародны,
над выспамі грыб.

Важыць ён тоны,
расце з-пад аблок,
подых ягоны
зямлю абвалок.

Сонца, калосе,
стрывожаны люд

бомбе выносяць,
дачушка, прысуд.

Бацька з табою,
салдат запасны,
выйшаў расою
у пошук лясны.

Дрэмле хмурынка.
Шчабеча ручай.
Смела, Ірынка,
увысь пазірай.

Добрых, з паляны,
грыбоў не рассып.
Той жа, паганы,
не вырасце грыб

хмарай густою,
жудой агнявой
над залатою
тваёй галавой.

1959

## *Крык чайкі*

Дождж ад ранку пойдзе —
не пабачыш просіні.
Сонейку на поўдзень
пазваніў я з восені.

І вуркоча казка
над асенняй згубаю...
— Ялта?.. Калі ласка,
адшукайце любую! —

Дзеўчыне-галубцы
крыкнуў з падаліста я.
Загулі у трубцы
далечы вятрыстыя.

Быццам побач мора
б'ецца, грае сіняе.
Мора —
не прасторы
нудны шум
на лініі.

Я стаю, чакаю
у трывожным пошуме
і дымлю з адчаю:
чвэрць гадзіны — пошукі!

На бяду сурова
казка выключаецца:
— Вашая размова...
чуеце?.. канчаецца...

Толькі там, над хваляй,
калі моўклі далечы,
крыкнула ад жалю
чайка, пралятаючы.

Мора чуў, няйначай,
як званіў я з восені:
чайка сумна плача,
плача...
Ці здалося мне?

1959

## *Вялікае процістаянне*

Барвовы, з-пад шалома хмар,
ля самых нашых вокан
штоноч на поўдні, помню, Марс
гарэў тыгрыным вокам.

Яго зямляне нараклі
вайны суровым Богам.
У тую восень на Зямлі
ён вёў падлік трывогам.

На водах сцелючы ўначы
крывавыя сцяжынкі,
ён кінуў промні, як мячы,
дзе распачаць зажынкі.

Не ведаў Бог вайны, ізноў
прарочачы нягоды,
што мы глядзім на ўсіх Багоў
з усмешкаю заўсёды.

І лёг на шалі намалот
цалінный спелай хвалі.
У кіпені ангарскіх вод
сябе мы гартавалі.

Не сохі і не ветракі
пасведчылі аб сіле —
мы спадарожніка з рукі,
як голуба, пусцілі.

У трэці раз лісцё ляціць,
пяе ў садах вятрыска.
Далёка сёння Марс мігціць,
а нам да мэты блізка.

Прыціх стары драпежны свет,
пабачыў: карты біты.
Імчыцца першая з ракет
ля Марсавай арбіты.

Старэнечкі бажок вайны,
не хмурся ў небе дзесьці,
цябе за круглы стол зямны
мы запрашаем сесці.

Ты з намі, дзеду, гавары
пад мірны рокат марша.
Не Марс да нас — а мы, сябры,
цяпер бліжэй да Марса.

1959

## *Стары машыніст*

На ўскраіне цвітуць гароды,
раскошна
            на вяршаліне
                        граку.
Чыгуначнік сівабароды
і піва барадатае ў ларку.

Нядзеля раззвінелася ў блакіце.
На вішнях смолка
                        сочыцца з кары.
Апранены ў пацёрты кіцель,
ён выйшаў панядзеліцца, стары.

Хапае цеплыні і песень
для ўсіх снежнабародых пенсій!

Глядзіш і слухаеш парады:
трапеча спёка сіняя ў вачах,
а кіцель,
            хоць ён і парадны,
агнём, вятрамі, вугалем прапах.

Далоні ўсё яшчэ ў метале,
паспешны крок,
                        як некалі вясной.
Іскрацца ў пяць радоў медалі
і ордэны пад спелай сівізной.

Святочны і чамусь трывожны,
спяшаецца з кавенькай на вакзал.

Засвеціцца
            усмешкай кожны,
пабачыўшы:
— Ідзе наш генерал...

1959

## *Рыбацкі могільнік*

*Міколу Нагнібедзе*

Аповесць мора на граніце
чытай, не верачы красе
бурштыннага прыбою ў Нідзе
на Куршскай сонечнай касе,
дзе ноч і дзень дымяцца дзюны
на сыпкім беразе крутым
і хвойнічак, заўсёды юны,
па схілах сцелецца, як дым.

Імкнецца ён, разлапы, нізкі,
стрымаць адвечны рух пяскоў.
Сівая хваля ад калыскі
калыша долю рыбакоў.
Аповесць мора — на граніце
шчарбатых заімшэлых пліт.
На могілках старых у Нідзе
раскажа ўсё табе граніт.

Чытаеш помнікі,
                                        здзіўлёны:
ну хоць бы надпіс быў адзін,
дзе строга значацца імёны
тваіх равеснікаў, мужчын!
Малыя толькі... і жанчыны...
Як быццам не плылі сюды
ніколі ў човене дамавіны
дзядзькі, падлеткі і дзяды.

Няўжо яны не паміралі
пад родным дахам, рыбакі?
На пенны бег балтыйскай хвалі
зірнеш імгненна з-пад рукі:
— Ах, там яны...
                                        Бурліць раўнівы,
цяжкі, у белай шапцы, вал.
Не моўкне шум рыбацкай нівы.
                    Чакаючы,
                    маўчыць
                    прычал.

1959

## *Чайка над жытам*

Хай сумны мой бацька рупліваю жменяй
ў сваім агародчыку мора пасее.

*Максім Лужанін, з даўніх вершаў*

### *I*

Песенька-дрындушка,
крыўда рыбака:
— Курыца не птушка,
Свіслач не рака...

Не пабачыш сініх
плёсаў анідзе.
Не патрэбен спінінг
пры такой вадзе.

Мраяцца ля тлумных
прыгарадных кас
ласка хваляў шумных,
з ветразем баркас.

Там, дзе летам пыльным
дрэмлюць трыснягі,
дастаеш вудзільнам
беражок другі.

Трапіцца аркушка,
зловіш акунька.
— Курыца не птушка,
Свіслач не рака...

Эх, не рэж, дрындушка,
сэрца рыбака!

### *II*

Збіраюся ў госці
да мора цяпер я:
Замошша, Замосце,
Зарэчча, Зазер'е —
у хмарным прыволлі
прасёлак закружыць.
За полем —

Заполле,
за лугам —
Залужжа.
А потым — Залессе,
а побач — Загор'е.
І вось яна, песня:
Прымор'е, Замор'е!
Дзівосныя назвы
у лесе ды полі
дагэтуль у нас вы
не чулі ніколі.
Калышуцца воддаль
ля спелага бору
туманныя воды
крынічнага мора.
Дзе смутак рабіны,
ядловец ды камень,—
яго мы рабілі
сваімі рукамі.
Ішло яно ў пене
да вёскі з лагчыны,
падмыўшы карэнне,
заліўшы сцяжыны.
І хваля
змывала
гусей на папары,
пяшчотна люляла
пад цёплаю хмарай.
Залопалі крыллем
ад радасці гусі.
Зайгралі на мілі
вятрыскавы гуслі.

Паціху, памалу
пад вокны і стрэхі
паўзло,
залівала
пясчаныя лехі,
на схілах, на схонах
пакорна, ад зморы,
шаптала ў зялёных
гародчыках мора.
У мяккай пасцелі
лягло ля сялібы.

Глядзі: пасінелі
пад стрэхамі шыбы!

Сюды, дзе балоты
курыліся ціха,
вязлі самалёты
і стронгу, і сіга.
Развешаны сеці
на шэрым паркане,
прызначыш дасвеццем
з баркасам спатканне.
Мы славім, мы хвалім
люстраны нажытак,
і ветразь над хваляй,
і чайку над жытам!

## *III*

Плывеш — куды сэрца табе загадала —
ад хат Ганалеса па срэбнае шчасце.
На якары цяжкі баркас загайдала
над Белаю Ямай, паблытаўшы снасці.

Бажыўся, насупіўшы рыжыя бровы,
хлапчук загарэлы ў падранай цяльняшцы,
нібы патапіў тут шчупак двухметровы
з вудзільнам дзядулю на вёрткай камяшцы...

Рыбацкае поле... Над хваляй ляшчына.
Са студый зялёных звіняць перадачы:
зацёхкаў салоўка, зязюля лічыла
на сонных палянах прыморскія дачы.

З Крыжоўкі да Мінска, на ўсіх перагонах,
дзе душным рамонкам бялеюць прыпынкі,
успененым морам запахла ў вагонах,
вятры абдзімаюць — ніводнай пылінкі.

Мы песняю славім, усюды мы хвалім
вятрысты, шумлівы, крынічны нажытак,
і ветразь над хваляй,
і чайку над жытам!

1959

## *Летнік*

Скочыць палахліва
з-пад калёсаў заяц,
забубніць над грывай
у падлеску заедзь.

Не трашчы,
сарока,—
возчык не паверне:
на лугах шырока
размахнуўся чэрвень.

Люты чмель віецца
над чупрынай русай.
Шлях паўзе пад вецце
ў сеннай пацярусе.

Апаўдні шчаслівы,
пачарнелы, потны
сенакос з абрыву
бухне ў вір дрымотны.

Зарагоча нема,
сонцам паліваны.
Аблачынка з неба
на ручнік сарвана.

Эх, дарога лета,
ціхі крок тумана...
Колькі песень спета
і недаспявана!

Там, дзе ў лузе з любай
мёд пілі чмяліны,
закусілі губы
да крыві каліны.

Луг — стаптаны кветнік —
пасівеў, завяўшы:
снег ляціць на летнік
і на песні нашы.

1959

## *Вуліца машыністаў*

Бялее над грымотнай лініяй
пад чарапіцай эшалон.
На градах цішыня пчалінная,
палын запаланіў адхон.

Кілбасы на шчытку падвешаны,
жыруе голуб на жарстве.
Хрумсцяць у садзе пад падэшвамі
крупінкі вугалю ў траве.

На вішні белымі валокнамі
ляціць,
клубіцца дым густы.
І гаспадарка ўся пад вокнамі:
вагоны, стрэлкі, блокпасты.

Заўсёды — раніцай, увечары —
тут рэпрадуктары крычаць;
начамі галасы дыспетчараў
у цэнтры горада чуваць.

Дэпо апоўначы парадуе
ў сталоўцы вогненным баршчом
і неабходнымі парадамі
пенсіянера за сталом;

над позняй пляшкай успамінамі
трывожыць боль забытых ран:
такой парой калісьці мінамі
ламаў «жалезку» ветэран.

Стары механікаў прыгадвае
і свой гарачы паравоз,
што недзе з новаю брыгадаю
імчыць пад вартаю бяроз...

Ад сонца раніца зажмурыцца
на градах, мокрых ад расы.
На памяць ведае ўся вуліца
лакаматываў галасы.

Калі гудкі здалёк вітаюцца,
у хатах мітусня жанок:

— Дадому бацька наш вяртаецца!..—
Адразу пазнаюць гудок.

— Мой тата едзе! — з весткай носіцца
хлапчук, пазнаўшы ўпершыню...
Гудзе,
        дыміць,
                па рэйках коціцца
саюз металу і агню.

1959

## *Паэт*

Гуляючы, выбіла мора
на белы вільготны пясок
іржавы патрон ад вінтоўкі.
Пад куляй у гільзе — лісток.
Як порах бяздымны — пад куляй.
Скамечаны. Цьмяны зусім.
Накрэмзаны простым алоўкам
апошнія словы на ім:

*«Над берагам чайка бядуе,*
*і падае сонца ў ліман.*
*Як брат-санітар, забінтуе*
*мяне барадаты туман.*

*Апошнія промні ў блакіце,*
*апошні застаўся патрон.*
*З трывогай на ворага кіньце,*
*залётныя чайкі, праклён.*

*Ляціце да сосен у жыце,*
*прысядзьце над сумным акном*
*і смерць марака апішыце*
*сваім беласнежным пяром...»*

1959

## *Спелы бор*

З усіх сабораў ёсць сабор,
дзе згодзен я маліцца:
у спелым леце,
спелы бор,
звіняць твае званіцы.

У душным водары палян,
дзе маладосць хадзіла,
багун,
дурнічнік,
дурнап'ян —
раздзьмулі ўсе кадзіла.

Стаяць палкі баравікоў;
дрыжыць басок чмяліны.
Глыбокі мох,
на лісцях кроў
мядзведжае маліны.

Падсочак стрэлы на ствалах,
нібы крыжы пакуты.
Спяшаецца барсук-манах
у цёмны свой закутак.

Бурштынных смол здаровы дух.
На кроне ў высі яснай
не аблачынак белы пух —
дзярэ анёла ястраб.

На кожным кроку навіна,
і душна ад чабору,
а песню кожная сасна
свайму спявае
бору.

1959

## *Чаромхавыя халады*

Па ярах сумётамі —
белая чаромха.
Салаўі шалёныя
б'юць на ўсе лады.
Заінела пер'е
майскага чарота:
выветрыўшы неба,
ходзяць халады.

І заўсёды лепшая
на світанку нашча
песня заспяваецца.
Чуеш, малады,
як шуміць у белым
бацькаўшчына наша.
Горла песні ранняй
лудзяць халады.

Суцяшае радыё:
— У пачатку мая
на далёкай поўначы
растаюць ільды...
Позні дым у садзе
цёпла абдымае
белыя галінкі —
сёння халады.

Голлю калыхацца,
кладкам угінацца,
на сцяжынах — шолахі
лёгкае хады.
Ты са мной,
шаленства буйнага юнацтва,
п'яны цвет чаромхі...
песня...
халады...

1960

## *Прызнанне ў любові*

Я заўсёды баюся
напышлівых выцвілых слоў,
што звіняць,
як жабрацкая медзь
у асенняй журбе.
Столькі год на падбор
словы плавіць
гарачая кроў,
каб я мог
у любові, нарэшце,
прызнацца табе,
Беларусь —
мая маці і мова,
паветра і хлеб!
Гэта ўзважана сэрцам,
на нервах расстайных дарог,
дзе не раз пад агнём
задыхаўся ад дыму і слеп,
даставаўся здалёку,
слязою апёкшы парог.

Я не помню,
якою парою
навек палюбіў:
калі верасам сінім
гарэлі трывожна лясы,
калі першы кляновік
з лядзінкамі вострымі піў,
калі скублі заснежаны стог
у зарэччы ласі,
ці тады,
            як бахматы
пад чорнаю хмараю воз
асцярожна, дрыготка
ішоў па старому мастку,
і чаплялася сена
на вецце самлелых бяроз,
і маланак святло
апаліла душу хлапчуку?..

Першы след.
Ён дагэтуль
за сенненскай вёскай відзён,

дзе прывабіў падпаска
ў рамонкавых росах папар.
Я ад першай радоўкі
чытаю да сённяшніх дзён
родных ніў і світанняў
хвалюючы мудры буквар.
Ды не ўявіш сягоння цябе
без гранітных абноў,
і пявучых турбін,
і вядомых у свеце машын,
без лясных генералаў
і трох Беларускіх франтоў,
што ішлі на Берлін
і пакінулі ў тыле Берлін.
Шчасце —
маці такую любіць,
гонар —
гэткую меўць.
Падарожнік ці госць,
па нязнанай хаджу старане,
а скажу: «Беларусь...» —
пачынае ўся зала грымець:
акрылёнага славай тваёй,
сустракаюць мяне.

Маеш верных сясцёр.
Ты шануеш іх дружбу, любоў,
абняла іх рукамі
галін зарунелых і рэк.
Залатымі вузламі
карэнне аршанскіх дубоў
так глыбока
з карэннем смаленскіх
сплялося навек.

Маладая ў грымотах вясны,
ў сівізне завірух —
не стаміла работа цябе,
не зламала вайна.
Вечна будзеш такой.
І тады,
як самкнецца мой круг:
з салаўінае пушчы калыска,
з дрымотнага бору труна...

Толькі зноў я ўзнімуся,
стамлёны паходам трубач,
каб уславіць твой сцяг
і тваю маладую хаду.
Можа, словы не тыя?..
Прабач мне, Радзіма, прабач —
для цябе, дарагая,
сапраўдныя словы знайду.

1958

## *У мяне на Урале маці жыве*

Эвакуацыя —
горкае слова:
сасмяглая скарга сівых бальшакоў;
селяцца ў хатах пакінутых совы;
шалеюць нядоеныя каровы;
грукат і пыл...
На абочынах кроў.

Крыкам не вырвеш
з піке самалёты!
«Юнкерсы»,
«юнкерсы» ў чорных крыжах.
Потны,
расхрыстаны,
шыракароты,
па беразе роспачна
кінуўся жах.

Мама,
я нёс цябе,
быццам малую,
берагам бег пад сыпучы абрыў.
Сцежка крутая —
стрыжы ўрассыпную.
Крыкнуў:
— Жывая!..—
І рукі цалую.—
Мама...
— Жывая,—
Дняпро паўтарыў.

Сёння ўспаміны
трывожаць,
як міны,
што дачакалі, нарэшце, хвіліны.

Клічуць гудкамі на ўсход магістралі,
вока не зводжу я
з воблачных веж.
Там, ля Свярдлоўска,
на дымным Урале,
з даўняга чэрвеня, мама, жывеш.

Ведаю,
сіняй таежнай вясною
пырснула позна па схілах трава...
Ён жа ляцеў над святочнай зямлёю,
над першамайскай паштоўкай маёю,
ціхай і яснай тваёй сівізною,
цэль вызначаючы,
«Локхід У-2».

Цень яго раніцай лёг на тэрасы
выступаў горных,
як прывід бяды.
Звычкі знаёмыя: лезуць і страшаць...
Скрозь на прыцэле пірацкія трасы —
не прамахнуўся
разлік малады!

Верная змена, і сэрцы не з воску.
Высака верш падымаю за вас:
з вамі на варце,
ракетныя войскі,
слова,
якому не сніцца запас.

1960



У песню ціха просіцца
лясная рэчка Росіца.

Пад росным лісцем ясеня
яна ляпеча ў засені,
качынымі чародамі
закрача між чаротамі,

у лузе пад алешнікам
пялёхнецца падлешчыкам.

Вядзе масток з парэнчамі
на бераг той з парэчкамі.

А некалі на беразе
у вераснёўскім верасе
сцяжына
              абрывалася,
балюча
              абдымалася
з дратамі,
              спрэс іржавымі,
паміж дзвюма дзяржавамі.

Над Росіцай крынічнаю —
бруёю пагранічнаю —
сцяжына не параніцца:
іду без візы раніцай
бабрынымі палатамі,
сцяжынамі —
              па Латвіі.

Над дзюнамі над соннымі
сасонкі — парасонамі.
На сонцы
              мора-волата
расплаўленае волава.

Як б'е прыбой, балюючы,
не згадкаю балючаю
ляпеча ў сэрцы Росіца —
у людзі песня просіцца.

1960

## *Трыснягі*

Над маем і лясным Зазер'ем
аблок высокія снягі.
Не варухнуць зялёным пер'ем
пад чуйнай вудай трыснягі.

Іх часам калыхнуць кругамі,
люстэрка ломячы,
лешчы,
і цішыня над берагамі
самкнецца ў засені ляшчын.

Дрымотны звон трысця густога
пад верталётамі стракоз.
Пра што я думаю,
з трывогай
галубячы вачамі плёс?..

Ах, Куба...
Мне чуваць над бродам,
як там шапочуць трыснягі,
чорнабародая свабода
пяе, парваўшы ланцугі.

Цукровыя гушчарні скубла,
ламала, палячы, вайна.
Далёкі гром...
Ды поруч з Кубай
мая зямля, мая вясна.

Пад Санта-Клара і Зазер'ем,
з'яднаўшы светаў берагі,
зялёным шаблягострым пер'ем
шумяць
трывожна
трыснягі.

1961

## *Юры Гагарын на спатканні з Маякоўскім*

(Масква. 14 красавіка 1961 г.)

Знаёмая плошча...
Хвалюецца люд.
Здарова, зямляча!
Здарова, паэт!
На плечы табе
асыпае салют
хвастатыя зоры
святочных ракет.
Цяжкі, задуменны,
у неба глядзіш.
Запалім
на Млечным Шляху
маякі.
Там будуць
і плошчы,
і вершаў вянкі,
і поўны
з-пад слёзнай бярозы
гладыш.
У шуме і свісце разведаных трас
асветлена сэрцам касмічная глуш.
Здалося,
ракоча ад радасці бас:
— А неба,
нарэшце,
зняло
капялюш!

1961

## *А ў нядзелю...*

А ў нядзелю з-пад зары
вылятālі журавы,
густа пырснулі ў бары
стрэлы цёплае травы.

Захапляюся, люблю,
бо на сэрца мне лягло,
абдымаючы зямлю,
жураўлінае крыло.

Межы вёсен і краін
перакрэсліла яно.
Проста ў шчасце і язмін
адчыняецца акно.

Як жа радасць,
любы край,
ціхім словам маляваць,
калі заўтра новы май
нам з табою маяваць!

У нядзелю з-пад зары
вылятали жураўы,
за чырвоныя бары
дождж працокаў яравы.

Прывітанне, Першамай!
З пахам ліпкага лісця!
Чырвань грае з краю ў край —
колер сцяга і жыцця.

1962

## *Вечны каляндар*

Сабе і лету не мані,
убачыўшы ля ганку
у цьмянай чырвані маніст
рабіну,
як цыганку.

Прыйшла на лісцях варажыць
яна ў пабляклай сіні.
— Цяпер нядоўга жніўню жыць,—
спалохаўся асіннік.

Ужо лісцё пазалаціў
рабіне жнівень позні,
ажыны дрозд абмалаціў,
і парыжэлі пожні;

хмурынкі — й тыя у тарпах,
і так у полі пуста,
і верас вераснем прапах,
зазімкамі — капуста.

Прачнецца вецер: — Сыпані
лісцё на падаконнік...
Мільгаюць дні —
не супыніць
з гары мяцеліц коні!

У шызых воблаках кастра
бульбянішча, як восець.
Сінічы свіст каля двара,
і з клёна, як з календара,
лісты
зрывае
восень.

Навісла восень нада мной
трывожным ураджаем
гадоў, зарніц
і сівізной
дрымотнай пагражае.

Я ўсё ўтрымаю на плячах,
што прагне наваліцца,—
яшчэ ў рабінавых начах
палае навальніца.

І сэрца чуе:
у адказ
здалёк гурчыць другая,
дзе гром на першы свой папас
грыміць
мастамі мая.

Цяпер, як у руні маладой,
нязломнай сіле верыш.

Над стомай,
шчасцем
і бядой
гары,
мой сіні верас!

Хоць ты мне сцежкі перайшоў
на ясных баравінах —
сустрэчы рассыпаюць зноў
усмешак журавіны.

Табою пахнуць пачалі
сукенкі,
зоры,
словы.
...слыве найлепшым
у пчалы
узятак верасовы.

1960—1963

## *Партызанская школа*

Сухім пергаментам — бяросты скрутак.
Мурашкі-літары... На сэрцы смутак:
пісаць вучылася палеская дзятва,
як вылі «юнкерсы» па сорак сутак,
гарэлі воблакі, і дрэвы, і трава.

Нястачы сведка — сшытачак з гаймага.
Па шоўку сонечнай кары адвага
вадзіла, пішучы, няўмелую руку:
*«Радзіма. Вежа. Сцяг. Палон і Смага»*.
Гучаць такія ж словы ў «Слове аб палку»!

Гартала вечны лемантар дуброва;
суняўшы кашаль, грэлася ў пакровы
на папялішчах бесхацініца-вайна.

...Ніколі не загіне наша мова,
калі ў такім агні не згінула яна.

1965



Здаецца, зноў жыццё пачата —
сляды і лодка на пяску,
і матчына старая хата
у галубіным гарадку.

Хто верны
родным запаветам —
здалёку вернецца сюды,
успомніўшы, як чорным цветам
цвілі над возерам сады.

Паротна нас лічыла куля,
а мы — гаротная радня —
за дротам бачылі, матуля,
цябе, як сонейка, штодня.

На волю ход,
тайнік за склепам,
і ты з кужэльным ручніком.
У змроку рукі пахлі хлебам,
малiннiкам і малаком.

У нашай памяці павечна —
калючы лагерны паркан,
таемны ход і небяспечны
трывожны шлях да партызан.

Прысніцца плёс
пад хмарай чорнай
і голас твой: — У добры час...
Не толькі маці нарачонай —
ты роднай сталася для нас.

Як даўні боль,
як сон салдата —
сляды і лодка на пяску,
і матчына старая хата
у галубіным гарадку.

1965



Кружыцца табар шпачыны,
няспасвенай пожняй уцешаны.
Сцежкі бягуць на спачынак,
згінаючы, ломяць арэшыны.

Грацць безупынна гатовы
зялёныя грайкія конікі.
Што ж вы схілілі галовы,
сланечнікі-сонцапаклоннікі?..

Сходзіць чырвонае лета.

1965



З-пад хмар ляцеў
дэсантнікам.
Цяпер ссівеў
дзесятнікам.
— Трымайся, дзед! —
Бы хлопчыкі,
крычаць табе
праходчыкі,
калі ў забой
спускаюцца
ці на палку
спаткаюцца.
Эх, лазня салігорская,
парафія шахцёрская,
лупцуйце нас,
браценікі —
бярозавыя венікі!
Духмянай белай параю
спавіта ўсё,
як хмараю.
Шарэюць толькі шыбіны,
а сонца —
ў сетцы
рыбіна —

балюча страпянулася
(зямля ў агні
хіснулася).
Здаецца,
зноў паранены,
з пасечанымі стропамі,
ляціш ты
над палянамі,
над нечымі акопамі,
над сцежкай у маліннiку...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Схіліліся ў прымыльніку
шахцёры
над дзесятнікам.

Калісьці быў дэсантнікам.

1965

## *Пячура*

Сведчыць камень абчасаны
на пясчаным схіле:
дзве дзяўчыны пахаваны
у адной магіле.

На пагосце сведчыць камень
пад зялёным вецем,
што аплаканы бацькамі
дочкі ў сорак трэцім.

А яшчэ ніжэй... глядзіце!
Каб зямля пачула,
крык не моўкне на граніце:
ІХ ЗАБІЎ ПЯЧУРА.

Хто ён,
смерці памагаты?
Дзе прыстанак знойдзе
нават каменем пракляты
паліцай ці злодзей?

Можа, ён уцёк за мора
да сваіх у госці?..
Столькі год сівое гора
плача на пагосце:

— Ой вы, сосны, не шуміце,—
ўся зямля пачула,—
маіх дочак не будзіце.
...Іх забіў Пячура.

1965

## *Летапісцу ляснога фронту*

Раўнуючы да гнуткіх вуд,
штодня без адпачынку
стракоча ў хаце ундэрвуд —
трафейная машынка.

Дыктуюць хмары праз акно —
дармо,
што на палянцы
сваё адстукала даўно
яна ў штабной зямлянцы.

Змяніўшы мовы строгі лад
і зведаўшы нямала,
жыццё і смерць пад гул блакад
машынка друкавала.

Ты помніш багнішча —
пасцель,
сябры ў якой паснулі?..
Трывожны строкат.
Б'юць у цэль
гарачых літар кулі.

Навошта рыфмаваць аер
са смуткам белых чаек?
Ламае
гукавы бар'ер
за хмарамі
знішчальнік.

Прастрочаная цішыня,
і стол, як поле бою,
і сэрца ў полымі штодня
заходзіцца ад болю.

1965

## *Генерал Пушча*[1]

Гэй, на гром, на вецер,
Каб гуло па свеце,
Зашумела пушча,
Пушча-непакора.
На зялёных кронах —
Лесавых пагонах —
Барвавеюць зоры,
Баявыя зоры.

Рэйды, пераправы,
Сонца,
голас птушчын
Карануюць славай
Генерала Пушчу.

— А я бяду перабуду,
Смутку прызабуду,
Толькі ворагу-прыблуду
Карыцца не буду!..

Ціха, гром і вецер!
Нас пачулі ў свеце.
Адшумела пушча,
Пушча-непакора.

На зялёных кронах —
Лесавых пагонах —
Барвавеюць зоры,
Беларусі зоры.

[1] Песня з аднайменнага кінафільма.

Волга, Вісла, Сава,
Свет увесь відушчы
Карануюць славай
Генерала Пушчу.

— А я бяду перабуду,
Смутку прызабуду,
Толькі ворагу-прыблуду
Карыцца не буду!

1967

## *Жэўжык*

Скача на палцы дарожкай дахаты —
качкі набок.
Хітрыя чорныя вачаняты,
белы чубок.

Спелай ажынай прапах, непаседа,
сіняй расой.
Помніць прыгоды дзеда Міхеда,
п'е сырадой.

Бабка, вылазь са сляпога запечка,
глянь на вушак:
змералі ўнука — зверху засечка,
сённяшні знак.

Бабка змахнула слязу ля парога —
кроплю турбот:
— Толькі на два сантыметры, нябога,
вырас за год...

Смешная, добрая, любая ласка,
хатні дазор.
Ведаю: вырасце — гэта не казка —
хлопчык да зор.

1967

## *Чэрствая скібка*

Вынес лёгенька грыбавік
лета з цёплага бору,
сэрцам слухае восені клік,
задыхнуўшыся ад прастору:
елкі воддаль —
як вежы Крамля,
і саломкай сухою
блішча жытнішча;
блішча ралля
за маруднай сахою.
— Добры дзень!..
— Добры дзень,— у адказ,
прыпыніўся араты:
«Мусіць, новы настаўнік у нас...
Цягне кош ніштаваты...»
Падахвоціўся грыбавік
ды — пагнаў баразёнку.
Гарадскі, а ў рабоце мужык,
хоць і так сабе звонку.
Лоб круты у баразнах клапот.
І прасцецкая кепка.
Уздыхнуў,
выціраючы пот,
кажа:
— Кепска, ой, кепска,
сошка з вілаватаю
кутаю нагою,
ты слывеш рагатаю
бабаю-ягою.
Араты паправіў сашнік,
на сонца зірнуў араты.
Распагодзіўся грыбавік:
— Падсілкуемся... чым багаты...
Серабро павучынавых струн
на кустах і ў разорах.
Не стрымаўся вясковы маўчун,
пасівелы,
як жораў:
— Валачэшся лядамі,
поркаеш нарогам.
Хлеба за калядамі —
хоць жабруй у Бога...

А ў падлеску галёкае кліч,
б'е трывогу сарока.
Хтось крычыць недалёка:
— Уладзімір Ільіч!..
— Уладзімір Ільіч!..
Пад агністым спалохам асін
на зацішнай паляне
чорны латаны лімузін
і шафёр-марсіянін.
Паглядзеў на скуранку сівы,
на яго акуляры.
— Вы з Масквы? — запытаўся.
— З Масквы.
— Камісары, нябось?
— Камісары.
Селянін раскумекаць не мог:
хто з іх большы начальнік?..
Над цяпельцам дымок,
парай пыхкае чайнік.
Той, у кепцы,
                з газеткі дастаў
скібку чорнага хлеба,
разламіў і падаў,
пасаліўшы як трэба.
Паланёны
            бядак-гаспадар
палавінкаю шчырай.

Гэта ж ён,
            валадар,
хлеб расійскае шыры,
ставіў хаты і ставіў крамлі,
праўду клікаў на веча.
Дрэмле хлеб у зямлі
і ў табе, чалавеча.
Чорны, чэрствы,
спавіты ў кумач
хлеб расейскага поля,
гэта — кроў,
гэта — плач,
гэта — песня і воля.
Бацька Хлеб,
                свайго сына ўзвяліч,
станься доляю новай!..

На паляне Ільіч
захапіўся размовай.
Барвавее лістота асін.
Блішча сонца з разораў.
Распагодзіўся
селянін,
пасівелы,
як жораў.
Раскурыў ён
— папас дык папас! —
піпку-файку старую:
— У Маскве, кажуць людзі, у вас
нейкі Ленін кіруе,—
і, зірнуўшы на лоб на круты,
дзед закончыў яскрава: —
Во каб гэтакі быў ён, як ты,
эх,
пайшла б наша справа!

1970

## *Песня пра Кірылу Арлоўскага*

Здабыта часіна спакою
у штурме царовых палат —
з вінтоўкай пайшоў баразною
за плугам акопнік-салдат.

Крокі ворага
чуеш, орле, чуеш
здаля?
Пахне порахам,
пахне спелым хлебам
зямля.

У рыжых снарадных разорах
Валенсіі вогненны дол.
Туды, у іспанскія горы,
ляціць русачубы арол.

Крокі ворага
чуеш, орле, чуеш
здаля?
Пахне порахам,
пахне горкім пылам
зямля.

У пушчы арол не бядуе,
і дома спакою няма:
сляды замятае, бінтуе
гарачыя раны зіма.

Крокі ворага
чуеш, орле, чуеш
здаля?
Пахне порахам,
пахне чорным снегам
зямля.

Настала жаданая ціша,
а нам у дарогу якраз —
ніколі радзіма не спіша
у бестэрміновы запас.

Крокі ворага
чуем, орле, чуем
здаля.
Пахла порахам,
пахне спелым хлебам
зямля.

Шануе адважныя сэрцы
арліная наша сям'я.
На кожнай салдацкай паверцы
гучыць ветэрана імя.

Чуеш, орле?
Чуеш?..

1971



Дрымотная мільгае ліставея.
На тратуарах лета іржавее.
У просіні
над вежамі,
над рэкамі
жураўліны рэквіем.

З вясёлым смуткам асыпайся, лісце
забранзаваных каляндарных ісцін.
Вятрамі не развеяна,
не страчана
маладосці спадчына.

За вугальнай смугой дэпо і фабрык
прастор свіціцца, як наліты яблык,
хоць журыцца
над вежамі,
над рэкамі
жураўліны рэквіем.

1975

## *Мы — хлопцы жывучыя*

*Івану Сяркову*

Грымотна стогнуць далечы,
а мы не спім, штоноч ізноў
чакаем, выглядаючы
пад знічкамі ракетнымі бацькоў.

Узяць на зуб няма чаго.
Жыццё адно, і смерць адна:
бурчыць вайна, як мачаха,
сівая далакопіца-вайна.

А хлопцы мы — жывучыя,
бяду сваю ў дугу сагнём:
любіць жыццё навучаны
малыя бесхацінцы пад агнём.

Аралі, галадаючы,
пракосы гналі — будзь здароў!
І заяснелі далечы
ад зорак на пілотачках бацькоў.

Хоць родны край знявечаны,
для нас пяе, цвіце вясна:
пад хмарамі Нямеччыны
скапуцілася мачаха-вайна.

Па сэрцах квецень сцелецца,
і нам, сябры, чуваць здалёк:
сумуе за аселіцай
русявае мілёнкі галасок.

1976

## *Закасі мае вёсны*

Ой мурожна ды росна
ля быстрай вады.
Закасі мае вёсны,
касец малады.

Перапёлцы жалосна,
і чуюць лугі:
— Закасі мае вёсны,
касец дарагі.

Я сцяблінкай гатова
упасці ў пракос,
каб ты сніў мае бровы
і полымя кос.

Я сцяблінкай гатова
упасці ў пракос...

1976

## *Пад гарою ля сцен Магілёва*

Родны дом на Дняпры —
росным цветам зары
распагоджаны вокны пунсова.
Салаўяцца яры,
атаманяць вятры
пад гарою ля сцен Магілёва.

Даўні смутак, любоў
і пралітая кроў —
успаміны мае, успаміны!
Вы кранулі ізноў
каранямі дубоў
на абрывах іржавыя міны.

У жалезных кастрах
біты Буйніцкі шлях
і палеткаў зялёная воля.
Люты бой, страшны бой
парадніў іх з табой,
Барадзінскае слаўнае поле.

Хмарай дым угары.
Паміраюць сябры
і любоў у бялюткай хусцінцы...
«Мы пабачым Берлін!» —
на Дняпры між руін
прысягалі тады пехацінцы.

Родны дом на Дняпры —
росным цветам зары
распагоджаны вокны пунсова.
Салаўяцца яры,
атаманяць вятры
пад гарою ля сцен Магілёва.

1978

## *Позні паром*

*Л. Кавалеўскай*

Абваліўшы напралом
з лёту дуб трывушчы,
Нёман блішча пад крылом
Ліпічанскай пушчы.

У журбе маладзіка
салаўіны востраў.
Спатыкнулася рака
на каменнях вострых.

Пасячыце тапаром
на віры канаты —
можа, стукнецца паром
у парог шчарбаты.

Там русаліцца адна
белагрыўка ў Орлі.
Нёмнам ходзіш,
                    а яна —
як пятля на горле.

1980

## *Уладзіміру Кавалёнку*

Сын Зямлі на віхурнай арбіце,
з вышыні высачынь
Беларусь у святле і граніце
сакаліна акінь.

Зоры ў далечы блізкай,
як суніцы, збірай.
Гэта край абеліскаў
і камп'ютэраў край.

Смаліць сонца ці тоўпяцца хмары,
а звіняць каласы —

пад калоссямі дух хлебадары
ад расы да расы.

Хай спяваюць
                    мастоў ланжэроны,
каласіцца агонь.
Хай мільгаюць
                    гадоў перагоны
у пагоні пагонь!

На зямлі абеліскаў
хай не журыцца гай —
зоры ў далечы блізкай,
як суніцы, збірай.

1983



# ПАЭМЫ

## *Бацька Дняпро*

### *I*

Аглухла вясна
ад грачынага граю.
Паводка гуляе,
алешнік гайдае,
і пылам жаўтлявым
дымяцца кусты.
Плывуць і плывуць
быстрынёю з Валдая
на поўдзень
даўгія,
як вёрсты,
плыты.
Ад пены сівая
вірыцца дарога.
За згонам рыпіць,
выгінаецца згон.
І плытніка хатка
глядзіць з галаўнога
на ўсе бакі свету
вачамі акон.

Да коміна
пенай
запырскана хатка.
З вудзільнам сядзіць
барадач пад страхой.
Прапахла рудая
яго плашч-палатка
рачным багавіннем
і цёплай сасной.
Бялявы хлапчук
на парозе,
як дома,
ваюючы з кошкай,
скрабе шчупака.

Хаваецца сонца
за сінія стромы.
Віднеецца Орша.
Шырэе рака.

Знаёмыя хлопцы —
Дняпра ветэраны —
выводзяць на стрыжань
свае караваны.

Ліхтар запаліў
барадач ля стырна,
насустрач гукае:
— Э-гей, партызаны!
Кіруйцеся ўслед,
не чакае вясна!..

— Ад-ча-лі-вай! —
З рума гракоча
ў тумане.
Маторка туркоча,
ляціць на ліхтар.
— Здарова,—
на плыт узыходзіць аршанец,
вясёлы мужчына,
лясны гаспадар.—
Прачнуўся наш бацька,
а я не прыкмеціў,

калі ён скрышыў
ледзяное ярмо.
На гэным курорце,
найлепшым у свеце,
да Кіева юшкі
з табой паямо...

Чуваць,
як вяслуе
над водамі жораў.
А бакеншчык-вечар
прысеў ля кастра,
у час запаліўшы
агеньчыкі зораў
у небе
і ў люстры рухомым Дняпра.

Мультан-гарладзёр
на пачатак размовы,
кажух расхінуўшы,
дастаў партызан.
З вайсковага ордэна
глянуў сурова
у твар плытагонам
Хмяльніцкі Багдан.
Нібыта спытаць
у нашчадкаў ён хоча
пра долю,
пра дружбу,
якую прарочыў...
Іскрыста займаецца
полымем корч.
— А хто гэта, дзядзька? —
Пры вогнішчы хлопчык
не зводзіць
з вусатага гетмана воч.
На плыце агонь
разгараецца ярка.
Навокала ззяе,
цячэ серабро.
— Чакай, раскажу я...
Дыміцца цыгарка,
і думае даўнюю думу Дняпро.

## II

...Зімою завейнай,
год трыста назад,
ірваўся да Оршы
казацкі атрад.

Кароннае войска
стаяла кругом,
мястэчкі і вёскі
карала агнём.

На смерць Радзівілу,
вятрам наўздагон
паслаў Тарасенка
крылаты загон.

І шаблі —
крыж-накрыж! —
звінелі ўначы...
На дрэвах
цяжкія сядзяць
крумкачы.

За Ельняю ельнік,
як шчотка, густы.
На кручах —
сумётаў калючых
пласты.

На кручу злятае,
закрумкаўшы,
птах.
Ляжаць запарожцы
на белых пластах.

Сасняцца раіны
і стэп у расе;
устань —
і дахаты
Дняпро данясе.

Ды сіл не хапае.
Закуты Дняпро,

і чысціць
жалобная птушка
пяро.

Са смерцю сасватаў
гарачы свінец.
Адкрыў
заінелыя вочы
хлапец:

вірыцца завея
ля сонных ялін...
адзін
сярод мёртвых...
у полі адзін...

А рана —
не ўстаць
і не выйсці на шлях,
бы горан кавальскі
раздзьмуты ў грудзях.

Над белай зямлёю
магільная ціш.
Махнуў ён рукою
на птушку:
акыш...

Дарэмна пяеш
калыханку, зіма,—
казачае смерці
на свеце няма!

Сумёт да зямлі аж
крывёю прамок —
дрыжыць да світання
дыхання дымок.

Вандроўнік самотна
спыніўся над ім,
агледзеўшы поле
дасвеццем глухім.

Зірнуў са спагадай,
паправіў мушкет,

паважна дастаў
вышываны кісет.

Заечая шапка.
Зрудзелы армяк.
Пытае:
— Яшчэ не замёрз,
небарак?..

Ласкавыя вочы.
І знак над брывом —
пакінула краля,
што смерцю завём.

Казак
галаву падымае:
— Браток,
цяпер каб гарэліцы...
хоць бы глыток...

Сасмяглы, пануры,
як звалены дуб,
атрос запарожац
аснежаны чуб:

— А дзе ж ты
да службы казацкай
прывык?
— А з Белай Русі я,
паўстанец-мужык.
Нябёсы над краем
пажар закурыў —
я сорак палацаў
да Бога пусціў.
Паранены ў бойцы,
пакінуў сядло.
Сяброў
на крывавых шляхах
замяло.

Я думаў,
як дальняй ішоў стараной,
загояцца раны
пад роднай страхой,—

на попел халодны
схіліўся ўначы.
Ні хаты, ні родных,
адны крумкачы...

Мужык уздыхнуў
у нямой цішыні:
— Падстрэліць бы пана
на добрым кані...

На плечы ўзваліўшы,
панёс казака
сувеямі топкімі
да бальшака.

* * *

Як воблакі, кроны
куржавых бяроз.
З дрывамі захрас
на абочыне воз.

Дарогу рукамі
абняў гаспадар —
падлетак, памочнік матулі.
А твар...

Па ясных нябёсах
пралескавых воч
пранесла
драгунскую сотню,
як ноч.

Паўстанец хіснуўся:
— Казача, зірні...
араў я калісьці
на гэтым кані...

І вочы
адразу туман завалок.
— Сустрэліся, сыне...
сыночак... сынок...

Каго ж ты сагрэеш
дрывамі цяпер?
Спаліў тваю хату
і матку жаўнер.

Завяз у сумёце,
сумуе гняды —
надоўга прылёг
гаспадар малады.

Не злічыш
на целе знявечаным
ран.
Паціху зіма
насыпае курган.

А бацька не можа
пад чорнай зарой
укрыць свайго сына
як трэба зямлёй.

Паплакаць не можа
над сынам.
Мароз
скаваў на расніцах
гарошыны слёз.

Саскроб ён слязіны
цяжкія, як шрот,
і перахрысціўся,
счарнелы,
на ўсход:

— У санкі-развалкі
лажыся, казак,
адна ў нас дарога...

...Дыміцца бальшак.

Завея ўсхадзілася.
Гул капытоў
над ростанню белай
дарог і мастоў.

На ростанях волі
і лютай бяды,
як вецер у полі,
сцяліся, гняды.

Драгунскія коні
ляцяць наўздагон,
і стрэлы пагоні
пад хмарай варон.

На цёмнай,
лясной,
невядомай вярсце,
дзе чулася:
тупат пагоні расце, —
гняды паваліўся,
захропшы,
у снег.
Трымайся, казача,
далёка начлег.

А ноша цяжкая,
з сумёту ў сумёт.
Мужык выцірае
на холадзе пот.

Дрымотныя хвоі
гусцей і гусцей.
Сляды ў гушчары
замятай, снегавей.

* * *

Дзе дыша крыніца
ў кустах ля сяла,
душы дзве замёрзлых
жанчына знайшла.

Ад сцюжы зайшліся,
крывёй падплылі,
навек абняліся
на белай зямлі.

Стаміліся ноччу.
І скончаны шлях.
Закрыліся вочы,
а зброя ў руках.

Яна здагадалася:
з той стараны,
дзе паляць, лютуючы,
цэрквы паны,

дзе гоніць арда,
здратаваўшы загон,
ясыр русакосы
у чорны палон.

Паслухала сэрцы:
жывыя... жывуць!

Крыніца дыміцца.
У змроку пяюць
асіплыя пеўні.
З паўнюткім вядром
аснежаны досвітак
грукае ў дом,
ахутаны парай,
атрос на парог
і плач палазоў,
і сувеі дарог.

З вясёлае печкі
бярозавы жар,
як спёка ліпнёвая,
дыхае ў твар.

Шурпатая
добрай матулі рука,
лагодная,
быццам у спёку рака,

абмыла
на ранах
скарэлую кроў,
укрыла
старанна
гаротных сыноў.

Знайшоўшы, нарэшце,
ратунак ад бед,
ляжаць —
каля брата стамлёнага
брат.

На лаве дзве шаблі,
пістоля, мушкет —
суровыя цацкі
сівых немаўлят.

За прасніцай некалі
маці тужыць,
суровая нітка
між пальцаў бяжыць.

Не злічыш маршчын,
што на твар ёй леглі,
як тых пуцявін
на маскоўскай зямлі.

Дармо, што срабрыцца
сняжок сівізны,—
прыкрылі расніцы
блакіты вясны.

Дармо, што пасецца
крумкач ля акна,
а песня прадзецца,
далёка чутна.

## ПЕСНЯ

Матуля сівая
наказ дала сыну
да брата з Валдая
ісці на Ўкраіну.

Пад сонцам стамлёным,
як ветлая ўсмешка,
гуляе ў зялёным
арэшніку сцежка.

— Прыгніце,
ірвіце...—
ляпечуць ляшчыны,
дзе кроча, як віцязь,
да брата хлапчына.

Да змроку па краі
прайшоў ён нямала.
Сцяжына лясная
раптоўна прапала.

У сне саламяным
за Вязьмаю вёска.
Курыцца туманам
імшарын палоска.

Ні конна,
ні пеша —
ніхто не пралезе —
згубілася сцежка
у Вокаўскім лесе.

Навокала ціша —
ні песень,
ні рэха.
Бруснічнік калыша
шкарлупку арэха.

Вадой дажджавою
наліта да краю,
блішчыць пад нагою
яна, залатая.

Крануў — і на доле,
абмыўшы лісточак,
з арэха паволі
пацёк ручаёчак.

Падаўся за дзівам
здзіўлёны вандроўнік:
рассунуў шумлівы
ручай арахоўнік,

спакою не знае,
булькоча, смяецца,

бы сцежка лясная,
за сонцам імкнецца.

І рэчкаю шустрай
зрабіўся ён,
шпаркі,
адбіўшы,
як люстра,
калоссе
і хмаркі.

Шуміць у чаротах,
люляе лілеі.
А што там,
а што там
за полем сінее?

Убачыш,
здзіўлёны,
з кургана старога:
блакітам зашклёна
да сонца дарога!

Над дужаю хваляй —
дубы векавыя.
Дняпро плыве ўдалеч
за грывы лясныя,

у стэпе казацкім
іскрыцца,
як мора.
І ветразь рыбацкі,
і кручы,
што горы!

Равуць на парогах
ды пеняцца хвалі...
Да мора дарогу
Славутай назвалі.

Куды, брат, ні пойдзеш
дарогаю наскай —
і славу ты знойдзеш,
і дружбу, і казку.

* * *

Калядныя словы
ў назове сяла —
з купелі Хрыстовай
рака пацякла[1].

Бярозы сівеюць,
на стрэхі лягло
валдайскае веі
сівое крыло.

За прасніцай маці
сустрэла зару,
пяе калыханку
малому Дняпру.

З акна яе хаты
відаць увесь край —
лясны, барадаты
ў сумётах Валдай.

Пад небам Валдая
кіпіць ля двара
крыніца —
малая
калыска Дняпра,

дзе сёння
тых двух неадпетых
знайшлі
на ціхай,
дыханнем сагрэтай зямлі.

Як даўнюю думу,
у шчасці й бядзе
блакітную песню
матуля прадзе.

Пад песню
сасмаглым сынам яе ў сне

---

[1] Выток Дняпра — крынічная балацінка ля вёскі Раждзествена на Валдаі.

пачуліся хвалі
ў сваёй старане.

Вяртаюцца нібы
дадому ракой.
Дняпро абдымае іх
дужай рукой,

і дзёгцем і сенам
паром іх прапах.
Стагі,
    што курганы,
на брытых лугах.

Ліпнёвая спёка.
Рыпучы паром.
У хмарах далёка
варушыцца
гром.

Што гэта?
. . . . . . . . . . .

У доме чужым
ля акна
застыла жанчына
бялей палатна.

Расчынены дзверы.
І зброяй грымяць
жаўнеры,
        жаўнеры.
«Пагоня, відаць...»

— Ты мовіш, сыны? —
закрычэлі яны.—
То Хмеля-схізматыка,
матка, сыны!..

Мужык прахапіўся —
за шаблю хутчэй!
Крывёю заліўся
жаўнер ля дзвярэй.

Кулець за парог
і другі,
        бытта сноп.
Ды збілі ўжо з ног.
Пад цяжарам захроп.

Зубамі скрыгоча
на ложку казак.
Падняцца ты хочаш,
харобры дружбак.
Эх,
   верны ды грозны
схапіць бы мушкет!..

Прачнуліся позна.
Пара на той свет.

Па следу —
па сцежцы крывавай
                    на ўсход —
знайшлі іх...
Б'е ў грудзі
            бязлітасны бот.

Чужынцы іх трох
валаклі на мароз
да белых і ціхіх,
што свечкі, бяроз.

Жанчына з гаротнымі
поруч была,
з сумёта,
        сумотная,
іх падняла.

Тры свечкі-бярозы
                пад зыркай зарой.
Тры сэрцы
          шукае настылая сталь.
Зірнула
        вачамі жанчыны сівой
на катаў
         марозная руская даль.

Глядзіць на жанчыну
маўкліва канвой.
Прыпаў да яе
беларус галавой.

— Матуля...—
Успомніў ён
край баравы,
і Оршы муры,
і ў стагах паплавы,

дзе плыт пад зарою
вязала вясна,
над шэрай страхою
рунела сасна.

Паліла там маці
у час навальніц
свянцовыя травы
ў агні бліскавіц,

пярун каб не ўдарыў
агніста ў сяло...

Ды ўсё там пажарам
у хмары пайшло.

Другая матуля
пакутуе з ім.
І побач разуты
чаркас-пабрацім.

Няма тут і хмары,
ды знаюць яны:
у твар ім ударадь
зімой перуны.

Ні бляску.
Ні стрэлаў...
Наставіў каўнер
ад сцюжы ссінелы
сіпаты жаўнер.

Трывожна і страшна
пад лютай зарой.

На тысячы вёрст
ледзянее зіма.
На ляхаў
вачамі жанчыны сівой
Масковія быццам
глядзела сама.

Прамовіўшы: — Маты...—
з усмешкай казак
на поўдзень зірнуў,
дзе іскрыцца бальшак.

Калісь яго маці
ўцякала сюды
ад бахчысарайскай
драпежнай арды.

Такая ж...
маршчынкі...
лягла сівізна...
Падумаў нябога:
напэўна, яна.

Эх, шаблю цяпер бы!
Грымі пад канём,
дарожанька ў вербах
над бацькам Дняпром!

Дарожанькай гэтай
у дым і туман
паслаў яго гетман
Хмяльніцкі Багдан.

З палком Тарасенкі
ляцеў, як віхор,
калышучы
помсты пажары
да зор.

Страшэнны нялічаных
шабляў удар —
крычала пад Крычавам
зграя рэйтар.

Насустрач на ростані
беглі з сяла,
і звонам у Рослаўлі
слава расла.

За Ельняй, дзе ветрам
развеяны дым,
хай сніцца Ўкраіна
сябрам баявым.

Пасцелен у полі
абрус крумкачам...
Дзе шабля,
што волю
нясла мужыкам?

Дзе полк Тарасенкі?..
З тугой небарак
зноў змераў вачамі
на поўдзень бальшак.

І сэрцам пачуў ён
прыціхлы майдан:
на ўвесь Пераяслаў
гаворыць Багдан.

Над новым памостам
зіхціць раніцой
Успення сабор
залатой
галавой.

А вецер калыша
харугвы палкоў
ды чэша бароды
маскоўскіх паслоў.

То слухае Раду
пасольства Крамля.
Як Радзе ўся рада
Ўкраіны зямля!

Малінавым звонам
звініць цішыня.

Над дахам,
над клёнам,
над грывай каня,
над дзікім раздоллем —
куды ні зірні —
паходняў і сцягаў
шугаюць агні.

— За плугам і ў сечы
мы поруч навек! —
Крыляе над сінімі
кручамі рэк.

І тут, на Валдаі,
дзе смерць і палон,
з казацкага краю
той заклік чуцён.

— Сыночкі...
— Мы поруч!..—
Матулі ў адказ
счарнелы аршанец
і босы чаркас.

Тры свечкі-бярозы
пад дымнай зарой.
Тры сэрцы —
іх мерай смяротнай не мер.
Прад імі застыг
у трывозе канвой.
Пістоль упусціў
спалатнелы жаўнер.

Па свеце гаворка
ідзе нездарма,
што смерці казачай
на свеце няма.

Бязносая пані,
касу палажы!
Кругом у тумане
пяюць палазы.

З Масквы да Валдая
у сонных лясах

пад войскам спявае
заснежаны шлях.

Ужо за парканам —
убачыў казак —
палаюць каптаны,
як ліпеньскі мак.

Пад посвістам куль
напрасцяк —
малайцы! —
бягуць адусюль
пад бярозы стральцы:
— Мы шаблямі
злічым
галоў качаны!..

— Парыеце
лычам
сувеі, паны!..

Пасля да жанчыны
прыпаў старшына:
— Матуля...
І сына
пазнала яна.

Як быццам знялі
тваё сэрца з ляза:
і шчасця сляза,
і пакуты сляза.

На снег, бы ў тумане,
не чуючы ног,
схіліўся аршанец,
казак побач лёг.

Стралецкі суворы
арол-старшына
над імі гавора:
— Стаміла вайна...—
І колькі ў ягоных
вачах дабраты!
Падняў ён стамлёных:
— Здарова, браты.

## III

— Здарова! —
як рэха,
          інакшай парою
гучыць на світанку:
— Здарова, браты!..
Праплыўшы паўсвету
                    казацкай ракою,
да кіеўскіх круч
               падыходзяць плыты.
Шырока,
        як мора,
               срабрыцца дарога.
За згонам рыпіць,
                выгінаецца згон.
На горад зялёны
              глядзіць з галаўнога
вясёлая хатка
            вачамі акон.
Віецца дымок,
            і цяжарам металу
над комінам хаткі
                грукочуць масты.

На шумным Падоле
                гукае з прычалу
хлапчына ў бушлаце:
— Здарова, браты!
У госці ішлі
           па добрай дарожцы.
Прычалівай смела!
Калісь недарма
казалі ў паходзе
дзяды-запарожцы,
што смерці казачай
на свеце няма!..

Здаецца,
знаёмы хлапчына чубаты,
што плытнікам
             кінуў
                 з буксіра канаты.
Пад кулі хадзіў ён,

не гнуўся, як дуб.
Мацуе канаты
рукой вузлаватай,
на ветры
пшанічны
рассыпаўшы
чуб.

А сын плытагона
глядзіць на абрывы,
дзе дыхае
весняга цвету агонь:
мо выскачыць,
ззяючы бронзавай
грывай,
на кручу
Багдана Хмяльніцкага конь?..

Для гэтай сустрэчы
наліўся світанак
праз трыста
на кручах палеглых гадоў,
бялюткія свечкі
гараць на каштанах
і граюць аркестры
заводскіх гудкоў.

Шуміць,
маладзее
наш бацька з гадамі,
з Валдая
да сініх прыморскіх далін
сваю бараду
расчасаў грабянцамі
высокіх,
як майскія зоры,
плацін.

Мы разам
скрышылі
пакутаў парогі.
У сэрцах
крыжуюцца
долі дарогі.

Звініць тваіх песень
                    і вод серабро.

Абняўшы
        зямель яравыя разлогі,
ты думаеш
          ясныя думы,
                    Дняпро.

1954

## *Вецер з Волгі*

### ПРАЛОГ

Упершыню сягоння
ты ўстала гэтак рана.
Калючая, тугая
вада страляе з крана.

У цішыні світання
здалося ўсё нязвычным:
хада твая...
і блузка
пад прасам электрычным...

Такі святочны клопат
на задуменным твары,
ажно падскочыў чайнік
і захлынуўся варам.

Пад капяжом, за форткай,
у дно пажарных бочак,
не моўкнучы, стукоча
сррабрысты малаточак.

Цяпер на чорных дрэвах
кару пагладзь рукою —
адразу ўсе пупышкі
успалыхнуць ліствою.

Мы на паверсе шостым
пачулі, як заспаны,
прамоклы парк закаркаў
у невадзе тумана.

Глядзі, глядзі, Ірынка,
якім святлом і звонам
усход наліўся — горад
у гальштуку чырвоным!

На піянерскім сэрцы
і ты, вясны надзея,
хвалюючыся, гальштук
упершыню надзенеш.

Дастала моўчкі маці
крылаты шоўк з шуфляды,
і вашыя на момант
сустрэліся пагляды.

— Насі,—
яна сказала,—
чырвоны гальштук матчын.
Дарунак запаветны —
найлепшая са спадчын.

Калісь і я насіла
яго на шумных зборах.
Хавала, як па Мінску
хадзіў у касцы вораг...

Сябе адчула маці
такою маладою:
яе маленства поруч
сваю трымае долю.

І ямачкі на шчоках,
і кожная вяснушка —
усё агнём дарунка
асветлена.
Дачушка!

Без плямінкі твой гальштук,
як нашае сумленне.
Насі яго з павагай,
другое пакаленне.

Не проста на занняткі
у школу пойдзеш раннем —
нялёгкі шлях пачнецца
ўрачыстым абяцаннем.

Табе па трох ступенях
патрэбна дабірацца
на ясныя вышыні
навукі, дружбы, працы.

Не ў танны бляск танцулек,
не ў слодыч град клубнічных —

узнімуцца ступені
у глыб вышынь касмічных.

Сусвет дазнацца мусіць
пра штурмы і спаленні,
адкуль віхур вытокі
і як пачаўся Ленін.

Сягоння ўсёй дружынай
вы рушыце да плошчы,
куды зліюцца песні
пад барабанны пошчак.

На галубінай плошчы
граніт, халодны камень,
сагрэецe румянцам,
усмешкамі, вянкамі.

Ля помніка высокі
блакітны дзень вясновы
паўторыць, што змагацца
заўсёды вы гатовы.

І ў цішыні над плошчай
павее з Волгі вецер,
які сягоння крыгі
ва ўсім ламае свеце.

Вясновы
з Волгі
вецер...

## КРЫГАЛОМ

Сем дзён ідзём,
а Сімбірск відзён...
*З бурлацкай песні*

Як лёгка вучыць геаграфію!
У класе прыціхлым з акна
праз голле вясновую графіку
магутная Волга відна.

Схіляецца хлопчык над кнігамі,
а там, пад арліным крылом,

клякоча, скрыгочучы крыгамі,
шырока грыміць крыгалом.

Заходзіцца сэрца Валодзева:
вясна ў набрынялых садах
Свіягу на бераг выводзіла,
з купальні зрываючы дах.

Плыве ручаямі, канаўкамі
драўніна старой гарадзьбы.
Над кручамі каўкі закаўкалі
і коцікі цёплай вярбы.

Раздолле... Утопіцца вока там
у пеннай бяскрайняй красе,
дзе Волга Сцяпанаўна з рокатам
на Астрахань крыгі нясе.

Звіні, атаманша, маністамі
халодных вясёлкавых пырск —
аглушаны разінскім свістам
на кручах купецкі Сімбірск!

У шыбы лабазніц разгубленых
застукае ўзвеяны жвір;
*сім-бір* —
свішча ў словах прадубленых
сямёра вятрыскаў:
*сім-бір*!

Часцей налятаючы з Азіі,
шырэй закруціўшы віры,
будынак класічнай гімназіі
бяруць у абдымкі вятры.

І муза гісторыі Кліо
у садзіку Карамзіна,
празябшы, чакае маўкліва,
калі абагрэе вясна.

Дзяўчына у бронзе
пад клёнамі
сасніла завейнай парой
блакіты Элады, няснёныя
на кручах Расіі сівой.

* * *

О жаваранак весні —
залівісты званок,
таю ў кішэню песню
схаваў вяшчун-дзядок.

Ды льецца, залатая!
Пад тупат, рогат, свіст,
бы з клеткі, вылятае
на ганак гімназіст.

Прыжмурыўшыся, глянуў
на Волгу і лясы.

— Хутчэй!
— Хутчэй, Ульянаў!..—
Лунаюць галасы.

Усё, што трэба ўзросту:
— Ляцім!
Стрымай цяпер!..
Па лужынах... наросхрыст
мундзірчыка каўнер...

Ад ветру зубы ломіць.
У лужынах — агонь.
На бруку сонца ловіць
падковай мокры конь.

Мядзяных сонцаў кроплі
зграбае ў шапку з пліт
аслеплы ў Севастопалі
хрыпаты інвалід.

Забэмкаў незлічоных
званіц настылы звон,
узняўшы хмарай чорнай
над горадам варон.

Прыклеіліся твары
ля тумбы да афіш.
Чаго ж ты на бульвары,
гімназія, стаіш?

Чытаючы,
за горла
хапаешся рукой:
са шчок румянец сцёрла
як быццам той пятлёй.

Ляціць у прорву сэрца
і — не дастане дна.
На ўрадавай паперцы
чарнее навіна:

Жалябаў і Пяроўская
пайшлі на эшафот...
Урадпік з папяроскаю
пачухвае жывот:

— Зашморгнулі!..—
Як рашпілем
па сэрцы зноў: — Капец
царазабойцам-аспідам,
капец! —
Сіпіць купец.

Са смуткам і трывогай
Валодзя адышоў.
Пярынкі хмар над Волгай
ляцяць.
Пара дамоў!

Маскоўская — налева,
рыпіць пад ветрам дом.
Над ім люляе дрэва
дуплянку са шпаком.

Схаваўся снег у засень,
дзе шумна ля акон
абняўся з вязам ясень,
з таполяй — гонкі клён.

Чакаючы цярпліва,
пасталі ля варот.
Няўжо з такіх, шумлівых,
збіваюць эшафот?

У кронах поўна ветру,
а ў шуме — дабраты.
Яны гамоняць ветла,
як сёстры і браты.

Жартуе бацька часта:
— Зірніце, дзеці: ў нас
цыбаты і купчасты,
як Саша, юны вяз...

Ад флігеля сцяжынка
у мокры сад бяжыць,
дзе Аніна асінка
на холадзе дрыжыць.

Шукае штось Валодзя,
павесялелы, зноў
бяжыць у сад, знаходзіць:
— А вось і мой... здароў!

І з ласкаю, як брата,
што завітаў здалёк,
абняў каржакаваты
разгалісты дубок.

## НЯДЗЕЛЯ

Прачнуўшыся, калі дасветак
хвалюе сіняй варажбой,
перш-наперш бачыў карту свету
малы Валодзя прад сабой.

Вясна над Волгай варажыла:
нібыта лёсу знак нямы,
на карце выступалі жылы
далёкай Лены і Нявы.

Паловы дзве зямнога шара,
яны сінеліся святлей
пад ранішнім паглядам карых
задумна-ўважлівых вачэй.

... Да перыёдыкі ахвотнік,
ён перачытваў да сямі
выданне хатняе — «Суботнік»,
жывую хроніку сям'і.

Мастак нястомны і рэдактар,
вясёлы Саша, друг і брат,
іскрыцца смехам твой характар
з пародый, рэбусаў, шарад.

Артыкул строгі прысвяціла
табе старэйшая сястра:
«Эх, Вральман, нашае свяціла,
чытай Бялінскага... пара!»

Крыху тужлівы вершык Ані...
Малюнак Олі... А за ім —
Валодзева апавяданне.
«Кубышкін» — гэта псеўданім.

Пакуты творчасці, турботы
і зацікаўленасць гасцей,
часопіс кожную суботу
выходзіў з-пад пяра дзяцей...

На палавік злятае коўдра,
лянота змыта халадком.
Грачынае за форткай кодла,
калёсны грук...
Прачнуўся дом.

І лесвічка на антрэсолі
рыпіць пад ранняй навіной,
і смех Маняшы, Міці, Олі,
і кашаль бацькі за сцяной.

Ударыў звон — трапеча пер'е
над горадам... ударыў зноў —
уся абуджана губерня
нядзельным бомканнем званоў.

У ім — як галасок сініцы,
ямшчыцкага званочка спеў:
чыноўнік важны са сталіцы
да бацькі ранкам прыляцеў.

Сягоння бацька ў віцмундзіры,
пры ордэне... Стары зусім...
Гадзіны, можа быць, чатыры
клубіцца ў кабінеце дым.

— Я, ваша міласць, вельмі рады...
Цягну свой цяжкі воз, як вол,
і вось... знімаеце з пасады
дырэктара народных школ?..

Зяхнуў чыноўнік, франт партрэтны
з маладзіком на галаве:
— А школы вашыя патрэбны
глухой аўчыне ды мардве?

Няхай свой бруд змываюць потам,
з пяром загіне дрывасек...
Яшчэ з гадок працуйце... потым —
са славай пенсія павек.

Замоўк ён. Сіне ў кабінеце.
Схіліў Ульянаў галаву.
— Скажыце, як жа вашы дзеці...
Ці спраўна ходзяць у царкву?

— Калі папраўдзе — не заўсёды.
Зусім інакшы сёння свет.
— Эх, вашыя і тут метады.
Патрэбна біць, хвастаць як след!..

Валодзя выбег са сталовай,
ад ганка з ветрам — сугрунём.
«Патрэбна біць, хвастаць...» —
тры словы
гнялі, палілі, як агнём.

І там, дзе звоніць дзень нядзельны,
крынічкай точачы сумёт,
сарваў ён з шыі крыж нацельны
і кінуў, слёзны, у гарод.

## ЯК ПАХНЕ ВОЛЯ

Глянь з адхону! Сягоння ты сокал,
толькі сокал сюды даляціць;
расхінулася зырка навокал
са Старога Вянца далячынь.

Першы крык парахода.
                                        Над Волгай
кожны воблак —
як белы палац.
Сцежкі пахнуць іржаваю воблай,
лузганцамі засеяны пляц.

Тлумны рынак — пярэсты мурашнік,
сход ярыжак, птушыны палон —
сваркай, песняй, тугою ўчарашняй
закіпае на досвітку ён.

Прадае сваё гора нядзеля,
шлюбны ўбор прадае і труну.
— Спапялі цябе новы Ямеля!..—
П'яны грузчык вітае турму.

За сцяной перакрэслілі краты
бляск вачэй, дзе гарыць неспакой:
хоць бы клейкі лісточак пакратаць,
дакрануцца схуднелай рукой.

Вочы просяць спагады і волі,
сэрца паліць жаданне адно:
«...познако-о-мила общая доля
да с двойною решеткой окно...»

Глухне спеў.
Распінаецца рынак:
— Дзёгаць!..
— Масла!..
— Парча!..
— Селядцы!..
Салавей, срэбра цёплых пярынак,
прадаецца за грош на Вянцы.

Астраханскі з галубкаю турман,
крыжадзюб, каралёк, снегіры —

клеткі-клеткі, птушыныя турмы
ля панурай турмы на гары.

Срэбны гром, што грыміць на ляшчыне,
росны посвіст з вясёлых бяроз
за плячмі ў драцяной павучыне
асцярожна Валодзя панёс.

— Гайда! — крыкнуў сябрам-гімназістам.
У садах на адхоне крутым
беляць яблыні;
леташнім лістам
пахне зыркага вогнішча дым.

Шпак у дыме трапеча на вязе,
і, зірнуўшы на свет весялей,
чысціць крылцы на дроціку вязень —
змардаваны пяюн-салавей.

Ён спачатку, спрабуючы сілу,
звонка булькнуў, пасля срэбраспад
загрымеў над ярочкамі схілу,
затрымцелі і клетка, і сад.

Прытаіліся мальцы ў ажыне.
— Проста дзіва...
— Які маладзец...

Два жандары па вузкай сцяжыне
чалавека вядуць на Вянец.

І замоўкла крылатае дзіва,
адсвістаў, адгрымеў салавей.
Усміхнуўся нявольнік,
маўкліва
ідучы міма шчасця дзяцей.

Штосьці вельмі знаёмая ўсмешка...
— Ой, Валодзя, глядзі!
— Гэта — ён...
Добра помніцца іншая сцежка,
над Свіягаю жоўты адхон.

Добра помніцца:
лета канае...
Волгу жнівень уброд перайшоў...

Адвячоркам на топкай канаве
хлопцы вудзяць ляных карасёў.

Паслізнуўся Валодзя —
сцюдзёна
абняла і сціскае дрыгва.
Рукі звязаны бросняй зялёнай,
толькі з прорвы відна галава,
як лілея,
так блізка бялее...
Закрычала ад страху дзятва:
глыбіня... і знікае лілея...
Не падыдзеш — засмокча дрыгва.

Побач бровар. Прыбегла падмога,
і Валодзю дастаў качагар...
Гэта — ён.
Павялі, маладога.
Збіў каменьчыкі з кручы жандар.

На галовы блакітныя кветак
цяжка падаюць вокал чмялі.
Цішыня...
— Можа, выпусцім з клетак?..—
Сэрцы б'юцца на волкай зямлі.

Разгубілася першая птушка:
пазірае — не верыць яна.
Шустра пырснулі ўверх амялушка,
салавей, каралёк і жаўна.

Шчасця іх не чуваць;
на сцяжыне
грымнуў стрэл.
Рэха воклічу:
— Стой!..

Толькі тупат і трэск па ляшчыне,
толькі шум па ажыне густой.

Сцежкі волі віюцца вятрыста:
уцякай, качагар, уцякай!..

Сад ад сонца і вапны святлісты.
Свішча вецер, вясны свістаграй.

## ТАЕМНЫ ХОД

Вучнёўскаю гульнёй «у пёры»
ужо не захапляўся ён.
Як змоўца, з ім па калідоры
хадзіў Карынфскі Апалон.

Бібліяфіл і ледзь не класік,
вядомы ў горадзе паэт,
адданы сябар-аднакласнік
апавядаў пра свой сакрэт.

— Мы знойдзем ход абавязкова
у склепе, дзе заплеснеў страх...
Сюды калісьці Пугачова
прывезлі ў цяжкіх ланцугах.

Не помню, дзевяць дзён, здаецца,
калі аціх узвей-пажар,
як стэпавы арол, у клетцы
сядзеў мужыцкі гасудар.

За моцнай клеткай дзераўлянай
гублялі золата сады.
І паглядзець на Емяльяна
Сімбірск сыходзіўся сюды,

сюды, на гэты двор пануры,
дзе мы гуляем без клапот.
З двара гімназіі, пад мурам,
напэўна, захаваўся ход;

начамі ў мокрым падзямеллі
прыхільнікі вялі падкоп,
каб іх на саланцы з Ямелем
панёс узмылены галоп.

Цяжэй ад самай лютай кары
для Пугачова быў палон...

Слязу ў вачах, з прыжмурам, карых,
замоўкшы, ўбачыў Апалон.
— Цішэй!..—
Валодзя ясназоры,

суняўшы смех і шум забаў,
на перапынку ў калідоры
крамольны верш дэкламаваў.

У ім вяльможа, хціўы Панін,
гаворыць з Пугачовым зноў.
Перарываецца дыханне
ад пугачоўскіх вешчых слоў:

*«Воранчук я, а не воран!*
*Воран скора прыляціць.*
*Будзе ён,*
*Ад помсты чоран,*
*Кодла сытае судзіць.*
*Па мужыцкай спіне лясне*
*Твой бізун яшчэ не раз.*
*Не ў такой крывавай лазні*
*Будзеш мыцца —*
*Прыйдзе час!*
*Ты згадаеш маё слова*
*Перад смерцю, жываглот,*
*Як узнімецца сурова*
*Зноў разгневаны народ!*
*Змые ганьбу ён, свабодны*
*Ад паноў і ланцугоў,*
*Розум выявіць прыродны,*
*Што драмаў спакон вякоў»*[1].

Каля Валодзі той парою,
нібы на ветры пры кастры,
заўсёды грэліся гурмою
з усёй гімназіі сябры.

Апавядальнік, вучань першы,
ён верна, сціплы, мог дружыць:
пайсці зімой у рыбу з пешняй,
калі ад сцюжы свет дрыжыць;

на вераснёўскім зорным плёсе
сядзець і слухаць уначы,

[1] Д. М. Андрэеў, таварыш Ул. І. Ульянава па Сімбірскай гімназіі, паведамляе ў сваіх успамінах: «...помню, хтосьці з нас вершам падаў размову Паніна з Пугачовым. Гэты верш захаваўся ў мяне».

як, выпіўшы, шумяць аб лёсе
дзяржавы рускай асначы;

прыйшоўшы рана, па-латыні
падрыхтаваць прыціхлы клас,
калі ключамі залатымі
імкнуцца жоравы да нас;

панкоў і служак іх наёмных
у спрэчках жартамі разбіць;
дастаць у нейкіх там знаёмых
раман цікавы «Што рабіць?».

...У двор гімназіі са змрокам
цішком збіраліся яны,
рыдлёўкі склаўшы над рыштокам
ля мураванае сцяны.

— Ліхтар з агаркамі вазьміце,
а мне, асілку, дайце лом,—
шаптаў сябрам Андрэеў Міця,
крутым варушачы плячом.

Вільготны камень слізкіх плітак.
Дыхнула плесняй і жудой.
Тугі клубок суровых нітак
Валодзя захапіў з сабой.

— Скажы, навошта ніткі ў склепе?
— Каб не згубіцца... цёмны ход...
Па лабірынце будзе лепей
ісці сябрынай, без прыгод...

У склепе, дзе з няпэўнай цемры
бягуць у цемру пацукі,
яны павыстукалі сцены,
усе абнікалі куткі.

А Міця, той і ў мур пастукаў —
ніякіх таямніц.
— Пайшлі! —
Пярэдні войкнуў: ля приступак
стаіўся хтосьці на зямлі...

Трашчыць, сплываючы, агарак.
Хіснуўся цень. Уздых цяжкі.
Валодзя ўбачыў качагара.

— А ці пазналі,
землякі?

— А як жа! Збеглі вы з-пад варты.
Ды мы не з доўгім языком.

— І добра. Гаварыць не варта:
сягоння праўда пад замком.

З нары, дзе гаспадараць мышы,
падамся ў жыгулёўскі бор —
высока волю там калыша
вясной зялёны пракурор.
Бывайце, хлопчыкі...—
Валодзя
падаў руку: не трэба слоў.

І толькі ў садзе, на выгодзе,
прамовіў нехта:
— Пугачоў...

Мармыча хваля ўнізе глуха.
Кастры плывуць у цішыні,
і песня грэецца, хрыпуха,
на мокрым плыце пры агні.

Уральскія мінуўшы скалы
і шум парогаў і запруд,
плылі плыты і песні з Камы —
з глыбокіх катаржанскіх руд.

Маркотна ў рускай песні днела
над воляй Волгі і лугоў.
Мая, дняпроўская, звінела
жалезнай скаргай ланцугоў.

Стагналі песні, галасілі,
ранялі боль салёных слёз
у Волгу —
сэрца ўсёй Расіі...
Ой, горак жа каспійскі плёс!

Абняўшыся, стаяць маўкліва
па-над абрывам юнакі,
а поўня майскага наліву
смяецца з неба і з ракі.

Плывуць агні. Дымяцца вольхі.
Паклон, карміцелька, паклон.
— Як добра жыць! — напіўся Волгі
ўзахлёб Карынфскі Апалон.

Пасля — паэт маскоўскі, сталы —
пачуўшы поклічы грымот,
ён вершы нашага Купалы
перакладзе праз трыццаць год.

Мы сёння рады гэтай згадцы...
Яснее ў памяці абрыў,
дзе ты, юнача, паўтарыў:
— Як добра жыць, сябры, змагацца...

Яшчэ тады ў бядзе прароча
на волжскім веснім скразняку
табе руку падаў рабочы,
і ты падаў яму руку.

## ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Махрысты, полымна-ліловы,
гарэў, кіпеў, праз вокны лез
на кухню, кружачы галовы,
персідскі легкадумны бэз.

Зацішны кут, старэнькі флігель,
вясёлы побыт шалаша,
вясною з першае адлігі
адкрыта ў май
твая душа.

Пасля — ці горача, ці золка —
табе спакою не дамо,
як Сірыус, вакацый зорка,
на лета ўсіх збярэ дамоў.

І Саша вернецца тым часам
у пошум лісцяў трапяткіх.
Сумуюць шклянкі з купарвасам,
спіртоўкі, колбы, стусы кніг —

угнула хімія паліцы.
Прабіў прамень зялёны змрок.
На мендзялееўскай табліцы
залётны дрэмле матылёк.

А гэта кніга...
З Пецярбурга
старэйшы брат зімой прывёз.
Пад вокладкаю —
подых буры,
закураных ускраін лёс,

гарачы пот, крыві караты,
мазольных поціскаў метал,
які змяце, скрышыўшы краты,
твае законы, капітал.

Бы на краёчку горнай стромы,
трапечуць сэрцы юнакоў
над кнігай...
Не адчулі стомы
ні ён, ні Міша Кузняцоў.

Працуе з ім дружбак надзейны.
Заслухаўся ружовы сад:
гучыць на Волзе рэхам Рэйна
усхваляваны пераклад.

Пад кронамі стаіўся вецер;
баіцца патрывожыць ён
галіны ў душным першацвеце,
пчаліны на пялёстках звон.

Не ведаюць на Міліённай
купецкія асабнякі,
што робяць у цішы зялёнай
на летняй кухні юнакі.

Сімбірск, забросненая завадзь,
дрымотна дыхае ў глушы.

Палынны сум, і плётак заедзь,
і медны лямант: не грашы...

Цяжкая, з перапою, смага
і сны аб цудах заграніц.
Па гулкім бруку калымага
на дзесяць вуліц загрыміць.

Аглух Сімбірск, разбыўся надта.
Замычкамі скрыгоча страх.
Страляе качак губернатар,
прычаліўшы на астравах,
дзе з паліцмайстрам галасісты
ганчак ныршуе ў краснатал.

...У майскім садзе гімназісты
перакладаюць «Капітал».

Яшчэ ў рабоце сіл бракуе.
Цяжкія пошукі... ды зноў
Ульянаў, зверыўшы, дыктуе,
наспешна піша Кузняцоў.

За цэлы месяц — пяць старонак.
Ідзе марудна пераклад.
— Валодзя, слухай: чыст і звонак,
гучыць, як верш, на рускі лад!

На скон купца і фабрыканта
абоймы звераных радкоў
узважыў сын афіцыянта
з прыгонных волжскіх мужыкоў.

— Не трэба, Міша, задавацца,
а самаўпэўненасці дым,
калі ты маеш год пятнаццаць,
арэлі выветрацъ... Ляцім!

Каля вазоўні нешырокі,
як бубен, ток...
І крык, і смех:
гіганцкія ўздымалі крокі
хлапцоў
над пагарбамі стрэх.

Зямля пайшла з-пад ног,
пайшла...
Распёрла грудзі ветрам...
Паўнеба хмара абняла —
сінее гэтак мора.
На цёмна-сінім белы сад —
завялы ціхі ветразь.
Ачнецца, страпянецца ён:
грымоты ўдараць скора.
Трывожным вее халадком.
Паўзе на сонца хмара.
Арэлі мачтаю рыпяць:
гіганцкіх крокаў не суняць.
Вясёлы россып смеху.
Ягоных крокаў не суняць!..
Яны па ўсім абшары
на радасць рысу і лянам,
гудкам і сумным стрэхам,
як навальніцы,
прагучаць.

Па свеце пойдзе рэха.

## ПЕРШЫ ЎДАР

Пад воблакамі шызымі
ад лога і да лога
з аснежанае Сызрані
спяшаецца дарога.

Калі снягір пакутуе
над белымі палямі,
рыпіць яна, падкутая
сівымі каваламі.

Хай носам хлюпік хлюпае,
а смачны на марозе
ямшчыцкае «Но, любыя»
і стылы звон палоззя!

Нырцуючы па застругах,
плывуць, як човен, сані.

«Нібы ракою ў Астрахань»,—
прымроілася Ані.

Там сонца пахне рыбаю.
Далёка так і блізка:
паўвека, як адрыпала
там бацькава калыска.

Ульянаў (дзед Ульянінаў),
ён з роду майстравога.
Па застругах, па ямінах
шугала маладога.

Маленства несла раніцай,
каб сокалам узвіцца,
з падручнікамі ранец свой
вярблюджаю сталіцай.

І долечку сірочую
хрысціла бабка з вокан,
каб толькі не сурочыла
зайздрослівае вока.

Ды вытрымка аснацкая
яго вяла ў навуку
па Волзе ўверх:
юнацкая
Казань шуміць на вулках...

Згадалася, прыснілася
у zацішы змяркання.
Да бацькі прытулілася
аснежаная Аня.

Як пастарэў!..
Сумотная
лягла ў маршчынах стома.
Семнаццаць дзён сумётамі
плыве,
не быўшы дома.

Курмыш, Карсун, Ацяшкіна...
Так позна
на раздоллі

мароз
у ковы цяжкія
бярэ рачную волю.

І Волга ў сонным сале ўся,
і сонна б'ецца сэрца.

Аня

А добра, што спісаліся
у Сызрані сустрэцца.

Ілья Мікалаевіч

Калядныя канікулы,
прызнацца, гэта свята.
Няўжо з Нявы не клікала
на адпачынак брата?

Аня

Арол не чуе курыцы.
Як быццам за паўсвета
Бястужаўскія курсы
ад універсітэта —
па тыдню не страчаецца,
а прыйдзеш — ён з сябрамі
употайкі спрачаецца.
Па тыдню вечарамі
туманнымі, глухімі я
чакаю брата ў госці.

Ілья Мікалаевіч

Запаланіла хімія
ці вецер маладосці?

Аня

Забыты колбы з бутлямі.
Смяецца: «Нецікава...»
Хоць акадэмік Бутлераў
яму прарочыць славу.
Пабачыш, на вакацыі
як вернецца дахаты:
захоплены ён працаю
пра чэрві Annulata.
Не марна з імі корпаўся,

бо залатым медалем
адзначаны на конкурсе.
Прад ім —
навукі далеч.
Ах, Сашанька...
Запонаю
цяплей укрыйся, тата...

Абняўшы Аню сонную,
прамовіў:
— Annulata...
Жыццё суровай ніткаю
з пустой сплывае шпулі.
Паштовымі кібіткамі
за годам год мінулі.

Бы з кнігі часу выпіска,
успомніўся знячэўку
той дзень,
калі на выпуску
абняўся з Лабачэўскім.

Дапамагаў вучонаму
студэнт Ілья Ульянаў.
На годы незлічоныя
былі такія планы!

А плёны ўсе спустошаны.
Асаджваюць крута.
Жандарамі, святошамі
пасеяна атрута.

Царквой вайна абвешчана
ягонай школе земскай:
навошта слова вешчае —
сцяліцеся паземкай,
шануйце, валахатыя,
сваіх паноў законы...
Над сэрцамі, над хатамі
сляпой начы запона.

— Народныя вучылішчы? —
і туз прысядзе з крэктам.—
Без іх дзяды жылі яшчэ.
Не трэба, пан дырэктар...

Ураднік, прапаведнікі,
старшыны валасныя —
усё твае асветнікі,
Расія... Эх, Расія.

Пад воблакамі шызымі
ад лога і да лога
з аснежанае Сызрані
спяшаецца дарога.

Снягір засвішча тоненька.
Снягі... снягі па пояс.
Як на зубах антонаўка,
рыпіць настылы полаз.

* * *

ЯНА з'явілася,
нібы звычайны будзень,
з сям'ёю ўселася
маўкліва за сталом,
хаця ніхто з сям'і
яе не бачыў.
Студзень
блішчэў за вокнамі
калючым серабром.

Сініца белы іней
з вішняку атрэсла,
заціўкала, як быццам
чула той прыход.
Не рыпнуўшы, цяпер
адно пустуе крэсла,
і шумна стол прыціх...
Спыніся, Новы год.

Шчаслівы, ты прынёс
з ялінкаю няшчасце.
Малых шчабетуноў
замоўкла гамана:
у час абеду дзверы
з кабінета насцеж
маўкліва адчыніла
у цішыні ЯНА.

ЯНА вачамі бацькі
глянула трывожна
і матку і дзяцей
паглядам абняла.
Стаяў ён у дзвярах,
такі бездапаможны.
Вядома, гэта ростань
іхняя была.

Вярнуцца да канапы
ледзь хапіла сілы.
— Валодзя! Аня! —
Маці
крыкнула тады.
Яго пад цёплай коўдрай
люта калаціла.
Ляжаў ён, спалатнелы,
потны і худы.

Няўмольная,
ЯНА
з'явілася без позвы,
усё зрабіла
да чаканага званка,
калі прыехаў доктар:
— Позна, людцы, позна...—
Упала на падлогу,
стукнуўшы,
рука.

Праз дзень, другі і трэці,
думалі, прачнецца:
такое сэрца здацца
смерці не магло б...
Пад рыжай барадой
яно не страпянецца.
Усмешкі цьмяны знак.
Высокі чысты лоб.

На ім не растае
бахматая сняжына.
Прамовы і вянкі...
І гэтулькі людзей...
Труна плыве з двара,

угнуўшы плечы сына —
на сорак год юнак
за бацьку маладзей.

Валодзю, нібы ў сне,
пачулася размова:
— З народа выйшаў ён.
— І для народа жыў...
— Зламалі да пары...
— Нядаўна ж быў здаровы...
— А можа... на сябе
ён рукі налажыў?..

Як раніцаю ноч,
усё так недарэчна:
труна, вянкі, натоўп...
Апухлая ад слёз
матуля на дзяцей
глядзіць з тугой спрадвечнай,
глядзіць:
            які цяпер
сірот спаткае лёс?

Растуць яны, растуць
і адлятаюць з дому.
Абуджана душа —
і боль Расіі ў ёй.
Як бацька іх любіў!
Забыўшыся на стому,
начамі працаваў.
Заўсёды быў з сям'ёй.

Нямала, смерць, кладзеш
бязлітасна пракосаў.
Вунь вучні бацькавы
выходзяць са двара.
Ты не шкадуеш іх:
загінуў Каракозаў,
што, быццам рабчыка,
на мушку браў цара;

Страндэн у рудніках
бразгоча ланцугамі —
ён Чарнышэўскаму

не змог дапамагчы
таемна выбрацца
глыбокімі снягамі
з начы сібірскае,
кайданнае начы...

У вучняў смелы лёт!
Па вуліцах Сімбірска
адны ідуць за ім,
гняце другіх Сібір.
Ідуць...
          Рыдае снег.
Да вечнай хаты блізка:
над плітамі скляпоў
Пакроўскі манастыр.

Валодзя, нібы ў сне,
здалёку чуе словы:
— Не ведае пра смерць
яго старэйшы сын...
— Эх, рана адышоў...
— Суровы век, суровы...
— Вяртаемся мы зноў
да жудасных часін...

Напоўнены званы
глухім вятрыстым гулам.
Мяцеліцы да стрэх
капліцы замялі.
Цяжкі павольны крок.
Плячо труной угнула,
як быццам на плячы
цяжар усёй зямлі.

## ГАЛОДНЫ БУНТ

Звычайны дзень, казённа-шэры,
падцягнуты і посны — ён
разнасцежыў зарана дзверы
у гімназічны пансіён,

дзе па класічнаму раскладу
сцярог наглядчык-ветэран

сірот і кволую расаду
са стэпавых цяпліц дваран.

Прызнацца,
                тут — усе дваране,
нібыта ў лазні ці турме:
сівы наглядчык строга ўранні
з-пад коўдры кожнага турне;

шчарбаты стол — не белы мармур;
сняданак ступіць на парог —
цяжкой задухаю казармы
збівае на парозе з ног.

Яшчэ цяжэйшы дух ад місак,
тухляціны агідны дух.
Не будзеш есці —
                ў чорны спісак
запішуць аднаго ці двух;

тады, пазбаўлены вакацый,
храпеш на цэлы пансіён,
прысніўшы душны цвет акацый
ля мілых матчыных акон...

— Адзін у полі... ды з бядою...
А вось каб мелі вы саглас,
упэўнен, моташнай бурдою
ніколі не кармілі б вас.

Гаворачы, вачэй не зводзіў
са строю шахматных фігур
Ульянаў.
— Выйграеш, Валодзя...

О, гэты ўважлівы прыжмур!

Басок з картавінкаю, свежы,
як вецер снежны
за акном:
— Усе адмоўцеся ад ежы —
і трэсне злодзей-аканом...

Звычайны дзень, казённа-шэры,
падцягнуты і посны — ён

разнасцежыў зарана дзверы
у гімназічны пансіён.

Урокі. Перапынкаў тупат.
Званок апошні — на абед.
Наглядчык пазірае тупа:
у місах стыне спёка супу,
ніхто і не кране катлет.

— Не будзем есці! — бухнуў басам
Андрэеў Міця ў цішыні.—
Гатуйце блюда з тухлым мясам
для аканомавай радні!..

— Маўчаць!.. У карцэр грымнеш зверху.
— А вы панюхайце.
— Маўчаць!..
Узняўся ў зале гэткі вэрхал —
грукочуць, свішчуць і крычаць.

Ужо галоўнага цягнулі,
і ён схіліўся над сталом.
— Я чую толькі пах цыбулі,—
зяхнуў ліслівы аканом.

Тады прарвала, і, нарэшце,
увесь падняўся пансіён:
— Дык самі на здароўе ешце!..—
Ляціць услон.
Талерак звон.

Прыбег дырэктар:
— О, знаёма!
Свавольства дзікае дзятвы!
Навошта крыўдзіць аканома?
Стараецца для вас... А вы?

Тырада ветліва-пустая.
Ніхто брывом не варухне.
— Вы есці будзеце, пытаю?
Вы сядзеце абедаць?
— Не!..

— Што гэта, бунт? —
І зноўку кінці
хавае ў мякаць дабраты: —

Катлеты — цуд! А звады кіньце.
Мае маленькія раты
у ласцы матчынай — не дзесьці,
ды гэткіх не ядуць катлет.
— Такіх яны не будуць есці!
— Што-што?! Брыда!..
Забраць абед! —
Ён выскачыў нібы шалёны.
Званіў пад вечар божы храм.
І гімназісты з пансіёна
брылі, галодныя, да крам.
Трашчалі там
агаркі свечак.
— Адважце масла...
— Хлеба фунт...
Шаптаўся горад цэлы вечар:
«Гімназія... галодны бунт...»

Усе былі наранку рады,
хадзіў Андрэеў сакалом,
пачуўшы:
вытуран з пасады
стары мярзотнік-аканом.

У карцэры амаль што суткі
адседзеў Міця недарма.
— Здароў, турма!
— Такія чуткі!..
— Няма тухляціны?
— Няма!

Той дзень згадаўшы,
як хваробу,
наглядчык бег у лазарэт,
і новы аканом на пробу
насіў к дырэктару абед.

— Адзін не воін...— Воч не зводзіў
са строю шахматных фігур,
прыйшоўшы ў пансіён, Валодзя.
— А разам?
— Сіла ломіць мур.

## КУЗНЯ Ў ЗАВУЛКУ

Калі змяркалася паціху
і камень абзываўся гулка,
выносіў выпраўку і пыху
кадэцкі корпус на прагулку.

Цывільных змераўшы з пагардай,
ён браў у свіст і біў са свістам
на цёмных вулках ар'ергарды
сінешынельных гімназістаў.

Заўсёды так, нібы піраты,
кадэты двух ці трох прыцісnуць:
— Ха-ха! Здарова, шпачаняты,
цяпер не зможаце і піснуць!

Семнаццаць іх.
Ідуць сцяною.
Ідуць на двух...
Андрэеў кажа:
— Валодзя, поплеч будзь са мною,
заварыцца надоўга каша...

Стаяць наўкол:
— Маліся Богу!—
Наводмаш — бац.
І смеху выбух.
Як волат з казкі,
на падмогу
каваль Парфірый
з кузні выбег.

Кадэты, ўбачыўшы,— наўцёкі.
Ён быў такі,
каваль Парфірый:
крутых плячэй размах шырокі
і кулакі —
па пуду гіры.

А кузня, дык і праўда, казка:
сінявы дым-дымок віецца;
штодня — мяцеліцца ці гразка —
гарачы майскі гром куецца,

ляцяць з кавадла бліскавіцы,
сіпяць у вёдрах, як гадзюкі.
Прыходзіць марнасць падзівіцца,
патрэба грэе ў сцюжу рукі.

І таямніца апаўночы
ступае вулачкай глухою —
збіраецца гурток рабочы
тут,
пад закуранай страхою.

Як святам хлеб,
з цяжкога пачка
бяруць лістоўкі і брашуры,
дзе ўсю Расію будзіць стачка
Марозаўскай мануфактуры...

Даўно і добра быў знаёмы
каваль Парфірый з юнакамі.
— Эх, мальцы, праўды, як вядома,
не дамагчыся кулакамі.

— Сумленне дзе? —
кіпеў Валодзя.—
Такой гурмой на двух напалі!
Правучым подласць!
— Годзе, годзе.
Бяды наробіце ў напале.

— Мірыцца?
— Ну.
— А мы не звыклі!

І, не марудзячы, суботай
гімназія паслала выклік
кулачны бой прыняць употай.

...Спрабуй — урокі паўтары,
хоць маці і казала.
А лямпаўшчык пры ліхтары
на лесвіцы — з красалам.

Туды, ў вячэрні сіні дым,
дзе толькі цені — сведкі,

утрох, удвух і па адным
спяшаліся падлеткі.

У зацішы, дзе парнікі
з расадай агурэчнай,
яны стаялі,
два палкі,
на вуліцы прырэчнай.

Глядзеў гузаты ясакар
на алімпійскі конкурс:
яны стаялі:
твар у твар,
гімназія і корпус.

— Кадэт
на палачку надзет!..—
І зашумела вокал.
Спыніўся сторож, пільны дзед,
пры чорных тонях вокан:

старую славячы бяду,
з цяжкім ілбом расквашаным,
як слабада на слабаду,
сышліся ў рукапашным.

І гэта ўжо не проста жарт,—
спацелы, раззлаваны,
скідае ў лютасці азарт
шынель каля паркана.

У месяца мядзяны шчыт
ударыла трывога:
трашчотка стоража трашчыць —
і свіст гарадавога.

Кулачны бой на ўсё забыў;
не чуючы трывогі,
кадэта гоніць пад абрыў
у цёмны хлюпат Волгі.

— Гэй, у штанах ці без штаноў
цябе купаць, нягеглы?..

З дзвюх навучальных устаноў
наглядчыкаў набегла.

Байцы рассыпаліся...
Плынь
мігціць, хлюпоча зябка.
— Глядзі, Валодзя, на Хвалынь
плыве кадэта шапка!..

Яшчэ не скора ўчуе свет,
ламаючы асновы:
— Кадэт, кадэт
на штык надзет! —
суровы вокліч новы.

Ды землятрусу не мінуць —
збіраючы ў ахапкі,
і Дон, і Волга панясуць
кадэтаў
бітых
шапкі.

* * *

Дубовы стол, навошчаны паркет,
і ветлівасць, і строгасці парадку,
і гаспадар у бляску эпалет —
сам шэф жандараў генерал фон Брадке.

Дырэктара гімназіі пенснэ
блішчыць насупраць у глыбокім крэсле.

Керанскі

Вучэбны год мінае, як у сне,
вунь, бачыце, таполі пух атрэслі...

Фон Брадке

У вас бяды юнацтва не міне.
Кулачны бой — то, ведама, забава.
Ды ёсць адна дзяржаўная ў мяне
да Фёдара Міхайлавіча справа.

Керанскі

Я слухаю.

Фон Брадке

Чытайце, дарагі.

Керанскі

Знаёміўся — часопіс «Адраджэнне».

Фон Брадке

А нумар, бачыце? Ужо другі!
Падпольнае выданне.

Керанскі

Летуценне
начытаных прыстойных юнакоў —
Ульянаў Уладзімір і Карынфскі.

Фон Брадке

Шаноўны, ёсць аснова ўсіх асноў:
у строгасці дзіця трымаць з калыскі.

Керанскі

Часопіс я забараніў.

Фон Брадке

І што ж?
Вы ўпэўнены: у нас, на Волзе, ціша?
Непаслушэнства ўсюды точыць нож,
і змова ў цемрадзі адозвы піша.
Вучэбны год, ён можа і стаміць,
а тут штодзень у мяккім крэсле мулка...
Непадалёк гімназіі стаіць
старая кузня, звонячы ў завулку.
Адтуль не толькі едкі дым ішоў,
там выспявалі страшныя падзеі.
Стварыў гурток з рабочых чувашоў
каваль Парфірый... як яго?.. Фадзееў!
У чорным горне гадаваў пажар,
а кузня ў цэнтры — хітрай змовы жарты:
я думаю, Фадзееў — качагар,
што ўцёк залеташняй вясной з-пад варты.
Разумны і жалезны чалавек.
Учора ноччу ён арыштаваны.
Аж цэлы пуд крамолы — проста здзек! —
каля парога ў кадзі быў схаваны.
А нам вядома: гэтаю зімой
хадзілі ў кузню — пэўна, не ў гасціны —
і вашы гімназісты...

Керанскі

Божа мой,
якія ў свеце настаюць часіны!

## АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА

Толькі неба
над лугамі азарыла —
свіснуў гівал
з вербалозіны густой,
закурыла
цёплым дымам
азярына
на дрымотны,
ў белых росах
травастой.
Вострым крыллем
ціпыню стрыжэ чыранка.
Зачаруе,
заварожыць
глыбіня:
у прадонні
пад нясмелай ласкай ранку
блішча золата
зялёнага ліня.
Ціха, сэрца!
На замшэлай пласкадонцы
чараціныя мінаеш астравы.
Паплавок
нядоўга дрэмле
у аконцы
між гарошніцы —
лінёвае травы.
Ён, падаўшыся,
нырцуе.
Ціха, сэрца!
Вуда гнецца —
гэта ўдачы першы знак.
Радасць
басам
калыхнула ўсё азерца:
— Я, Андрэеў-Бурлак,
і мастак, і рыбак!..

Шэпча з берага
пад вербамі Валодзя:
— Ёсць, Васілій Мікалаевіч?
— Ё-ёсць!.. —

Зноў ракоча басавіта
на выгодзе
слава Волгі —
Міцеў брат,
сталічны госць.
Хто не йшоў за ім
з тэатра вечарамі,
як за богам,
не спускаючы вачэй!
Ашаломлены Валодзя
бег з сябрамі
і цяперака паўторыць:
— Чарадзей...
Скора скончацца гастролі.
Трэба ўволю
выпіць Волгі
і зарэчнае зары,
дзе чыранкі пры чароце
чысцяць волле
і прыціхлі
над вадою вудары.
Нервы,
лёскі,
багавінне —
моцны вузел!
Ціха булькнуў
у аконца патапец.
От і ў Сашы
нешта нейкае
на вудзе
ходзіць,
быццам
застаялы жарабец.
— Крута з «шыбіны» выводзь...
— Сячы нанова,
каб не кінуўся,
шалёны, у трыснёг!..—
І, знямогшыся ў бядзе,
васьміфунтовы
слізкі д'ябал
мякка шмякнуўся
ля ног.
Рыбны лекар,
тлусты князь глыбокай ямы,

дужы лінь
трапеча цяжка
на пяску.
Зразу чорныя
пакрылі густа плямы
залацістую
халодную луску.
Сонца ўстала.
Дым-дымочак у зарэччы.
Смачна юшка
закіпае ў сагане.
— Лінь ліняе — гэта ж праўда...
А дарэчы,
футра хвацкае калісь было ў мяне.—
Міцеў брат сягоння, пэўна, у настроі,
можна слухаць чарадзея да начы.—
Загадаў я ў часе збораў на гастролі
футра летам лепей вока берагчы.
Толькі ў снежні прывяла дамоў дарога
(дзе ні ездзіў — то Парыж, то Канатоп).
Я пытаю камердынера старога,
а ці добра захаваўся гардэроб.
«Ды не вельмі-с».— «Можа, ўкралі?»
«Што вы, што вы!»
«Моль паела?»
«І не моль. Глядзеў як след...»
«Што ж такое?»
Таямніча хмурыць бровы
і, схіліўшыся, на вуха шэпча дзед:
«Ваш бабёр, свет Мікалаевіч, чагосьці...»
«Ну, кажыце!..» — «Сівізна па ім пайшла».
Я здзівіўся: то ж на футры, ягамосці,
сівізна якраз каштоўнасцю й была.
Дзед па-свойму зразумеў маё здзіўленне:
«Не гаруйце. Я стараўся для красы».
«Як стараўся?»
Падкасіліся калені —
з футра выскуб ён сівыя валасы...

Волга побач.
За лазою,
за чаротам
сонцам пахне,
шоўкам сцелецца пясок.

Бляск навокал.
Срэбны пляск.
Рыпяць качоты.
Тужыць
юнае вясляркі галасок.
Трэба нізка пакланіцца
плёсным водам,
родным кручам,
разгуканай сінізне.
Крыкнуў Саша:
— Мы сваім дадому ходам!
Кіньма снасці з апранахай у чаўне.
Ён раскрыліў
рукі,
сонцам палiваны —
човен пырскамі
і ветрам абдало.
— Даганяйце, Чарадзей!..
Усхваляваны
плешча плёс,
іскрыцца мокрае вясло.
Сталасць,
човен паганяючы,
зайздросціць
бронзе мускулаў,
вятрыстасці хады,
і адвазе,
і сажонкам маладосці,
што ламае
сілу быстрае вады.
Высніў гэткую галованьку,
як дзіва,
слынны гальскі жывапісец,
майстра Гроз.
Саша, Саша...

Аляксандр Ільіч,
куды вы?..
Волга-матухна
жартуе
усур'ёз.
Правы бераг
ледзьве бачны
за смугою.

Сэрцам чуеш
глыбіню
на быстраку.
Б'е далонню,
крута ўзнятаю,
тугою,
хваля ў зубы,
пенай крыючы раку.
Зносіць,
зносіць...
Не памогуць і сажонкі.
Круціць вір бруіста
трыста верацён.
Азірніся:
хтось плыве
наперагонкі.
Блізка,
поруч...
То Валодзя.
Ах, спрыцён!
— Цяжка, Саша? —
ён,
задыханы,
спытаўся.
Нейкі смутак
хмаркай лёг
на Сашаў твар:
— Знаеш,
Пісараў
адзін
на пляж падаўся,
следам
сцежкаю,
як цень,
ішоў жандар.
Шпег маўчаў,
калі юнак пачаў
тапіцца.
Шпег сачыў,
пакуль
замкнулася вада,
нат падмогі не паклікаў ён,
тупіца.
Гэтак сталася страшэнная бяда...

Волга пеніцца,
бруіцца на раздоллі,
песню лета
напяваючы
братам,
абдымаючы,
шуміць аб іхняй долі:
— Анікому і ніколі
не аддам,
нават смерці...

## БАЛАДА ТРУБЯЦКОГА БАСТЫЁНА

На плёсы майскае зары
ляцяць і плачуць журавы,
мінуўшы крэпасці муры
на правым беразе Нявы.

Трывожны шум вільготных крыл
у смутку слухае турма.
Глухая поўнач.
Зорны пыл.
Маўчыць каменная труна.

Маўчыць? Няпраўда!
Крок гучыць.
Пакутны? Не!
Рашучы крок.
На зорах думка зіхаціць.
Крылаты крок.
Пагодны зрок.

Магільны змрок.
Іржавы звон.
Стары сакрэтны бастыён.
Халодны склеп, у змроку ён
вышэй палацаў і карон.

Насупраць страшнае сцяны
у Зімнім ноччу не ад він
варочаюцца цяжка сны
на душным воблаку пярын —

спалох, чаканне.
Цішыня,
нібыта ўзведзены курок.
Да дня, не ціхнучы да дня,
цара трывожыць гэты крок,

бяссоння крок.
Дзяржаўны склеп.
Смяротны лёх, дзе свет аслеп.
Прыкуты стол.
Апошні хлеб.
Жыццё — патрэба ўсіх патрэб.

Яно — раку пераплываць
(адзін... ды з Волгай на адзін),
яно —
у суткі працаваць
не менш пятнаццаці гадзін;

яно —
пад шаблі, на штыкі,
на конскі пенны храп ісці,
а поруч сталі дружбакі,
якім хапае храбрасці.

Жыццё —
вятрысты Летні сад,
дзе двое ручанькі сплятуць,
і самаробны той снарад,
грымучая ў снарадзе ртуць,

закуты ў трубку люты гнеў —
табой закуты! —
з верных рук
на Неўскім ён
не загрымеў,
карэту валячы на брук.

Шкада...
Кідальнікаў шкада:
схапілі ўсіх.
Жыве манарх.
Жалезам бразгае бяда
у петрапаўлаўскіх мурах.

Хоць сумны дзень, турмы жыхар
апошні, ўчора адышоў,—
спакойны белы-белы твар
пад шапкай чорных валасоў.

Світаць пачне,
і забярэ
на ранку ноч у вечны спрат.
Зару і цень твой на двары
зямлёй засыпле сонны кат.

«Эх вы, студэнцікі...» — зяхне,
перахрысціўшыся, мундзір.
Трава не ўкрые па вясне —
утопчуць гэтак мокры жвір.

«Чаго, Ульянаў, за мяжу
не збеглі вы?» — пытаўся суд.
«Радзіме смерцю паслужу!»
Граніт Нявы...
Глыбіні руд...

Куды ўцячэш адсюль? Куды?..
На сініх ростанях клады.
Чаромхавыя халады.
Сімбірска белыя сады.

Касы гусінае пясок.
Вясло зламанае...
Вясна...
Валодзеў ранішні басок
і любай маці сівізна.

Нядаўна маці ў змрочны лёх
прыйшла:
спаткацца выпаў лёс.
Прыпаў да ног,
стрымаць не змог
гарачых слёз,
гаротных слёз.

«Прашэнне, Сашанька, падай,
і цар памілуе... Пішы...» —
У ціхім голасе адчай,
мальба збалелае душы.

«Пісаць?.. Я не магу, павер,
ва ўсім прызнаўся на судзе.
Было б няшчыра, каб цяпер
прасіў я літасці ў бядзе».

«Ён праўду кажа!» —
ля дзвярэй
раптоўна ўсклікнуў пракурор,
які, не зводзячы вачэй,
дасюль маўчаў.
Цяжкі дазор.

Ды сэрца й пад мундзірам ёсць,
тым больш службоўца малады,
а тут бясстрашна маладосць
нясе ў пятлю свае гады.

Вясну і цвет надзей кладзе
на шлісельбургскі эшафот;
яе прамову на судзе
чытае ў поцемках народ,

Расія ўся...
І за мяжой
газеты скрозь крычаць аб ёй,
умытай чыстаю слязой
на сумнай ростані з сям'ёй.

«...Валодзю, мама, абдымі.
Самотнай Ані ў цемры крат,
дзе страх пануе над людзьмі,
скажы:
цалуе моцна брат».

«Скажу, сынок...»
Хвілін праз пяць
пакіне камеру яна.
Рука на ложку:
мулка спаць,
у плесні стылая сцяна...

Здаецца, думак быстры лёт
выразна кожнаму чуцён —

такая ціш.
Гарэлы кнот
дыміць у лямпе.
Ціхне звон.

«...Калі ўцякаў адзін з сяброў,
а грошай не было, на жаль,
дык я ў заклад за сто рублёў
аддаў свой залаты медаль.

Каштуе гэта бляшка больш.
Ты, мама, выкупіш? — спытаў,
паправіў кнот, стаіўшы боль.—
Цяпер бы Гейнэ пачытаў!»

Былі абдымкі іх без слёз,
спакойна выйшла ў калідор...
Таемна ў камеру прынёс
учора кніжку пракурор.

Тут шмат хто сох, сівеў і слеп.
Гняздо пакут.
Нара ў скале.
Жалезны стол,
счарсцвелы хлеб
і томік Гейнэ на стале.

Пачаткам з'явіцца канец,
не будзе плачу і тугі:
*калі ўпадзе адзін баец —*
*заменіць пайшага другі.*

Мы рай збудуем на зямлі,
дастанем зоры
галавой.
Вясну вяшчуюць караблі,
захмарны жораў
над Нявой.

Трывожны шум вільготных крыл
у смутку слухае турма.
Глухая поўнач.
Зорны пыл.
Маўчыць каменная труна.

Маўчыць?
Няпраўда!
Крок гучыць.
Пакутны? Не!
Рашучы крок.
На зорах думка зіхаціць.
Крылаты крок.
Пагодны зрок.

Макрычны змрок.
Іржавы звон.
Стары сакрэтны бастыён.
Халодны склеп,
у змроку ён
вышэй палацаў і карон,

хаця ў акне крыжамі крат
адрэзан сёння юнаку
нябёс маленечкі квадрат,
як луста хлеба жабраку.

На чорнай лусце ззяе соль,
крутая соль крыштальных зор.
Шырэе стол. Сінее столь.
І насцеж —
дзверы ў калідор.

Мінуўшы варту, без ключоў
да вязня хтосьці (пэўна, сон?)
нячутным крокам увайшоў...
Зарослы твар...
Кібальчыч?..
Ён!

Мікалай Кібальчыч

Я знаю гэты каземат.
Сядзеў. Было...
Ламаўся лёд.
Адсюль шэсць год таму назад
мяне ўзялі на эшафот.
Зірні, на мне такі ж халат.
І доля ў нас,
і смерць адна.
Здарова, брат.
Трымайся, брат.

Аплача зорамі вясна.
Я чуў твой крок
з тых цёмных спрат,
дзе сон глыбок...
Глядзі — зара!

Мой брат...
І я зрабіў снарад,
цяжкі гасцінец для цара.
Загінуў кат.
А ката сын
другі здзяйсняе прыгавор.
Табе ўжо некалькі хвілін
паветра піць —
прачнуўся двор,
хаця ніколі ён не спіць:
бліщчаць штыкі,
звіняць ключы;
маланкі думак не ўтапіць
у сне каменнае начы!
Я тут не спаў,
забыўшы страх,
спяшаўся жыць,
пакуль не змог
чарцёж накрэсліць на лістках,
на цэгле сцен, дзе цвіль і мох.
А гэта ж —
мой другі снарад,
агонь, грымоты і віхор,
з якім ракетны апарат
рванецца ўвысь
да зябкіх зор.
Ён вырве скора ўсіх людзей
з улады панства і зямлі.
Хаця б жандары ў свой музей
альбо ў архівы не здалі —
праект загіне...
Чуеш, брат:
а мо лісткі падраў сенат?..
Маўчаць муры.
Акна квадрат.
Святло ў крыжах іржавых крат.
Кібальчыч?.. Не!
Прысніўся ён.

Напэўна, стома,
хмарыць сон.
Стары сакрэтны бастыён,
дзе вечнасць б'е ў вячысты звон.
Ды хтосьці зноў...
Нячутны крок...
На вуснах смех...
Юнак-маёр...
Адкуль такі вясняны зрок?..

## Юрый Гагарын

Я толькі што з-пад ясных зор.
Над пеннай прорвай морскіх вод
і смутным сном чужых зямель
ішоў без ветразя на ўсход
«Усход» — касмічны карабель.
Я сын аратага,
і мне
здалося:
побліз карабля
не зоры —
зерне ў баразне,
а неба —
чорная ралля.
На зоры лёг
мой быстры цень,
яны глядзелі ўслед з тугой.
Адразу, з цемры,
бліснуў дзень
сямікалёрнаю дугой.
Я быў ліцейшчыкам,
а сам
не бачыў гэткага святла:
ярчэй ад лавы
сонца там,
дзе глыб вышынь
без меж лягла.
Сягоння вырван
людны свет
з няволі матухны Зямлі,
далоні стынучых планет
чакаюць нашы караблі.
Краін і зор адна сям'я

развее змрок,
зыначыць лёс.
Святло той будучыні
я
сюды
ў сваіх вачах
прынёс.
Я маю роўна дваццаць сем.
Кібальчыч...
Знаю, столькі ж ён
у цвеце вёсен меў...
Хадзем!
За брамай ветлы бляск акон.
Наш век,
апранены ў бушлат,
аддаў свабодзе ўсе ключы,
адсюль па Зімняму
з гармат
прамой наводкаю б'ючы.
Ужо не спіць Манетны двор:
Яго Вялікасць просты люд —
мастак,
гранільшчык
і гравёр —
крылаты знак чаканіць тут.
На зорах думы разьбяроў,
іскрацца золата і медзь.
Не з барэльефамі цароў
ракетным вымпелам ляцець —
на Марсе знойдзем мірны герб:
пад промнямі ў калоссі ніў
магутны молат, востры серп.

Аляксандр Ульянаў

Я гэты дзень сягоння сніў...

Рашучы крок.
Дзяржаўны склеп.
Смяротны лёх, дзе свет аслеп.
Прыкуты стол.
Апошні хлеб.
Жыццё —
патрэба ўсіх патрэб.

А дзесьці п'е халодны сок
з карца заспаная вясна.
Насаты свішча кулічок.
Рачны пясок.
Усплёск весла.

Рыпіць на прыстані канат.
І ранні час,
і позні час...
Свабода!
Чуеш?
Твой салдат
ідзе на смерць.

Каторы раз
на ростань росны шум жыцця?
У цвеце вішні шалясцяць;
крычыць,
прачнуўшыся,
дзіця;
ракеты зорныя ляцяць.

Пачаткам з'явіцца канец,
не будзе плачу і тугі:
*калі ўпадзе адзін баец —*
*заменіць паўшага другі.*

## ЧОРНАЯ ЯБЛЫНЯ

Не выплакацца.
Ноччу не забыцца.
Купчасты вяз
у месячным акне.
Узяўшы кубак,
задрыжала:
быццам
смяюцца вочы Сашавы
на дне.
З фарфоравага кубка,
чарнавокі,
нядаўна Саша піў
сцюдзёны квас...

Пад вязам, за акном,
цяжкія крокі —
жандар пільнуе дом,
і шумны вяз,
і кубак непрыгублены,
глыбокі...
Заходзіцца душа
ад чорнай спёкі.
Рыпяць масніцы.
Чуйныя. Старыя.
Маўклівы сведка гора і няўдач,
драўляны стогне дом:
— Засні, Марыя,
Марыя Аляксандраўна, не плач...
На досвітку
суцішаць боль
турботы.
У садзе свіснуў
перасмешнік-дрозд.
Прыціхлі за акном
цяжкія боты —
жандар, відаць,
пакінуў важны пост.
«Знайшлі ў вазоўні
скрыні дынаміта...» —
Як змеі, плёткі
поўзалі кругом.
Чыноўнік бег,
не ўбачыўшы нібыта,
жагналіся купцы,
мінуўшы дом.
«А помніце?.. —
шумелі чынадралы.—
І бацька ж іхні
слыў за лiберала!..»

З пагардаю глядзела
ўслед карэтам;
калі з Нявы
вярнулася сюды,
здалося маці:
чорным-чорным цветам
цвітуць над Волгай
майскія сады.

Пад голле белае
ідзеш у завадзь,
вясёлкі атрасаючы з травы.
Глыбока дрэмле
ў першацвеце завязь.
Аблок паружавелі астравы.
Між белых яблынек,
дзе грады з краю,
адна, на ўсёй зямлі
цяпер адна,
у чорнай сукні,
ціхая, сівая,
з рыдлёўкаю схілілася яна.
Пялёсткі на раллі...
Духмяна... Сіне...
Такой парой
цябе не стала,
сыне.
Калісьці ў грады,
покуль спяць малыя,
па раннюю радыску
бег наўскач...
Шапоча светлы сад:
— Жыві, Марыя,
Марыя Аляксандраўна, не плач...
Ужо на вуліцы
чутна гаворка.
Рыпучай брамкай
стукнуў паштавік.
Пісьмо...
«...належыць ордэнская зорка...»
І воблік мужа,
як жывы,
узнік.
Апошняя, за службу, ўзнагарода.
Жывому
не паспелі
уручыць.
Усё ў жыцці
спазняецца заўсёды —
пашана,
воля,
пісьмы,
урачы...

Пасля за ордэн грошыкі плаціце.
Дарэмныя турботы,
папячыцель!
Адпіша сёння.
Занясе на пошту.
Якраз і мужава асадка на стале:
«Даруйце мне. Пачэсны знак... Навошта?
Тым больш у доме грошай не стае».
Ульянавых казна не пашкадуе.
Шасцёра іх.
А пенсія адна.
Гатуе, корміць,
шые і цыруе,
у працы
гора топячы
сцямна.
Сімбірск
у звоны звоніць
пра сыночка.
Не гніся ў непагадзь —
з табой сям'я.
...Лягла
пад прас
бялюткая сарочка.
Падшыты закаўрашыкі...
Чыя?
І слёзы лінулі
на холад палатняны:
насіў яе...
насіў неўратаваны.
«Аддам Валодзю. Не!..
Пятля ці куля...
Абноўку спраўлю,
выпаўзу з нястач...»
Валодзя ўбег, прачнуўшыся: — Матуля...
Прашу цябе, харошая, не плач...
Яна глядзіць
на сына-гімназіста,
адразу —
радасць
і раптоўны страх:
пушок на падбародку залацісты,
а востры розум
свеціцца ў вачах,

прыпухлыя сурова
сціснуў губы;
прыходзіць мужнасць
у семнаццаць год.
— Глядзі, не рызыкуй дарэмна, любы,
жыццё —
няўмольны страшны крыгаход.
Не толькі я малю —
сям'іска наша.
«Асцерагайся»,—
з цемры просіць Саша...

Над матчынай трывогаю і страхам
юнак узняўся,
нібы ў забыцці:
— Мы пойдзем
не такім самотным шляхам,
інакшым шляхам трэба нам ісці!

## ДРЭВЫ І ДЗЕЦІ

Дармо, што гэтак рана
удалеч
глянуць змог —
павек яна абрана,
дарога ўсіх дарог.

Яна ў журбе вясною
пачатак свой бярэ,
заплыўшая слязою
пад вязам на двары.

Смяяўся бацька часта,
казаў малым:
— У нас
цыбаты і віхрасты,
як Саша, юны вяз...

Разгалісты,
раптоўна
ён Сашу перарос.
Шуміць...

У лісцях поўна
расы
    ці горкіх слёз?..

Праз цёмныя залевы
ужо не першы год
ідуць
    з юнацтвам
                дрэвы
вясной
    на эшафот.

У кронах поўна ветру,
а ў шуме — дабраты.
Яны гамоняць ветла,
як сёстры і браты.

У шчырай скарзе вольхі,
што хіліцца на вяз,
журботны воблік Вольгі
пазнаў Валодзя ўраз.

З гімназіі жаночай
яна ішла тады.
Насустрач — боль сірочы...
Натоўп цямней ад ночы...
труна...
    цвітуць сады...

Хіснулася,
        упала
сястра на тратуар.
Фартух бялюткі змяла...
Упалы строгі твар...

— Ой ластаўка!..
— Самлела...
— Нясіце ў засень сліў!..
І хтосьці
    на шыі белы
каўнерык расшпіліў.

Яна ж
    не плача з гора,
зажураны пагляд:

— На досвітку... учора...
павешаны мой брат...

Якім жа навальніцам,
што іхні дом сустрэў,
яшчэ грымець, імгліцца,
на сэрца наваліцца,
на рукі гэтых дрэў?..

Ад флігеля сцяжынка
у мокры сад бяжыць,
дзе Аніна асінка,
уся ў расе, дрыжыць.

Як выпусцілі Аню,
вышэйшы быў загад:
«У ссылку... пад нагляд...»
Цяпер яна ў тумане
какушкінскіх прысад.

Гарлаюць з вёсак пеўні...
Самотная, здалёк
яна згадае, пэўна,
і дужы той дубок,
што ў іх сям'і завецца
Валодзевым здавён.

Няўжо ад бур сагнецца
і кронай не кранецца
аблок і зорак ён?..
Ды як бы там ні сталася —
цвіце вясною сад!
. . . . . . . . . . . . . . .

Атэставана сталасць.
Суровы атэстат.

## ЭКЗАМЕН ПА ГІСТОРЫІ

Не ў цёмнай бронзе з п'едэстала,
веквечна строгая, цяпер
уся гісторыя паўстала,
экзаменуючы цябе —

героя̆ родзіч і сучаснік,
расійскай прошласці сусед,
сваёй рукою,
васьмікласнік,
бяры ў гісторыю білет.

— Ульянаў!..—
з класнага пакоя
гучыць на ўвесь казённы дом.
Устаў, задуманы,
спакойны,
суддзя —
не вязень прад судом.

Трывожна зіркнуў
цар з партрэта:
«Злачынца брат...
злачынца брат...»
Мундзіры.
Коўзкі бляск паркета.
Халодны, як зіма, пагляд.

Само бясстрашша прад сінклітам
твайго апірышча, тыран,
вяльможным,
стужкамі спавітым
сінклітам кормнікаў-дваран.

Цікуюць,
быццам зайца ў полі.
Спатнелай пыхі
сыты ўздых.

Праз вокны пух
ляціць з таполі
на стол
і плешы стаўбавых.

У спёку выбеліла замець
абух саноўнага ілба,
калі пачаўся
той экзамен
грымотным словам:
барацьба.

Білет жа быў невыпадковы,
і ў волжскім горадзе старым
пачулі,
як, зламаўшы ковы,
нявольнік Рым
пакінуў Рым...

Юнак схіліўся
над білетам:
дарог не выпраміць крывых —
здаўна,
як свет завецца светам,
чало гісторыі ў крыві.

Хмяльніцкім пушчаны калісьці
на замкі,
логвішчы паноў,
гуляе дымна ў чарналісці
чырвоны певень
зноў і зноў.

Хаця даўно-даўно фальваркі
у шляхты хмарна
браў Багдан,
прабег трывожна
водсвет жаркі
па тварах сцішаных дваран.

Ды ўсё як трэба па білету.
Усе маўчаць.
Нібыта спяць.
Нервовы, ўладны
скрып штыблетаў:
— Даволі!..
— Пяць?..
— Пастаўце пяць...

Дырэктар Керанскі да парты
правёў паглядам юнака.
«Такія
двух медаляў варты.
Хоць брат...» —
Скрывілася шчака.

* * *

Дырэктар думаў на праходцы
у садзіку Карамзіна:
«Вясна жыцця — шумець паводцы,
пасля суцішыць сівізна.

І мой расце,
вушаты рыжык.—
Ідуць яны, ў руцэ рука.—
Сынок,
ці вынесе на стрыжань
цябе гісторыі рака?..»

Пытанне — проста неспадзеўка,
калі маўкліва
прад табой
дазорны часу,
з бронзы дзеўка,
стаіць
з падзорнаю трубой.

Яна ўсё бачыць,
муза Кліо.
На вусны лёг
зялёны цень.
Праступе
з кніжкаю імкліва
юнак Ульянаў:
— Добры дзень!..

— Пастой...
Вы, мусіць, не знаёмы?..
Мой Саша. Пойдзе ў першы клас,—
знаёміць Керанскі.
— І дома
сынок такі пануры ў вас?

— Не, не!..—
Закашляўся старэча.
Хмурынка твар
завалакла.

...У чэзлым садзіку сустрэча
невыпадковая была.

## ВЫЙДЗІ, ВОЛГА, З БЕРАГОЎ

Цяжка берагам ракі
баркі весці, бурлакі.
Босыя, счарнелі.
Воблу Волгай запівай,
сонцу песню запявай,
атаман арцелі!
Ідзём над ракой,
ой...

Дзікі стэп ды стэп кругом.
Скора бліснуць за бугром
вежы залатыя.
Стаўлен горад на красе.
Чайка плача на касе,
беражкі крутыя.
Здалёк чуцён
звон...

Братка косны, шызы нос,
скінь вяровачку з бяроз.
Плёс, як чарка, мелкі.
Толькі выйдзем на канец—
сустракай, Сімбір-купец,
квартаю гарэлкі.
Гульба не грэх,
эх!..

Стукнем-грукнем, пачакай.
Чэрствы камень-каравай
потам солен крута.
Вокам, сонейка, акінь
стэп кавыльны: дзе Хвалынь—
горкая пакута?
Цяжкі ў белы свет
след...

Зноў і зноў на беражок
топкай выдмаю пясок
вольны вецер сцеле.
Кроў скарэла на плячы.
Нам бы лямкі пасячы,

атаман арцелі!
Ступай смялей,
гэй...

Чорна ворана крыло
хмарна неба заняло,
дробны дожджык сее.
Выйдзі, Волга, з берагоў
на паноў, на варагоў
матухны-Расеі!
Ідзём над табой,
ой...
. . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . .

Туга,
        бурлацкая туга
бярэ за горла
                горад.
Брыдзе па бруку
                    ў ланцугах
няголенае гора.

— На-а-бок!..—
                    Стаеннік на дыбкі,
ахрып
        азызлы прыстаў.
Па людней вуліцы
                        штыкі
турму вядуць
                на прыстань.

Табе ў трывозе гарадской
з панурае калоны
кіўнуў калоднік галавой,
кудлаты і стамлёны.

Сяброўскі смутны той паклон
табе, табе,
            Ульянаў,
не мог махнуць рукою ён,
бо рукі закаваны.

Пакуль не крыкнуў канваір,
глядзеў з усмешкай шчырай:

дармо, ў казіны рог Сібір
сагне каваль Парфірый...

Усё паўстала
прад табой:
таемная прагулка,
старая кузня,
цёмны бой
з кадэтамі
ў завулку...

Яшчэ згадаўся
крыгалом,
бягляк
з трывожным тварам,
калі не быў ён кавалём,
а зваўся качагарам;

і ты
на сцюжным скразняку
тады ў бядзе прароча
падаў рабочаму руку,
руку
падаў рабочы.

З маленства кручу ўпадабаў,
ад суму там лячыўся —
Вянец — вянцом сапраўдных спраў
у горадзе лічыўся.

— Як хараша!..
Круты абрыў
яснее ў любай згадцы,
дзе ты, юнача,
паўтарыў:
— Як хараша змагацца!..

І шапку зняў:
адсюль,
з Вянца,
рака
здаецца рэчкай;
вятрамі сцюжна ў малайца
падшыта паліцечка...

Вятрысты ў сэрцы красавік
ці памяць падказала:
такім
ступіў
на бранявік
ля дымнага вакзала.

Бушлаты,
курткі,
армякі —
усіх адно звязала —
ішлі,
як мора,
на гудкі
Фінляндскага вакзала.

У цёмным Піцеры народ
глытаў свабоды вецер,
які сягоння
люты лёд
ва ўсім ламае свеце.

Вясновы
з Волгі
вецер.

## СУСТРЭЧА З ПАЭМАЙ

Я лістаю паэму,
як вецер лістае
дуброву:
ці кранула іржа
кроны думных дубоў,
зялёныя шаблі трысця?..
Гэта —
толькі прадмова.
З трывогай
чытаю прадмову
да шляхоў,
навальніц,
глыбіні,
чысціні

найвялікшага ў свеце жыцця.
Яшчэ тужаць па ім
тэрыконы,
прычалы,
барозны...
Пачынаюцца людзі,
як рэкі
з крыніц,
быстрай плынню
люструючых дзень:
з-пад каменьчыка —
Кама,
з-пад бярэзіны-плачкі —
Бяроза,
пераліўся, звініць
са смалістага зруба
юнай Волгі струмень.
Дзераўляны губеранскі дом
ціха думае ў стоме—
у вытоку пакінуты човен...
Лічыць, лічыць
лясны лістабой,
колькі ў доме Ульянавых,
мудрым, прыветлівым доме,
сцюжных дзён і начэй
ад завей да завей
сэрцам грэўся,
паэма,
з табой.
Не шумі, лістабой;
крок ягоны чуцён
з кожнай чуйнай маснічыны.
Стома радасных дзён,
крокі,
думкі,
гады
і трывогі
не злічаны.
Карта свету ў пакоі,
«Современник» на кніжнай паліцы
і пруток у клубочку—
драбніцы,
драбніцы,
якімі я так даражыў.

Каб раней,
на пачатку жыцця,
я да гэтага змог прычасціцца,
то, напэўна,
сягоння б іначай
ненавідзеў,
любіў,
працаваў
і дружыў.
Стань, паломнік,
на ганку,
з якога Валодзя Ульянаў
купацца на Волгу
з сябрукамі імчаў,
васілёк у кудлатым аўсе...
Рассінелася круча,
адкуль
па-арлінаму
глянуў
яснавокі,
картавы —
не такі, як усе,
быў такі, як усе.
Сціплы,
шчыры, як праўда,
вялікі і просты,
як радасць,
пачынаецца Ленін,
нібы Волга ў глушы...
Не шумі, лістабой.
Хай паслухае,
стомлены, ён
цішыню
у прысадах:
б'е ды б'е за Вянцом,
за кляновай журбой
рукатворнага мора
прыбой...
На апошняй старонцы,
спраўляючы
сёння дажынкі,
я пярэдадне Леніна
параўнаю з крыніцай,
дзе бачыцца мне:

у святлістай
крынічнай
бруі —
ні адной парушынкі,

толькі часта,
так часта
хмарыны
гасяць добрае сонца
і зоры на дне.

Я лістаю паэму,
як вецер лістае
дуброву:

ці кранула іржа
кроны думных дубоў,
зялёныя шаблі трысця?..
Гэта —
толькі прадмова.
Нанова
чытаю
прадмову

да шляхоў,
навальніц,
глыбіні,
чысціні
найвялікшага ў свеце жыцця.

1960—1963



## *Пад ветразем у полі*

Старонкі жыцця

Пісьмо паклікала мяне сюды, на ціхія лясныя ростані. Яно прыйшло з вёскі Ракіты, пісала цётка Анюта, і я, перачытваючы, доўга трымаў лісток з каравымі літарамі, і прыемна-трывожныя ўспаміны не далі мне заснуць да раніцы.

Маленства...

Святло тых ясных бесклапотных дзён, як святло пагаслых галактык, ідзе праз гады, праз усё жыццё і за стромамі часу заўсёды распагодзіць, нязломнай сілай наліе душу. Яно такое магутнае і рэзкае, святло маленства, ажно і сёння бачыш пераплеценую карэннем сцяжыну да аточанага лесам хутара, бачыш рыжую купіну з чмяліным гняздом, чуеш світальную песню дразда-перасмешніка ў сінім сасонніку, п'еш і дагэтуль не можаш уволю напіцца пахам рамонку на росным папары і пахам першага снегу, які і цяпер мне нагадвае пах пілавіння з-пад толькі што спушчанай бярэзіны. Памяць гартае і гартае адвечны мудры каляндар прыроды, і кожная дробязь ажывае ў памяці, хвалюе, як і тады, упершыню, хвалявала. Помніцца нават духмяная пацяруха на сумёце пад ялінаю: чорная жаўна ў студзені з голаду абрабавала мурашнік... А калі падысці да Баркоўскага бору прасёлкам — на зарослай сіўцом наспе метраў сто густа кусціцца бярэзнік з ельнікам, на самым пачатку наспы верасьнёўскай раніцай мяне сустрэлі, выбегшы з бору, крэпкія чорнагаловыя баравічкі. Я, шчаслівы, ціха схіліўся, а з-пад рукі зашасцела, пацякла пад калючыя лапкі, ззяючы на сонцы, ртутная ручаінка. Вужака... Штодзень выходзілі мне насустрач баравікі, ды сонца штодня хілілася ў глыб восені, і хітры вуж

аблюбоўваў сабе ўгрэтыя мясцінкі бліжэй да зацішнага спелага бору, і баравікі адступалі следам вужакі, бліжэй да цёплых замшэлых баравін у глухой нетры. Нарэшце скончыўся завод у гэтым незвычайным гадзінніку верасня — на апусцелай насле журботна зазвінеў ліставей...

Машканы, Івоні, Ракіты, хутар Кляпчэва — авеяныя лесавым шумам мацерыкі майго маленства. У Івонях і Машканах жыла наша сям'я — бацьку, вясковаму фельчару, даводзілася пераязджаць з месца на месца. Я, маленькі, астаўся ў бабулі на хутары Кляпчэва, калі сям'я падалася ў Данбас на заработкі. Гадавала мяне цётка Анюта — лесавічка, касец і малацьбіт, знаўца лекавых і варажбітных траў. Найбольш — лекавых, бо і цяпер у гарадку Сянно, з вокан угледзеўшы босую, сухатварую, трохі прыгорбленую, але шпаркай хады жанчыну з клункамі і клуначкамі, аптэкары адразу выбягаюць на ганак:

— Добры дзень, Анюта!..

Заўсёды, калі прыеду, наліюцца нябёсным святлом і так ясныя цётчыны вочы:

— А божухна, як вырас! Я ж некалі на плячах...

З хутара я пабег у Ракіцкую пачатковую школу. Тае ж восені прачытаў за ноч на печы першую тоўстую кніжку «У краіне райскай птушкі». На досвітку нашы ўставалі малаціць. Мужчын, апрача мяне, не было ў хаце. Бабуля і цётка асцярожна будзілі памагатага, а я і не спаў, бо не мог забыцца сном пасля чытання. У прыцемках па сцежцы да току гойсаў вецер, шпокалі жалуды, босыя ногі гарэлі ў золкіх лужынах, ажно душа заходзілася. У вачах жа стаяла Краіна Райскай Птушкі. Многае з таго, што калісьці чытаў, перачытваю, нанова вымяраю віры і водмелі, але вартасць першае кніжкі яшчэ не правяраў на сённяшні густ, баючыся пашкодзіць чарадзейнае крыло ўпершыню прыручанай жар-птушкі.

З таго досвітку, толькі гляну на комін — выкупаны ў блакіце голуб надзімае, як мячык, вясёлкавае валлё, і здаецца, ён прыляцеў да нас з Новай Гвінеі. А сасна на ростані дарог, абапал якіх журыліся саламянымі стрэхамі выспы маленства, высачэзная сасна на гарушцы шумела і шуміць зялёным ветразем. Пад гэтым ветразем маё сэрца імкнулася да нязведаных зямель. Вечную рунь хвойнай вяршыні бачылі вёскі і хутары, і ніхто не даваўся дзіву, як ацалела сасна,— такой каркаломнай не знойдзеш у нечапа-

най нетры. Яна ж асталася ў полі як помнік колішняй шыракашумнай пушчы.

Бабуля казала:

— Сасну не чапаюць, бо на ёй буслянка...

А цётка Анюта мела сваю думку і толькі мне магла даверыць таямніцу:

— Раней, Толік, усе дрэвы ўмелі гаварыць. Яны прасілі людзей не сячы іх. Мужык прыйшоў у пушчу, хацеў ссекчы нашу сасну, а яна яму гавора: «Не сячы мяне, зраблю цябе кім хочаш». Мужык гавора: «Ладна, зрабі мяне панам». Сасна зрабіла яго панам. Ды мужыку надакучыла быць панам, ён зноў прыйшоў у пушчу сячы сасну. Сасна яму зноў: «Зраблю цябе, кім пажадаеш». Ён кажа: «Зрабі мяне царом». І ён стаў царом. Ды яму і гэтага было мала; цар прыйшоў у пушчу з пілою, вынішчыў усю пушчу, толькі асталася адна сасна на гарушцы. Сасна просіць літасці: «Зраблю цябе, кім хочаш». Цар патрабуе: «Зрабі мяне Богам!» Сасна гавора: «Стань на карачкі, тады зраблю». Цар стаў на карачкі, за мінуту аброс поўсцю і зрабіўся мядзведзем. Тады Бог загадаў, каб дрэвы не размаўлялі... Чуеш, Толік? Яна толькі шуміць...

Ой жа шуміць! Быццам пазляталіся з усёй акругі вятры, б'юцца ў вячыстай кроне. Летась я доўга стаяў пад сасною. Праўда, яна сёння на маё вока не такая высачэзная, як раней, але бусел на вяршаліне здалёк падобны на воблачка, якое быццам зачапілася і дрэмле ў імглістым голлі. Унізе, пад гарушкаю, пераліваецца цераз дарогі і сцежкі растопленае золата нівы. А над галавою шуміць крона. Як глыбінная ракавіна захоўвае невыразны гул акіяна, гэтак зялёны ветразь у полі захаваў пошум старадаўняй пушчы і часу.

Можа, назавуць дзіваком, але, скажыце, дзе ж наладзіць паверку сваім гадам, як не тут, на жытнёвым мацерыку маленства? На раздарожжы пад запаветнай сасной праверу, як жыў і жыву, што змог і што магу.

Бацькаўшчына...

Недалёка адгэтуль, за рэчкай Абалянкай, у лесе горбіцца курганок Камандышкі. У курганку спяць напалеонаўскія грэнадзёры. Зімою дванаццатага года яны палеглі тут, падмарожаныя валацугі, пад угневанай рукой беларускага мужыка, майго прапрадзеда з мянушкай Камандышка — ён падаваў каманду вяскоўцам у цемры: «Улева, управа! Рады шыхтуй, дружына!..»

На хвойным пагосце за вёскай Івоні адшукаю камень з надпісам «Цярэшка Вялюга». Гэта мой дзед. Калі пасля дзедавай смерці забрывалі ў салдаты, царскі прыстаў, мусіць, меў нейкае дачыненне да філалогіі, і з яго дзяржаўнай ласкі Вялюгі займелі ў канчатку яшчэ адну літару. Вось і я хаджу з ёю.

Цярэшкаў сын, а мой бацька, Сцяпан перад рэвалюцыяй быў мабілізаваны на Балтыйскі флот, у Гельсінгфорсе скончыў ваенна-фельчарскую школу. Ён вярнуўся з грамадзянскай на родную Сенненшчыну і ўзяў сабе за жонку Мар'ю Пракаповіч, дачку палясоўшчыка з хутара Кляпчэва. Зямля яшчэ мела над бацькам моцную ўладу, і ён, вярнуўшыся, закінуў за бабчыны абразы чорны стэтаскоп. Тры браты з бойкай дзялілі паветкі, пуню, хамуты, нават лейцы, і пры гэтым аглоблі ў ход пускаліся. Не было грошай паставіць сваю хату. Надзел хоць і невялікі, а ўрабляць аднаму цяжка: Мар'я Васілеўна, мая маці, раней вучылася ў гімназіі, часта хварэла, пайшлі, адно за адным, дзеці, і ў полі яна працавала мала. Усё ж праз некалькі год хату паставілі добрую. Памагла чорная трубачка; бацька лячыў людзей і араў поле. У новай хаце абразоў не было, стэтаскоп назаўсёды перасяліўся ў бацькаву кішэнь. Сцяпан Цярэшкавіч дагэтуль з ім не расстаецца. Усюды, дзе б ён ні працаваў — на Віцебшчыне, у Данбасе, на Урале — шчырым словам успамінаюць ветлівага, добрага, «ад усіх хвароб доктара». Ён так палюбіў сваю прафесію, што, бывала, пастукаюць у акно апоўначы, калі галосіць лютаўская завіруха,— бацька похапкам надзяе кажух і едзе за дзесяць, за пятнаццаць вёрст да хворага.

На сваіх палосках сядзелі нядоўга. Мне, малому, толькі давялося адбываць радоўкі, вывозіць гной і звозіць сена, абганяць бульбу і круціць жорны. Бацька наведваўся ў самы прыпар і на святы: ён асеў у Машканах, дзе мелася бальніца. У вёсцы да світання гаманілі і дымілі махоркаю сходы. Маці стала адным з арганізатараў і членам праўлення калгаса. Чалавек адукаваны, чулы, яна, помню, часта даставала ў Сянне кнігі. Яна і тады, пасля цяжкай работы, штовечар садзілася пачытаць. І я за ёю, у другую чаргу, чытаў «Разгром» і «Данскія апавяданні», «У палескай глушы» і «Сокі цаліны», «Брускі» і «Апошняга зверыядаўца», «Я палю Парыж», «Блакітныя эшалоны», «Лявона Бушмара» і «Барсукі».

Як перабраліся да бацькі, я зноў апынуўся на хутары.

Мы жылі ў апусцелым доме раскулачанага латыша сярод вялікага саду пры дарозе з Машкан на Віцебск. На змярканні трывожыў лес: не ўсім бушмарам былі даспадобы Салаўкі — ноччу агрызаліся ўразанкі. Доктара «ад усіх хвароб», відаць, пашкадавалі, забраўшы толькі муку і тое, што намацала рука ў цемрадзі. З той начы я лётаў да піліпаўскага марозу ў падраных галёшах на босую нагу.

Перад кастрычніцкім святам вучні Машканскай ШКМ[1] узнялі на мачту фанерную, з бакоў зашклёную пяцікутную зорку з ліхтаром усярэдзіне. Мачта стаяла на пагорку ля школы. Зорка гарэла ў імжыстым змроку. І так далёка ішоў яе промень, што нават маскоўская газета дала інфармацыю пра наша святло.

Мы выпускалі ў брыгадах «баявыя лісткі» і насценгазеты, арганізоўвалі рэйды «лёгкай кавалерыі», ставілі пасты для аховы каласістай збажыны ад «цырульнікаў». Я дасылаў допісы ў газету «Піянер Беларусі» і ў часопіс «Іскры Ільіча». З гэтага, напэўна, і пачыналася творчасць, хаця «глупая вобла воображения» непакоіла яшчэ ў пачатковай школе. Чацвёртая група любіла наладжваць спектаклі, ды такія, каб у кожнай дзеі грымела страляніна. Набліжаўся Першамай, а ўсе хадзілі сумныя: не было новай п'ескі. Вяртаючыся са школы на хутар, я асядлаў у зацішку сухую наспу, і высокая муза зляцела з буслянкі на мокры нос у вяснушках. Натхнення хапала, да змяркання п'еска была гатова, і страляніны хапала — уся вёска Ракіты павінна аглухнуць. Раніцай настаўнік пытае:

— Дзе дастаў?

— Нейкая падраная газеціна валялася ў качарэжніку... Ледзь словы разабраў, перапісваючы,— пачырванеў я.

Не ведаю, ці паверыў ён. Нашы вочы сустрэліся, настаўнік усміхнуўся:

— І што — відаць, не ўсе шматкі знайшоў, ад сябе дабаўляў?

— Ну...

Пасля першай рэпетыцыі пайшлі на поплаў выпрабоўваць зброю. Адзін самапал так бабахнуў, ажно ствол разарвала, а майго сябрука з учарнелым тварам павезлі ў бальніцу. Прэм'еры не адбылося. Кандрат Кандратавіч

---

[1] ШКМ — школа калгаснай моладзі.

Крапіва можа паціху пісаць свае п'есы, у яго нямашака моцнага спадужніка: пасля трагедыі на ракіцкім поплаве мною навек занядбаны найскладанейшы жанр мастацкай літаратуры.

Я пачаў пісаць вершы, але на людзі выходзіў толькі з газетнай прозай — допісы, замалёўкі. Вершы перапісваліся ў патаемны тоўсты сшытак. Праўда, адзін з іх — васьмірадковую мініяцюру «Пуня» — асмеліўся паслаць у часопіс «Полымя рэвалюцыі». Праз месяц у Машканы вярнулася мая «Пуня» з падкрэсленай страфою:

Тут толькі ластаўкі: віць-віць!..
За бэльку — тур-трава,
Дзе можа поначы ўдавіць
Гарачая ўдава.

І побач накрэслен прысуд: «Разбэшчанасць і блюзнерства!!!» Я глыбей схаваў тоўсты сшытак...

Віцебск — мой першы горад. Наша сямігодка туды ездзіла глядзець «Чапаева», часам юных селькораў выклікала рэдакцыя, а я быў актыўным карэспандэнтам «Віцебскага рабочага» і дарогу добра ведаў: спярша дванаццаць гразкіх вёрст па цёмных пералесках і грэблях да станцыі Замасточча, а там зыркія агні паштовага, потым шызы ад дыму, тлумны і гулкі вакзал, траскучыя сінія раі з-пад трамвайных дуг, камяніцы і глыбокая страшная таямніца Дзвіны пад вятрыстым даўжэзным мостам, за якім...

Маленькая Замкавая вуліца, здавалася, пахла друкарскай фарбай, і гэты свежы і востры пах хваляваў мацней, чым таямніца дужай і быстрай плыні. Заўсёды я заходзіў у кнігарню, прыехаўшы і вяртаючыся на вакзал — заходзіў. На прылаўках — тамы, томікі, брашуры. Чырвоныя літары на белай вокладцы — новая кніжка «Полымя рэвалюцыі»! Спачатку — вершы. Знаёмыя прозвішчы. Мне вельмі падабалася работа яшчэ маладых у той час Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Алеся Бурдзеля (Аляксея Русецкага). Пэўна, такі закон маладосці: пачаткоўцы заўсёды цікавяцца творамі больш блізкіх па густу, поглядах, пачуццю, бачанню навакольнага свету маладых. Таму асновай маёй паэтычнай бібліятэчкі і з'явіліся кніжкі «Радасны будзень» У. Хадыкі, «Па песню, па сонца», «Гарбун» А. Куляшова, альманах «Аднагодкі». Некалькі разоў я перачытваў набыты ў кнігарні па Замкавай зборнік Пятра Глебкі «Чатыры вятры», хвалявалі росныя, багатыя на цікавыя дробязі жыцця, з

трапнымі прыкметамі часу вершы Петруся Броўкі, з якіх потым складалася кніга «Вясна радзімы». Недзе за аршанскімі лясамі, не так ужо і далёка ад маёй хаты, у промнях ляўкоўскага лета хадзіў жытнёвым прасёлкам над плынным Дняпром сам Янка Купала. І кожны нумар «Звязды» з яго вершам у рукі я браў як чаканы дарунак.

Неўзабаве я ўпершыню пабачыў паэтаў, прыехаўшы ў Мінск дэлегатам Усебеларускага з'езда дзяткораў. Віратлівыя аснежаныя мінскія вуліцы звонка гучалі ў сэрцы, як свежыя, асляпіўшыя зрок радкі нечаканага верша.

Была яшчэ адна казачная дарога. Вучняў-выдатнікаў прэміравалі турысцкімі пуцёўкамі ў Кіеў. Кожны раз, як еду цяпер у Кіеў, я гляджу на гэты шлях шырокімі вачамі маленства: у стэпе круціць жоўтымі гарачымі галовамі сланечнік, «край сонца трудзіцца вятрак»; быццам зялёныя ракеты, пірамідальныя таполі шумна імкнуцца ў неба, размаляванае шызым, фіялетавым, рудым і ружовым дымам заводаў — Украіна, нібыта вясёлка...

Надышла пара развітання са школай. На сэрцы клубіўся лёгкі, як тапаліны пух, не акрэслены думкай смутак...

Машканская сямігодка была сапраўднай школай. З яе высокага ганка сышлі будучыя лётчыкі — Героі Савецкага Саюза, партызанскія камбрыгі, вучоныя, старшыні калгасаў, настаўнікі. Я не буду называць прозвішчаў, некаторыя ведае не толькі Беларусь; я назаву імёны тых, хто выхоўваў нас, вучыў любіць бацькаўшчыну, быць вернымі яе запаветам. Зразумела, чаму я ў першую чаргу ўспамінаю шчырым словам выкладчыкаў літаратуры і мовы — Зору Амуратаўну Солтан і Ніну Якаўлеўну Грунтову, хай за гэта не крыўдуюць на мяне тыя, хто і сёння яшчэ вучыць дзяцей, і каго ўжо няма на свеце: Нахімоўскі, Бондараў, Штэйнбух, Гапаў, Русанаў, Шахмейсцер, Рунцо.

Тым летам маленства падарыла мне сваю апошнюю радасць — палаткі і паходы, горны і песні ў міжраённым піянерскім лагеры на рацэ Лучосе. Пасля адбылася сямейная нарада. Сярэдняй школы побліз не было, яна толькі ў Багушэўску, а гэта ж далёка, ды і з грашамі тугавата — трэба ісці на рабфак. І я падаўся ў Віцебск трымаць экзамены на рабфак. Са сваёй адукацыяй я мог быць залічаны на трэці курс. Канцылярыя наблытала ў спісах, я экзаменаваўся з групай, якая паступала на

чацвёрты курс, і набраў пяцёрак. Пасля спахапіліся, але махнулі рукой: здаў — няхай вучыцца.

На чацвёртым курсе вучыліся хлопцы і дзяўчаты значна старэйшыя за мяне: прыйшлі яны на рабфак пераважна з фабрык і заводаў, некалькі чалавек пасля заняткаў працавала на другой змене. Яны часта гаварылі: «Што табе! Толькі з-за парты, свежая галава... Вось нам...» А мне было таксама цяжка — за адзін год адолець праграму трох класаў сярэдняй школы. Я выйшаў пераможцам, адчуваў сябе на сёмым небе, стараўся мець аб усім сваю думку, ды з-за гэтай наіўнай адкрытасці мяне раптоўна скінулі на грэшную зямлю, калі здаваў экзамены на літфак Мінскага педінстытута імя Горкага.

— Дайце эстэтычна-мастацкую характарыстыку лірыкі Паўлюка Труса,— зарыпела цяжкое крэсла пад прыгожым здаравілам з чорнымі густымі валасамі, якія дагэтуль віюцца трубою.

Адказваючы, я адразу агаварыўся, што на большасці вершаў Труса ляжыць адбітак стылізатарства, пераймальнасці, імітацыі пад народнае.

Твар дацэнта наліўся крывёю:

— Хопіць! Літфак вам супрацьпаказаны. Нездавальняюча! — І пяро бязлітасна нацэлілася, шукаючы ў экзаменацыйным лістку, дзе беларуская літаратура значылася чамусьці апошнім прадметам. Гэта і ВЫратавала мяне. Экзаменатар убачыў адны «выдатна» і «добра», задумаўся, уздыхнуў і паставіў «здавальняюча».

У той час не было філалагічнага факультэта ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Усе пачаткоўцы і маладыя сабраліся на літфаку педінстытута. У гулкіх гаманкіх калідорах галоўнага корпуса толькі і чулася:

— Добрая рыфма...

— Паслухай, новы лірычны...

— Кузьма Чорны хваліў...

— Багрыцкі і Бабель...

— «Людзі прагнуць» — гэта цікава...

— Смелы артыкул...

— Аповесць «Каханне» ў «Полымі». Наш хлопец. Вунь ён...

— Эх, у Вадзіма Стрэльчанкі вычытаў! Аб пагранічніках.

— Давай.

> — Я возьму и винтовку и хлеб
> И пойду по неведомой тропке.

Пять людских невеселых судеб
У меня в магазинной коробке...

Пабраўшыся за рукі, на перапынках прагульваліся чатыры курсы літфака, з важным выглядам блукалі па калідорах будучыя радавыя, сяржанты і афіцэры таго народнага апалчэння, што завецца: «Наша літаратура». Рыгор Бярозкін, Іван Грамовіч, Язэп Семяжон, Янка Казека, Генадзь Шведзік, Мікола Аўрамчык, Васіль Івашын, Янка Непачаловіч, Мікола Лупсякоў, Рува Рэйзін, Аляксей Коршак, Валодзя Рагуцкі, Сямён Ляльчук, Якуб Усікаў, Яўген Замерфельд...

На сумесныя літаратурныя вечары сюды часта прыходзілі з КІЖа Аркадзь Гейнэ, Пятро Прыходзька, Даніла Капыткоў і Пятро Дудо, з універсітэта — Уладзімір Шахавец і Ілья Элькінд, з медінстытута — Рыгор Кручок і Аміва Левіна, з педвучылішча — Аркадзь Марціновіч, з юрыдычнага інстытута — таленавіты, рана памёршы Аляксеенка. Завітаўшы ў Мінск, з'яўляліся настаўнікі-завочнікі, трымаліся яны асобна — Панчанка, Няхай, Бачыла.

Перад тым як назваць усіх, я наўмысля карыстаўся вайсковай тэрміналогіяй: сябрам давялося змераць і зведаць шырокае поле Вялікай вайны, некаторыя засталіся на гэтым полі, шмат каго — параненага, знявечанага — вайна адпусціла памерці дома. Як яны любілі жыццё! Часам змахнеш слязу, чытаючы іх паходныя вершы:

У крыку — слодыч і пакута:
Што сэрцу можа быць бліжэй,
Чым песня пеўня, што пачута
На першай лініі траншэй?..

І калі ідзеш па Студэнцкай вуліцы, дзе бульдозер ламае спарахнелыя, уехаўшыя ў зямлю баракі, чуюцца з даўніх вёсен звонкія маладыя галасы. Да світання тут спрачаліся, чыталі; як цыган да каня — прыцэньваліся да радка. Тут мяне падбухторылі занесці вершы ў рэдакцыю. Я падыходзіў, мінаў Дом пісьменніка, зноў вяртаўся, баючыся ступіць на парог, дзе стаяў старэнькі швейцар. Нарэшце ўвайшоў, адчыніў дзверы ў пакойчык «Полымя рэвалюцыі». Адразу пазнаўшы чалавека за сталом, смешна падаўся спінай назад: не жартачкі, сам рэдактар Міхась Лынькоў!

— Заходзьце, заходзьце... Вершы?

Ён разгладзіў далоняй пакамечаны ліст, пачаў чытаць уголас:

Спі, засні, мой голуб яснавокі,
замаргалі зораньки над хатай.
У асоках завадзей глыбокіх
жоўтыя паснулі качаняты.

Далей чытаў моўчкі, і мая душа сядзела ў пятках, пакуль твар рэдактара не распагодзіўся мяккай, харошай усмешкай:

— Добра. Надрукуем...

Так з'явіўся ў друку першы верш «Матчына песня».

У рэдакцыях тады не хапала літаратурных супрацоўнікаў. Ахвотна бралі на работу маладых. Я пачаў працаваць у «Звяздзе». Старэйшая партыйная газета ў Беларусі «Звязда» выхавала з мяне журналіста, я люблю гэтую прафесію і ніколі не забываю на сваю аўтарытэтную настаўніцу. Трымаючы сёння сувязь з «Правдой», «Литературной газетой», «Советской Белоруссией», «ЛІМам», я заўсёды ўспамінаю камандзіроўкі роднай «Звязды». На яе старонках калісьці друкаваліся мае артыкулы і нарысы, напісаныя там, дзе б'ецца гарачы пульс жыцця: у калгасах, у фабрычных раёнах, на пагранзаставах. Працавалася лёгка; помню, з Тарасам Хадкевічам за вечар напісалі нарыс «Мільянер», на цэлую паласу.

Рабінавыя ночы трыццаць дзевятага года — кароткі пралог да вялікіх навальніц. На Захадзе трывожна груваціліся хмары вайны. Семнаццатага верасня я быў на граніцы. Вярнуўшыся ў Мінск, раніцай пабег на Мопраўскую пагаварыць у шпіталі з палітруком, якога параніла, калі бралі польскую стражніцу. Там сустрэў Аркадзя Куляшова — мабілізаваны, ён працаваў у шпіталі, здаецца, пісарам. Ён распытваў, што бачыў я за мяжою. Я расказаў пра цікавы выпадак, на якім заснаваўся ягоны верш «Вінтоўка».

«Звязда» камандзіравала мяне ў Вільню, Гродню, Баранавічы. У рэгістратуры беластоцкага гатэля «Рыца» паненкі са здзіўленнем глядзелі на цыбатае хлапчо: пушок на губе, а дастае мандат сталічнай газеты... У Лідзе пазнаёміўся з Валянцінам Таўлаем. Ціхі дзераўляны домік пры станцыі, там Валянцін доўга вадзіў мяне па цярністых шляхах свайго жыцця, чытаў вершы Танка і Пестрака. Непрыкметна мінула ноч. Яго бацька-чыгуначнік падняўся на работу: «Ай-яй, затакаваліся! І бутэльку не апрасталі. Кладзіцеся спаць...»

Верасень падарыў яшчэ адну хвалюючую сустрэчу.

У «Звязду» да рэдактара Цімоха Гарбунова зайшлі Валянцін Катаеў і Уладзімір Лугаўской. Я не зводзіў вачэй з высокага прыгожага чалавека: так яму пасавала вайсковая форма, быццам усё жыццё ён ходзіць камандзірам. Ва ўзрушанай памяці раіліся радкі, даўно вядомыя і зусім свежыя, пра ноч пад Маладзечнам: «Мы словно сотни книг в ту ночь перечитали. В одну такую ночь вмещаются года. Ты, армия моя, идешь в броне и стали, на башнях верный знак — счастливая звезда». Калі масквічы адвіталіся, я следам спусціўся з трэцяга паверха, выйшаў за імі на людную вуліцу. Лугаўской азірнуўся, спыніўся, добрым басам ва ўпор:

— Пішаце вершы?..

Рушылі да гасцініцы «Еўропа».

— Чытайце,— сказаў ён.

Зямля пайшла з-пад ног, я набраў паветра і, нікога, нічога не бачачы, чытаў, не зважаючы на людны тратуар:

Юнак маўклівы каля сосен
хадзіў за статкам ціха ўвосень,
вялікім вокам ястрабіным
глядзеў на хмары і рабіны.
Глыбока
гоней родных далі
у вока
з хмарамі запалі.
На белым палатне бяросты
юнак зрабіў малюнак просты:
рабіны палымнеюць гроны,
здаецца, пырсне сок чырвоны.
Рабіну
кінуў,
як жывую,
у каліну
палявую —
дразды зляцелі на бяросту
дзяўбці крывавую рабіну.
І князь аддаў загад старосту
арыштаваць хлапца й карціну...

— Ого! — Лугаўской зноў спыніўся.— Трэба ў Маскву.— І ўжо зусім па-дружбацку, калі я скончыў: — Прыязджай да нас у Маскву. А «След мастака» пастараюся перакласці...

Я марыў аб Маскве. Хацелася мець добрую школу паэзіі, а яна была там; я адчуваў патрэбу як след пазнаёміцца з тэатрам, жывапісам, пабыць у майстэрнях кінамастацтва — усё гэта магла даць толькі Масква. У Мінску цяжка было прабівацца пачынаючаму, які стараўся

змайстраваць трывалае сіло метафар, каб злавіць сінюю птушку. «След мастака» — гэта адзін з першых маіх вершаў і, як бачыце, зусім просты, звычайны, а тады ён быў зарэзаны, мне сказалі: фармалізм. Я ўжо супрацоўнічаў у «Чырвонай змене», рэдактар, чалавек дужа ўпарты, не хацеў адпускаць мяне, і я, рызыкнуўшы, восенню саракавога года махнуў у Маскву без дазволу рэдактара, хаця на той час такая легкадумнасць пагражала вялікімі непрыемнасцямі.

У Літаратурны інстытут я спазніўся — пачаліся заняткі. На сцэнарным факультэце Інстытута кінематаграфіі, дзе першы курс таксама быў укамплектаваны, парадзілі астацца вольным слухачом: «пасля, магчыма, усё ўладкуецца». Што ж, маладосць захапляецца хараством жыцця нават тады, калі раніцай невядома, ці будзе ноччу над галавою дах, а назаўтра рубель на абед. А яна ж цяпер мела свайго бога, і гэтым богам быў Даўжэнка. Як лепшыя вершы, я помніў цітры «Зямлі» і «Аэраграда»; пад чорнымі хмарамі ў спелым жыце тужыла, ішла па сэрцы яго конніца — на экранах краіны грымеў «Шчорс». Шчодры, вечна натхнёны, магутны ўкраінскі Гойя! Ён быў так блізка, вучыў, спрачаўся, папросту здароўкаўся.

Ідзём на лекцыю. Сакавік. Вятрыстае неба. Чорнае набрынялае голле на бульварах.

— Аляксандр Пятровіч, паглядзіце, якія сінія, густыя цені на снезе?

— Цені?.. А я не прыкмеціў. Ой, біда!..

У зале паўнютка. Штось не ладзіцца ў яго, не можа распачаць лекцыю. Пайшоў да акна, доўга стаіць там, задуменны.

— Скора Маскву жураўлі прывітаюць. Дрэвы чуюць вясну, нават снег чуе... Лекцыі сёння не будзе! Чаму? Толькі адзін з усіх нас — не я! — пабачыў цуд. Ідзіце, глядзіце, як пад мокрымі дрэвамі гусцеюць на снезе сінія цені... Хочацца, каб тыя, хто хвалюе сэрцы людзей у мастацтве, і самі былі інагды ўсхваляваныя. Каб не заўсёды належалі яны сваёй драме ў той меры, у якой ахопленыя полымем будынкі належаць агню альбо пажоўклае лісце — асеннім вятрам...

Не ведаю, што сказаў бы Іяган Песталоцці — самая кароткая лекцыя была і самая мудрая.

Чуллівы, харошы, быццам па заказу прыроды і часу народжаны для творчасці, рашучы і бязлітасны ў спрэч-

ках, Даўжэнка нанова адкрываў свет, нанова ствараў мастацтва і быў яго высакародным рыцарам.

Ён напісаў сцэнарый і меўся круціць «Тараса Бульбу». Я думаў, легендарны запарожац забраў цяпер усе яго думкі.

— Гогаль вялікі паэт і кінематаграфіст. Не пасміхайцеся — вялікі кінематаграфіст...— Аляксандр Пятровіч раптоўна змоўк, у вачах затрапяталася мройнае гарачае святло.— Хачу зняць Украіну па рэках. Адзін фільм будзе — Дняпро, другі — Чарамош, Буг... Як вернецеся дадому, зрабіце, калі ласка, тое ж у Беларусі. Бярыце жыццё рэчкі,— і тут ён перайшоў на матчыну мову, ведаючы, што я разумею: — Річка, літня, осіння, зимова, весняна, вона ж буденна і святкова, ранкова, денна і вечірня, річка в свято і будень, річка дітвори і старих, річка дівчат, річка праці, річка рибалок, річка історії, річка подвігів, річка героїкі, річка пісень. На кожнай річкі свої пісні...

Ён яшчэ раз казаў, што гэта і ёсць тая самая форма, якая дазволіць мастаку не па-казённаму, а вельмі паэтычна, ва ўсім комплексе жыцця падысці з шырока адкрытымі вачамі да зямлі, прыпасці да яе і паслухаць свет.

Вялікі паэт кіно! Сапраўды, мне пашчасціла: незабыўныя сустрэчы з ім.

Час ад часу я дасылаў вершы і апавяданні ў мінскія рэдакцыі, напісаў кінааповесць аб Амерыцы «Знойдзены труп бадзягі», якую не змог адшукаць — вайною згубілася дзесьці.

Мяне вайна застала ў Мінску. Пад бомбавым ударам дрыжалі зямля і муры. У высокім дыме над паркамі і скверамі мітусіліся птушкі. Хісталася трывожная ноч у пажарах. Сасмагла пакутная дарога, цягнучыся на Чэрвень, Бярэзіна і далей — па лясах, па густым, у зялёным дымку красавання рослым жыце. Пешкам дабраўся да раз'езда Лычкоўскага — ёсць такі на перагоне Багушэўск — Віцебск. Там працаваў бацька; родныя верылі, што прыйду, чакалі, каб разам падацца на ўсход. Пад калёсамі зарыпеў горкі шлях выгнання. Над ім ад зары да зары віселі гарбатыя «фокеры». Лёзна, Рудня, лясы Духаўшчыны, Дарагабуж...

Ехалі, ішлі бежанцы. На запыленыя бальшакі, на матак і дзяцей, на машыны і на калгасныя статкі з-за хмар нырцавалі самалёты. У эшалон змаглі залезці аж у Вязьме. Я зразумеў, што вершы, калі ёсць патрэба, нараджаюцца, як і жыццё, усюды, нават на пуцявінах смерці. Гэта ж там,

пад фашысцкімі бомбамі, завязаліся першыя радкі аб сапраўднай вайне:

Я знаём з тваім воблікам.
Бежанцы едуць... Зірні! Там
кучаравае воблака
ці дымкі ад зенітак?

Вяземскі эшалон прывёз на Урал. Я некалькі месяцаў вучыўся ў Свярдлоўскім педінстытуце. Потым з радасцю апрануў форму курсанта авіяцыйнай школы. Новы горад, новыя сустрэчы з землякамі: сюды, на Табол, эвакуіраваўся гомельскі завод, на заводзе працаваў беларускі журналіст Сямён Мельнікаў, у гарнізонным клубе — выкладчыкі Мінскай кансерваторыі. Завітаў да сваёй сям'і кампазітар Ціхан Хрэннікаў. Ён напісаў на мае словы песню авіяцыйнай школы. Яна штодня выходзіла з шырокіх варот на вуліцы горада, калышучы гарластую калону курсантаў. Нядоўга давялося спяваць, паглыбляцца ў фізіку, поркацца ў пакарабачаных сэрцах падбітых машын. Патрэбны былі людзі там, дзе насталі самыя цяжкія дні ў жыцці Радзімы: нямецкія дывізіі папасваліся на каўказскіх вінаградніках і данскіх баштанах.

Я апынуўся на Волзе. Гэты час пакінуў не толькі суровыя засечкі: раны зажываюць — віры памяці ніколі не супакояцца.

«Жыцця майго і смерці пераправы...» Гэта з верша, напісанага пасля. У жыцці была спачатку левабярэжная бяссонная пераправа «62», і востраў Зайцаўскі, і табельныя пантоны, паромы, чаўны і бранякатэры пад агнём мінамётаў, гармат і пад бомбамі — эскадры Герынга забралі неба, раўлі маторы і сірэны, зямля хадзіла пад нагамі, як палуба ў часіны шторму. «З піке не вырвеш крыкам самалёты!» — такія словы вымавіш, усёй істотай адчуўшы бязлітаснае набліжэнне самага страшнага, калі ўжо няма ратунку, бо і ты, і кожны кусцік вербалозу, і кожная шчыліна ды пячурка ў пясчаным беразе — звычайныя, добра вывучаныя, абмацаныя мішэні. Байцы пераправы працавалі ноччу, і ўдзень было работы, але ўдзень больш стараліся абхітрыць неадчэпную, дакучлівую смерць. Гарэлі, ішлі на дно параходы «Пажарскі», «Данбас», «Саўгасніца», а на тым баку гарэў вялікі горад, несціхана грымела. Калі вецер дзьмуў адтуль, да нас выносіла мерцвякоў. Яны ціха калыхаліся сярод белай глушанай рыбы на водмелі. Як пераправіліся матросы Паўночнага і Ціхаакіянскага флоту, з пекла часцей выносіла параненых — здаровым салё-

ным хлопцам з морскай пяхоты хапала сілы даплыць. Была цяжкая, да цёмнага гулу ў хрыбце, работа з вострым імклівым лётам думкі, а то і проста са злаславай абыякавасцю, калі ўжо нішто на гэтым свеце не застрашыць.

У горадзе пярэдні край бліскавічным зігзагам значыўся на кожнай вуліцы, у кожным доме, нават на паверхах, гарышчах і ў падвалах аднаго дома. Праўда, у ланцугу абароны былі прагалы, дзе немцы выйшлі на волжскія абрывы, адкуль шырока адкрылася пераправа.

Паромы і пантоны асядлала з маршу сібірская пяхота. Дабіраліся паціху, туманна-дажджыстае неба злілося з Волгаю, а шуганулі з абрыву ракеты, сляпуча павіслі парашутныя лямпы і — заракатала. Столькі людзей загінула, патапілася.

Апошнім на востраў дастаўся санбат. З кабіны грузавіка сышла высокая, статная маладзіца ў доўгім шынялі: з-пад хвацка заломленага берэта залаціцца вязка саламяных кос, на шчоках у ямінках поўна смеху, а вочы, зеленапагодныя вочы, няйначай, чарадзейныя кветкі.

Начальнік санбата, яна абышла ўсіх параненых, апрацавала закарэлыя раны і, помніцца, спыталася ў панурага салдаціка з перабітым плячом:

— Есці хочаш?

— Хачу.

— Тады сто гадоў пражывеш. Не бядуй, заяц.

— Я не заяц.

— Востраў завецца Зайцаўскім, а сюды мазаі дабраліся ратаваць зайцаў...

Нашы неміласэрныя гарластыя старлейты, бы стрыножаныя, маўкліва валакліся следам, слухаючы сібірскую чараўніцу.

— Боль шукае лекара, ды не кожнаму лекару верце, зайчыкі. Папраўдзе, можна даверыцца толькі двум дактарам — палявому хірургу і празектару.

— Ну, вядома, хірург рэжа, сшывае жывыя тканкі, чысціць, ладкуе маладыя костачкі, значыць, можа ўратаваць, а вось... празектар. Як і што ён лечыць?

— Гэта ўрач, які загадвае ў шпіталі паталагаанатамічным аддзяленнем. Ён-то і ставіць дакладнейшы дыягназ, ставіць у трупярні, выбачайце за такое слоўца. Доктар не токар па мяккіх металах — па хлебу і салу...

Зачаравана слухалі, смяяліся і — затрымалі санбат на востраве, пакуль не сцямнее, бо наперадзе апошняя, вельмі небяспечная дыстанцыя на пераправе, а як жа кінуць пад

кулі і міны заранку жыцця, Мілавіцу міласэрнасці?

— Бывайце, хлопчыкі! — Яна стукнула дзверцамі кабіны, завуркатаў матор, густая цемрадзь забрала ад нас і лазарэт, і красуню з ласкавымі вачамі ды ямінкамі на шчоках, поўнымі здаровага смеху.

Не лічылі, колькі хвілін мінула — сляпуча павісла праклятая лямпа на парашуце, траскуча ўспыхнулі ракеты, загрукатала, слупы вады абрушыліся. Удалечыні бліснулі фары грузавіка, мусіць, шафёр ці машына тузануліся, калі побліз тарарахнула. Крыкі патапіліся ў глухой ваце агністага гулу, доўгія крыкі праглынула рака, праглынула і грузавік з уключанымі фарамі.

Нечакана, як і пачаўся, суняўся абстрэл, а фары яшчэ свяціліся на дне, з глыбіні бруілася прытуманенае святло. Балюча сцялася сэрца — падалося: гэта свецяцца, гаснучы, вочы, што абагрэлі на вятрыстай ростані, растапілі лёд абыякавасці да жыцця і смерці.

А вулкан на Волзе грукатаў, высока дыміўся, у вогненным кратэры папялілася жыццё. Па акопах хадзіла салдацкая пагалоска: камандарму-62 строга загадалі перабрацца са штабам за Волгу, але ён, чалавек крутога нораву, саскочыў з бранякатэра і, па пояс у вадзе, мацюкаючыся, рушыў пад пясчаны абрыў да свайго бліндажа.

Ідуць на дно пантоны і паромы,
у небе дыму цёмныя харомы,—

пазней, калі выразна акрэслілася самавітая постаць камандарма, акрэсліліся і гэтыя радкі:

Берлін у бубны б'е
з тупым азартам,
што мы разбіты
ўрэшце канчаткова.
Цячэ пясок,
цячэ пясок на карту
і дзень і ноч у бліндажы Чуйкова.

Пра ўсё гэта трэба пісаць у прозе аржаной, чэсна і грунтоўна. Ужо заваяваны аператыўныя плацдармы — «У акопах Сталінграда» В. Някрасава і нарысы В. Гросмана, творы, якія застаюцца ў гісторыі літаратуры.

А тады без чарнавіка пісалася гісторыя, дый ніхто там не думаў, што гэта станецца гісторыяй.

Перабазіравалася пераправа. Доўга не замярзала Волга, плыў і плыў шарош — снежаньскае «сала». Потым перакінулі з прыціхлай крыгі на крыгу дашчаныя шчыты, хадзілі па тонкім лёдзе, цягнучы за сабою, як у ма-

ленстве, саначкі. На саначках цяжка драмалі маланкі і грамы. Ідзеш і не думаеш, што пацэляць у цябе; калі параняць — папаўзеш назад ці данясуць таварышы; баішся, каб не пацэліла ў саначкі — тады адразу закіне да Бога, а Бог, жартавалі, не дасць парашута — Бога і Гітлера крылі небаскробным матам ахрыплыя ад сцюжы і спірту волжскія матарысткі.

Я вельмі хацеў перабрацца ў газету, абяцалі перавесці ў «дывізіёнку», я чакаў загаду. Але збіралі сілу з астравоў і пераправаў, наша падраздзяленне кінулі на абарону правага берага — хтосьці зверху меркаваў, што абкружаная нямецкая армія будзе прарывацца на ўсход, у заволжскія стэпы. На правым мяне стукнула.

Я двойчы парадніўся з горадам на Волзе: там удосталь насярбаўся сцюжы і агню, там пасля вайны працавалі на гідрабудзе і цяпер жывуць на левым беразе ў Волжскім родныя сёстры — інжынер і медык.

У шпіталі некалькі вершаў напісаў па-руску, іх надрукавалі ўральскія газеты. Прачытаў у маскоўскім часопісе пераклад паэмы Куляшова «Сцяг брыгады». Паэма ашаламіла мяне. Гэта было адкрыццё новага паэтычнага мацерыка. Так думаў не толькі я. Міхаіл Луконін піша: «Не тое, каб мне не даводзілася сустракацца з вершамі: былі вершы Сіманава, якія заўсёды я любіў, быў ужо і «Васілій Цёркін» — як працяглая радасць гэтых год. Але ўражанні ад таго, што я прачытаў «Сцяг брыгады» Куляшова... былі глыбока нечаканыя, якіясьці адметныя для мяне».

Мая маці плакала, як прачытаў ёй «Сцяг брыгады», вярнуўшыся на таежную станцыю Адуй. Яна, камуністка, усю вайну працавала там на прадпрыемстве, а бацька — загадчыкам участковага медпункта. Яны абралі Урал сваёй другой радзімай, да гэтага часу яны ўральцы. Цяжка было і там, у глыбокім тыле: хлапчукі-рамеснікі па дзве змены ўзапар стаялі ля варштатаў, і, каб маленькім зручней стаялася, ім пад ногі падсоўвалі скрынкі. Неяк сорамна было адпачываць пасля шпіталя, і я пайшоў на прадпрыемства. Там нарадзілася мая «Балада аб уральскім танку».

У маі сорак пятага вярнуўся ў Мінск. Пахлі палыном руіны. У цэнтры, між разбітых цагляных сцен, зелянелі цыбуляю градкі, абгароджаныя жалезнымі рабрынамі абпаленых ложкаў; дзе-нідзе стаяла жыта, у жыце крычалі перапёлкі. Першым, каго я напаткаў у Мінску, быў Валянцін Таўлай. Ён павёў мяне на Рэвалюцыйную ў рэ-

дакцыю толькі што адноўленага «ЛіМа». Рэдагаваў газету Аркадзь Куляшоў, намеснічаў Алесь Кучар. З ходу прачыталіся вершы. Хлопцы слухалі ўважліва, бачыў: падабаецца. Цэлая падборка пайшла ў набор, мне прапанавалі пасаду ў «ЛіМе», а Кучар прытуліў у сваёй хаце на першыя дні. Усё гэта не забываецца. Вясёла працавалі; хаця ў рэдакцыі было ўсяго сем чалавек, газета выпускалася цікавая, з напалам думак, з трапнымі стрэламі па халтуршчыках.

У сорак шостым мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Пятрусь Броўка, тады галоўны рэдактар «Полымя», прапанаваў перайсці ў часопіс. З таго часу вяду аддзел паэзіі ў «Полымі». Люблю працаваць і дружыць з маладымі. У паэзію ідуць таленавітыя людзі. Ганаруся тым, што ў канцы многіх добрых першых кніжак за словам «рэдактар» стаіць маё прозвішча.

Мая першая, «Салют у Мінску», выйшла ў сорак сёмым. Праз два гады выдаў кнігу «Негарэльская арка» і зборнік для дзяцей «Галубы». Часта выступаў, сустракаўся з чытачамі, падарожнічаў па Савецкім Саюзе.

Вельмі важнай для кожнага паэта лічу перакладчыцкую працу. Перакладаць творы сапраўдных майстроў — гэта і павышэнне паэтычнай кваліфікацыі (штодзённая творчая фізкультура), і авалодванне многімі сакрэтамі, якія не заўсёды прыкмеціш і зразумееш пры звычайным чытанні. Я перакладаў паэмы Лермантава, вершы Міцкевіча, Маякоўскага, Тувіма, Ціханава, Бранеўскага, шмат часу аддаў перакладам з украінскай паэзіі: паэмы Лесі Украінкі, «Праметэй» Андрэя Малышкі, «Чырвоная зіма» Уладзіміра Сасюры, балады Міколы Нагнібеды, кніжкі сяброў — Платона Вараньло, Дзмітра Білауса, Багдана Чалага. Перакладаю толькі з тых моў, якія ведаю. Выключэннем з'яўляюцца «Паэма братэрства» Эдуардаса Межэлайціса, вершы Назыма Хікмета, Турсун-задэ, Харыка — карыстаўся падрадкоўнікамі.

У 1952 годзе выйшла кніга маіх выбраных твораў «На подступах» і зборнік для дзяцей «Тры гудкі». Сёння некаторыя маладыя кідаюць каменьчыкі ў наш агарод: дзе была ваша смеласць — хе-хе! — калі панаваў культ асобы?.. Маладыя кепска арыентуюцца ў тым часе. Каб неяк адказаць на іх пытанне, я вельмі падрабязна напісаў пра маленства і юнацтва, пра свой нялёгкі, але дарагі сэрцу шлях да паэзіі. Адважныя дзеці свайго часу, мы імкнуліся як мага лепш служыць Радзіме і народу.

И высшим жребием отмечена
Судьба пришедших в год лихой —
Чтоб разделить с тобой, Отечество,
Слезу, строку и смертный бой!

Нашы думкі і без вашых «каменьчыкаў», маладыя хлопцы, уволю памучылі, як кажа Панчанка, валакітчыкі і валютчыкі, аглабельшчыкі і пасквілянты, канцылярскае дуб'ё і нацыянальныя капшукі. Не магу забыцца на чорную паласу ў «ЛіМе» («Слова паэта — зброя народа»), дзе з правінцыяльна-акцёрскім славаблудствам знішчаліся лепшыя творы амаль усіх беларускіх паэтаў. Мяне, напрыклад, гэтая паласа выбіла з работы на доўгі час.

Дзякуй Якубу Коласу, ён тады адзначыў маю паэтычную працу ў артыкуле аб пасляваеннай беларускай літаратуры, надрукаваным у газеце «Правда». Добрым словам і сяброўскай ласкай заўсёды падтрымлівалі рускія і ўкраінскія паэты, перакладчыкі маіх вершаў — Мікалай Забалоцкі, Вадзім Шэфнер, Аляксандр Пракоф'еў, Андрэй Малышка, Яўгеній Вінакураў, Якаў Хелемскі, Марыя Камісарава, Мікола Нагнібеда, Мікалай Рыленкаў, Ілья Аўраменка, Мікалай Браун. Маскоўскія і ленінградскія выдавецтвы выпусцілі мае кнігі «Молодость мира», «Стихи», «Черемуховые холода», «Голубь на башне». У перакладзе на ўкраінскую мову выдадзена кніга выбраных твораў «А ў полі вярба». Шмат якія вершы перакладзены на мовы народаў СССР і замежныя.

Паэзія — гэта далёкія вятрыстыя шляхі, вечная шчаслівая трывога. Паэзія не любіць сытага жыцця і спакою. Паэзія адразу памірае ў абывацельскім катэджы і чыноўніцкім кабінеце. Яна патрабуе, каб ёй падуладны творца добра ведаў радаслоўную Яе Вялікасці, інакш ён будзе адкрываць даўно адкрытыя амерыкі. А таго творцу, які хоць і верна служыў ёй, але на нейкі час са строгага паста сышоў і здрадзіў, яна карае страшнай карай забыцця.

Біяграфічныя весткі аб маёй асобе за апошнія дзесяць год трэба шукаць у маіх творах. Прынцыповымі і значнымі ў сваёй рабоце лічу нядаўна выпушчаныя зборнікі «На зоры займае» (1958) і «Насцеж» (1960). Доўга пісаў паэму «Вецер з Волгі» пра маленства і юнацтва Уладзіміра Ульянава. Мяне цікавілі прырода, абставіны, дробязі побыту, асяроддзе, выхаванне, умовы і час, у якіх выспявала і дужэла думка будучага Леніна. Тры гады грэўся душою ў светлым, чэсным і мудрым сімбірскім доме Ульянавых. Сёлета паэма «Вецер з Волгі» выдаецца асобнай кнігай.

Робячы паверку паэтычнай рабоце, я падрыхтаваў да друку аднатомнік твораў «Адрас любові».

Працую ў дакументальным кіно. Па маіх сцэнарыях пастаўлены фільмы «Янка Купала» і «Глобус Напалеона», неўзабаве пачнуць здымаць новыя: «Калі станеш зоркай», «Вуліца машыністаў», «Кветкі на камені». Праўда, яшчэ не здзейсніў запавету Даўжэнкі — зняць Беларусь па рэках: я планаваў такія карціны, але кіначыноўнікі не зразумелі ідэі.

Я думаў напісаць тры-чатыры старонкі аб сваім жыцці, а, бачыце, на колькі размахнуўся! Пэўна, таму, каб не вяртацца больш да такой нялёгкай, нудна-сур'ёзнай справы. Пісьменніцкая аўтабіяграфія часта мае выгляд неправы. Пісьменніцкая аўтабіяграфія часта мае выгляд непрадуманай канструкцыі, выгляд робата-галавасціка: вельмі многа і падрабязна аб маленстве і юнацтве і зусім мала пра сталыя гады і аб самім працэсе творчасці. Я абараняю такую канструкцыю. У маленстве, юнацтве, у пару маладосці чалавек на ўсё жыццё назапашвае ўражанняў, узбагачае душу і думку. Станіслаўскі казаў, што ў мастацтве няма і не можа быць «цяпер» і «зараз», ёсць імклівы рух з «учора» ў «заўтра», крылатае імкненне з учарашняга дня ў наступны. Гэтак і ў літаратуры. Свае ж думкі аб творчасці — асобная вялікая тэма. У мяне па розных перыядычных выданнях раскідана шмат артыкулаў аб паэзіі і паэтах. Думаю сабраць і выдаць кніжкай.

Дапісваю гэтыя радкі на мінскай кватэры. Галоўны рэдактар выдавецтва падсцёбвае тэлефоннымі званкамі — трэба хутчэй здаваць у набор томік аўтабіяграфій. Сёння выдаўся гарачы тэлефонны дзень. Маладыя паэты просяць дазволу зайсці з новымі вершамі. Кінастудыя пытае, калі, нарэшце, здам сцэнарый пра свайго земляка, славутага лётчыка-героя Алеся Гараўца. Праз тыдзень паеду з рэжысёрам у Машканскую школу, дзе вучыўся Гаравец. Зноў спатканне з маленствам, зноў хвалюючая і строгая паверка свайго жыцця.

Па сумёцістым раздарожжы прывітае знаёмым шумам старая цяглая сасна. Сорак маіх вёсен і зім, задумаўшыся, стануць пад заінелы ветразь вечнага лета. Як мала зроблена, і часам не так, як належыць, і колькі планаў наперадзе! А сосны ідуць не толькі на мачты... Трэба спяшацца.

Студзень 1963

# ПАСЛОЎЕ

Дваццаць гадоў, адшумелых у кроне зялёнага польнага ветразя — цэлае жыццё па календару сталасці.

Запаветную сасну на ростанях успаміпала цётка Анюта, калі прыязджаў я ў ціхі гарадок Багушэўск, дзе жылі мае бацькі. На схіле веку змялела Анюціна памяць, выцвілі вочы, і стамлёны пагляд ужо не пасвіўся на высокай руні той сасны, што шумела побліз дома на вуліцы Пушкіна за чыгуначным пераездам. Вяршаліна багушэўскай сасны сцята снарадам. Прадвеснем трывожна клекаталі прылётныя буслы. Толькі ў бацькі мала было сілы ўсцягнуць старое кола ці барану на цяглае дрэва.

Я думаю аб дрэве жыцця. Думаю пра скарочаныя адлегласці апошніх гадоў. Мяне непакояць страты і пралікі ў перабытым часе.

Страты... Яны, трэба шчыра прызнацца, падкошвалі мяне як чалавека: пад ветразем у полі пахавалі цётку Анюту, памерла маці, затым бацька. І яшчэ — дзве нядаўнія трагічныя страты ў маёй сям'і.

Пралікі... Гэта ўжо ў рамястве. Тут, вядома, усё залежала ад свае пазіцыі, намеру і, урэшце, проста ад жадання. І ўсё ж... дваццаць гадоў прысвяціў я таварышу Кіно.

Хацелася на ўвесь голас гаварыць аб гераізме беларускага народа. Гаварыць так, каб далёка пачулі і зразумелі. Дапамагла амплітуда кінаэкрана: сёння, калі меццa на ўвазе яшчэ і Цэнтральнае тэлебачанне ды Інтэрбачанне — гэта, нават з прыблізным падлікам гледачоў і з разлікам на кожнага з іх, стомільённыя тыражы. Кіно і ТБ — «багі сучаснага жыцця».

Праўда, Тадэвуш Кубяк у Польшчы непакоіўся: гэтыя багі — небяспечныя спаборнікі паэта. «Бездапаможнымі сталіся нашы ўяўленні, фантазія; кіно гаворыць нам усю праўду, не баючыся нават фатагенічнасці смерці».

У кожнага свая думка. Цяпер на экране царуе слова, і калі стае ўсхваляванасці і трываласці, яно валодае сэрцамі мільёнаў.

Да гэтага імкнуўся Маякоўскі, калі рабіў сцэнарыі, экранізаваў Джэка Лондана, сам ставіў і сам здымаўся ў крыху наіўных, на сённяшні погляд, фільмах.

Яшчэ на досвітку кінематографа, змагаючыся супроць «імпартнай чачоткі і алькова Амерыкі» ды супроць «вачэй са слязой мазжухіных», Маякоўскі абвясціў:

«Для вас кіно — відовішча.

Для мяне — светапогляд.

Кіно — праваднік руху.

Кіно — наватар літаратур.

Кіно — бясстрашша (калі спрытнюгі-прадпрыемцы не водзяць яго за ручку па вуліцах, збіраючы грошы і варушачы сэрцы плаксівымі сюжэтцамі).

Кіно — рассявальшчык ідэй».

Кінафільм — твор не толькі мастацтва, але і прамысловасці, тэхнікі. Твор калектыву. Яго найменне аўтарскі — залежыць ад пазіцыі аўтара. Тут, бывае, аддаеш крыві і нерваў больш, чым пры напісанні вершаў. Паэзія ўсюды застаецца паэзіяй, калі яна — паэзія.

Паводле маіх сцэнарыяў на кінастудыі «Беларусьфільм» і «Тэлефільме» знята сорак пяць дакументальных стужак, з іх шаснаццаць паўнаметражныя: «Генерал Пушча», «Арліная крыніца», «Агонь», «А зязюля кукавала», «Кветкі ў снежні», «Беларусь», «Колькі шчасцю год», «Вясна вернасці», «Мера любові», «Белая вежа», «Гарызонты дарог», «Магілёў — дні і ночы мужнасці», «Дарога без прывалу», «Балада аб мужнасці і любові», «Пяць год і ўсё жыццё», «Навальнічная далеч памяці».

Былі пэўныя здабыткі. Прагледзеўшы нядаўна двухсерыйны мастацкі тэлефільм «Рэха ў пушчы», паўнаметражныя дакументальныя стужкі, а таксама кінанавелы «Балада пра маці», «Там, за ракой — Дзяржынова», «Таямніца Івянецкай пушчы», «Бацька Нёман», «Адзін дзень у маі», «Я — крэпасць, вяду бой», «Яшчэ гарыць Хатынь»,— я вырашыў здаць у выдавецтва кнігу сваіх кінапаэм і кінабалад.

Адначасна працуючы рэдактарам аддзела паэзіі ў часопісе «Полымя» і членам сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі Беларускага тэлебачання, я не адчуваў, што «кіно адбірае ў паэзіі душу». Наадварот,— вучыць трапнасці зроку і думкі, маштабнасці і ашчаднасці ў слове адзіна патрэбным. Іаганес Бехер прыкмеціў: «Кепска, калі паэт толькі паэт... Нельга выраблядь вершы бесперапынна, неабходны таксама прамежкі жыцця, калі можна набраць дыхання».

І ўсё ж... Зноў перапыняе тое «ўсё ж». Не абысціся тут без споведзі. Толькі ў маладосці здаецца, быццам жыць табе вечна. Цяпер, калі азірнешся на перабыты час, бывае, сэрца страпянецца ад болю — колькі гадоў патрачана на сумятню, на дробязі!

Са снежня сорак шостага, не лічачы невялікага пера-

пынку, я вяду аддзел паэзіі ў рэдакцыі часопіса «Полымя». Літкансультанта ў аддзеле няма. А сёння вершы, паэмы, пераклады, вершаваныя драмы не толькі пошта прыносіць — літаральна з усіх раёнаў і гарадоў іх прывозяць пачаткоўцы і «канчаткоўцы». Некаторыя прабіўныя таварышы дастаўляюць на персанальных «Жыгулях» і «Нівах» рыфмаваную і верлібрам плеценую прадукцыю ў сталіцу. Не знайшоўшы цябе ў рэдакцыі, з'яўляюцца з пудамі макулатуры на кватэру.

З горкай усмешкай згадваеш верш Яўгена Вінакурава «Заг. паэзіяй»:

Я заведовал поэзией.
Позиция зава — позиция страдательная.
В ней есть что-то женственное:
Тебе льстят, тебя обхаживают.
На тебя кричат.
С двух до пяти
Я сидел за столом.
И делал себе врагов.
Это было нечто вроде
Кустарной мастерской:
Враги возрастали
В геометрической прогрессии.
Оклад, из-за которого
Я пошел заведовать,
Уходил на угощение
Обиженных мною друзей.

Дзесяткі тысяч чытачоў пішуць вершы. Чытае ўся краіна. Кепска толькі тое, што амаль усе, без адбору, вершы друкуюцца, і часта — з партрэтамі аўтараў: часам маладыя паэты, якім бракуе творчага росту, проста на вокладцы другога ці трэцяга зборніка даюць свой фотаадбітак на ўвесь свой караценькі рост. «Адных забіваюць раны. Другіх — лаўры».

Я, вядома, супроць накаута ў паэзіі.

У паэзіі, як і ў спорце, ёсць мера і надзея «трэцяй спробы». Я маю на ўвазе цяжар задачы. Сапраўды, ці варта турбаваць пяро, каб разменьвацца на дробязі?

Свет помніць, ведае сілу паэзіі. Кажуць, Гітлер не любіў Веймара і, бываючы ў Цюрынгіі, заўсёды абмінаў горад: палохалі вялікія прывіды — Гётэ і Шылер.

Патрэбны глабальны зрух, каб вярнуць паэзіі правы. Каб з'явіўся на свет дужы, жывы верш.

Пры штодзённых горных абвалах навуковай і тэхнічнай інфармацыі, пры касмічнай хуткасці жыцця такі верш чалавеку неабходны, як лыжка лякарства. Ды што там

лекі! У вулканнай Афрыцы паэт кінуў кліч: дайце верш, каб зоры зарыдалі!

Сёння і зоры плачуць. Неспакойны, трывожны свет. Эйнштэйн горасна ўздыхаў: чалавецтву больш за ўсё патрэбна лавачка, каб сесці і падумаць... У Чырвоную кнігу занесены рэдкія прадстаўнікі фаўны і флоры. Толькі чалавека там няма.

«Дайце верш, каб зоры зарыдалі!..»

Сёння едуць, ідуць у зялёныя ціхія сосны, «як у партызаны». Абдумаць жыццё. Сваё і народа. На самоце без сумоты. Але і там, як у трывожным дазоры, трэба трымаць думку на пільна насцярожаным курку радка.

Сакавік 1983



## Змест

ПАЭМЫ

**Вялюгін А.**

В 99 З белага камення — сіняе пламенне: Кніга паэзіі.— Мн.: Маст. літ., 1993.— партр., 254 с.
ISBN 5-340-01217-4.

Аднатомнік Анатоля Вялюгіна — своеасаблівая аўтарская анталогія, куды ўвайшлі вершы, паэмы, балады. Сярод іх — вядомая паэма «Вецер з Волгі», адзначаная Літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

В $\frac{4702120202-052}{М 302(03)-93}$ 92—93

ББК 84 Бел7

Літаратурна-мастацкае выданне

***Вялюгін Анатоль Сцяпанавіч***

**З БЕЛАГА КАМЕННЯ — СІНЯЕ ПЛАМЕННЕ**

Кніга паэзіі

Рэдактар *Г. В. Роліч*
Мастак *М. М. Грыбаў*
Мастацкі рэдактар *В. А. Губараў*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Я. А. Бебель*

ІБ № 3984

Здадзена ў набор 22.09.92. Падп. да друку 02.02.93. Фармат $84 \times 108^{1}/_{32}$. Папера кн.-часоп. Гарнітура звычайная новая. Ум. друк. арк. 13,44+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 13,55. Ул.-выд. арк. 12,84. Тыраж 3500 экз. Зак. 2282. Цана 40 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.